

**Магіла Алеся Гаруна,
адшуканая гісторыкам Алегам Латышонкам.
Кракаў, 1988. Здымак аўтара.**

# ЯЗЭП ЯНУШКЕВІЧ

# У ПРАДЧУВАННІ ЗНАХОДАК

## З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава





**ЯНУШКЕВІЧ ЯЗЭП** нарадзіўся ў 1959 годзе ў мястэчку Ракаў Валожынскага раёна. Скончыў філфак БДУ, аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АНБ, у якім працуе цяпер старшым навуковым супрацоўнікам. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча (выйшла асобным выданнем «Беларускі Дудар», 1991).

Шчасце даследчыка спадарожнічала Язэпу не толькі ў архівах роднай сталіцы, але і Вільні, Гародні, Львова, Масквы, Пецярбурга. Цяпер далучаюцца Варшава, Вроцлаў, Кракаў... Свае знаходкі публікаваў на старонках «ЛіМа», «Голасу Радзімы», «Нашай нівы», у часопісах «Беларусь», «Весці АН БССР», «Маладосць», «Полымя», «Тэатральная Беларусь», «Хрысціянская думка», у калектыўных зборніках і альманахах «Дзень паэзіі», «Тутэйшыя», «Шляхам гадоў». Ёсць публікацыі ў былых саюзных і замежных выданнях. Укладальнік «Твораў» В. Дуніна-Марцінкевіча (1984), Ф. Багушэвіча (1991). Падрыхтаваў да друку дзённікі Уладзіміра Караткевіча, «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага, мемуары П. Мядзёлкі. Аўтар дакументальнага сцэнарыя фільма «Жыццё як легенда» (пра П. Багрыма).

*Светлай памяці даследчыка —*
*Сцяпана Хусейнавіча Александровіча*

---

*Цярплівасць і яшчэ раз цярплівасць, настойлівасць у пошуках, пільная ўвага да дробязных, на першы погляд, фактаў і звестак, уменне прачытаць матэрыялы так, каб далёкая гісторыя ажыла і загаварыла, а таксама, шчыра кажучы, шчасце і нейкае інтуітыўнае чуццё — вось якасці, без якіх не варта пераступаць парог архіва ці рукапіснага аддзела бібліятэкі.*

С. АЛЕКСАНДРОВІЧ

# «Шукаючы, можна знайсці ўсё...»

## Замест уступу

Як лепш расказаць цярпліваму чытачу пра пошукі і здабыткі, гэта значыць не толькі пра адкрыцці, але і расчараванні, якія не абмінулі мяне ў архіўных сховішчах Польшчы? Спыняюся на традыцыйным для айчыннага літаратуразнаўства жанры — падарожным дзённіку. Яшчэ школьнікам, паводле дзённікавых нататак Сцяпана Александровіча, знаёміўся з архіўнымі скарбамі Варшавы, Вільні, Вроцлава, Кракава, Ленінграда, Львова, Мінска, Познані, Прагі, Торуні... Аднача сова пазнаваў «таямніцы архіўных сховішчаў» з вандроўных запісак Адама Мальдзіса; пазней — з публікацый Янкі Саламевіча, Уладзіміра Казберука.

Першыя захады ажыццявіць вандроўку ў Польскую Рэспубліку (тады яшчэ ПНР) рабіў Сцяпан Александровіч, мой навуковы кіраўнік курсавых і дыпломнай пад час вучобы на філфаку Белдзяржуніверсітэта, а пазней і кандыдацкай дысертацыі. Дзесь у канцылярскіх папках спачываюць пастановы сектара акадэмічнага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы пра мэтазгоднасць «дазволіць месячную стажыроўку аспіранту Янушкевічу». Але за акном стаяў 1983 год — не ідылічны для Польшчы. Давялося прачакаць паўдзесятка вёснаў.

Ужо адышоў у вечнасць Сцяпан Хусейнавіч Александровіч, ад якога атрымаў першыя, а таму незабыўныя ўрокі разгадак архіўных таямніц. Аднак словы ягонага тастамента, ягоная ўпэўненасць, што, «шукаючы, можна — раней ці пазней — знайсці ўсё. Ці амаль усё»,— сталіся для мяне больш чым словамі.

Калі ж урэшце надарылася магчымасць папрацаваць у польскіх архівах, не разважаючы, сабраўся ў дарогу. Каб, прашурфаваўшы тысячы старонак рукапіснай і друкаванай «руды», прывезці на Бацькаўшчыну каліва невядомых залацінак ад багатай колісь, але расцярушанай па свеце культурнай спадчыны.



**16 сакавіка, або Дзень першы**

У ноч на 16 сакавіка 1988 года, пакінуўшы за плячыма ліхаманкавыя дні збораў і афармлення належных папер (працэдура выезду за мяжу не дужа спрасцілася), у эскорце двух малодшых братоў з важкімі сумкамі я стаю на пероне мінскай чыгункі. Цягнік «Паланез» адыходзіць на Варшаву ў 01.30.

Знаёмства з Польшчай узору 1988-га (упершыню наведаўся туды ў 1986-м) пачынаецца з размоў у купэ цягніка. Да Варшавы еду разам з польскай журналісткай Малгажатай Вінярчык, аспіранткай у Варонежы. Тэма яе кандыдацкай дысертацыі — «Польска-савецкія сувязі ў 1980-я гады». На памяць прыходзіць сюжэт вялізнага здымка-транспаранта на сцяне завода, паўз які ездзіў з Ракава на лекцыі: Эдвард Герак у абдымках Леаніда Брэжнева (можа, і наадварот). Брэжнеў памёр. І сёння на сцяне замест здымка павесілі заклік: «Без сильного Союза нет сильных республик; без сильных республик нет сильного Союза». А Герак, з апавядання Малгажаты, і дасюль бязбедна жыве сабе на ўласнай віле ў Катавіцах. З Катавіц калісь маладым хлопцам ён выязджаў на шахцёрскія заробкі ў Бельгію ды Францыю. Пэўна, там трывала замацавалася ў яго свядомасці арыентацыя на Захад, ігнараванне кантактаў з Усходам.

А восьмай гадзіне варшаўскага часу на Цэнтральнай чыгунцы — сустрэча і прыемнае знаёмства з супрацоўніцамі Інстытута славяназнаўства ПАН. Адна з іх, спадарыня Мар'я Чурак, некалі скончыла філфак БДУ, вучылася разам з Вячаславам Рагойшам. Пад іх апекай завёз рэчы ў гатэль «Дом настаўніка», што на ўзбярэжжы Касцюшкі над Віслай, і кіруюся ў Палац культуры і навукі, дзе на дваццаць другім паверсе месціцца Інстытут славяназнаўства: аформіць паперы.

Набіраю тэлефоны варшаўскіх знаёмых. Усе на працы. Адгукнуўся толькі нумар польскага манюшка-

знаўцы, прафесара Вітальда Рудзіньскага.

— Пан прафесар у Вроцлаве, вернецца заўтра,— паведаміў жаночы голас.

Увагу запыняе стосік часопісаў на польскай мове «Беласточчына: квартальнік Беластоцкага навуковага таварыства». Апошні, чацвёрты, нумар за 1986 год пачынаецца артыкулам Мар'і Чурак «З гісторыі вывучэння фальклору Беласточчыны». Часопіс мне незнаёмы.

— Так,— тлумачыць аўтарка артыкула,— квартальнік выдаецца з 1986 года.

Трывожна ад маўчання тэлефона Стафаніі Сасноўскай, праўнучкі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, да якой два гады таму наведваўся на Саскую Кэмпу (Саксонская Выспа, прадмесце Варшавы). Кватэру ў восемдзесят гадоў надоўга не кідаюць.

Затрымліваюся на шостым паверсе, у бібліятэцы Інстытута славяназнаўства ПАН. У каталогу знаходжу тое, на што раней спадарыня Чурак, затэлефанаваўшы, чула ў адказ: «Адсутнічаюць». Запісваюся на часовы абанемент і атрымліваю дазвол узяць з сабою важкія тамы «Інвентароў рукапісаў Ягелонскага універсітэта ў Кракаве». Неспадзяваная прыемнасць: можна штурмаваць польскія архівы ў любую хвіліну дня і ночы.

**17 сакавіка. Першыя ўражанні**

З ранішніх падарожжаў па дырэктарскіх кабінетах, не застаўшы ў крэслах аніводнага гаспадара, тым не менш паспяхова калекцыяную казённыя бланкі, выдадзеныя сакратаркамі (чым не барацьба з бюракратыяй!) як дазвол на працу ў падначаленых ім установах. Нарэшце асядаю ў чытальні Галоўнага Архіва Старажытных Актаў (Archiwum Główne Aktów Dawnich, польская абрэвіятура АГАД). Аб'ектам пачатковых варшаўскіх пошукаў АГАД абіраю свядома. Знаёмячыся з публікацыямі Янкі Саламевіча, Адама Мальдзіса, Уладзіміра Казберука, склалася ўражанне, нібы даследчыкі абміналі АГАД увагай. Прынамсі, акрамя фонду «Ельскіх і Прозаравых», нічога беларускага ў ім не зафіксавана. Распісваюся ў «Інструкцыі для карыстання архіўнымі матэрыяламі», бачу: нашых даследчыкаў наогул сюды даўно не прываблівала. А раптам ёсць каштоўнае сярод так званых «акцэсіяў» (но-

вых паступленняў, далучэнняў)?

Зараз усё залежыць ад самога сябе. Закасваю рукавы, каб папрацаваць ды штосьь адшукаць. Пачну з фонду Навасільцава. У кіпцюры царскага сенатара трапілі сшыткі вершаў Паўлюка Багрыма, дзе і загубіліся.

Увечары знаёмлюся з новым памяшканнем клуба БГКТ на Старасьцінскай. Лекцыю пра палітыку беларусізацыі 1920-х гадоў, падрыхтаваную колішнім старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН Беларусі, а цяпер выкладчыкам Вроцлаўскага універсітэта Міколам Івановым, сабралася паслухаць нешта асоб каля трыццаці. Найбольш — студэнцкая моладзь і людзі сталыя, каму за пяцьдзесят. (Апошнія бегам усёй вечарыны не азваліся ні словам: моўчкі паслухалі, моўчкі і развіталіся.) Вызначаны гаспадарамі парадак нечакана парушылі госці з Беларусі: мастацтвазнаўца Валерый Буйвал прывёз выставу беларускай графікі. Ягоным уступным словам пра сучаснае выяўленчае мастацтва на Беларусі і пачалася вечарына.

А дзесятай увечары таропка разыходзімся — гарадскі транспарт у Польшчы ходзіць толькі да 23.00; потым зрэдзьчасу курсуюць аўтобусы. Першая нязручнасць, з ёю давядзецца лічыцца, выбіраючыся пасля архіўнага дня да знаёмых.

**18 сакавіка. Архіўныя даведнікі нікога не вабяць**

Вопіс фонду сенатара Навасільцава гартаю ад канца, паказальніка імёнаў. Ні прозвішча Багрыма, ні іншых айчынных рэалій не знаходжу. Яно б адразу адкласці вопіс, але ў даследчыкаў заўсёды мусіць жыць надзея: а раптам? Раптам за неадгорнутай старонкай адчыніцца штосьці дужа істотнае з гісторыі Бацькаўшчыны? Незгасальная надзея вымагае штохвіліннай пільнасці, адточвае позірк і думку. Ад яе, надзеі, яснее памяць, калі імгненна мусіш свядома адказаць: звязана гэтае прозвішча (ці назва) з беларускай зямлёй. Пагадзіцеся, няпроста дзень пры дні — месяцамі, гадамі — жыць толькі надзеяй.

На адным уздыху прагледзеў па вопісе 946 спраў, выбраў больш за дзесятак сігнатур. Нічога сенсацыйнага, здаецца, не прадбачыцца. Пагартаю арыгіналы — пераканаюся. А замоўленыя справы выдаюцца хутка ці не таму, што на кожную запаўняюцца тры

фармуляры. Значыцца, трыццаць разоў пішаш сігнатуру, назву, прозвішча, дату... Прымальна, «працуючы» на сябе.

Ціхая радасць нават ад вымушаных аўтобусных вандраванняў па Варшаве. Яны — не марна страчаны час. Пакуль аўтобусам з плошчы Рачыньскіх, дзе месціцца АГАД, дабіраюся ў Палац навукі папалуднаваць, разразаю старонкі тома «Інвентара рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі» (1982, ч. III). Робіцца ніякавата: у бібліятэцы Інстытута славяназнаўства ПАН, як і ў нашай Ленінцы, архіўныя даведнікі нікога не вабяць.

Вяртаюся ў АГАД. На стале «Справа пра дазвол паляку Яну Гарайну, які знаходзіцца ў Парыжы, вярнуцца ў Расею і пра вызваленне ад секвестру канфіскаванага ў Гродзенскай губерні і герцагстве Варшаўскім яго фальварка» (1814 год, сігнатура 76). У тым самым годзе заведзена справа і на былога мінскага рыма-каталіцкага біскупа Якуба Дзядзерку; пад час «нашэсця непрыяцеля ў Расію» ён дазваляў тутэйшым шляхцянкам браць шлюбы з напалеонаўскімі жаўнерамі (прозвішча Машэраў на Беларусі ці не з той пары; «ма шэр» з французскай перакладаецца «мой дарагі»). На мове арыгінала вердыкт гучыць досыць грозна: «Изобличен был в противозаконных поступках и деяниях, нарушающих правила не только господствующей, но и собственной его веры». Больш трапна акрэсліць характар «злачынства» прадстаўніка «непануючай» рэлігіі і не прыдумаць. Яшчэ менш цікавай з архіўных загалоўкаў вымалёўваецца эпоха Мікалая Палкіна: «О воспрещении юношеству состоящих под главным начальством цесаревича пяти губерний и Белостокской области обучаться в Краковской академии, а также о тайном обществе, существовавшем в Кракове между учениками лицея святой Анны, коего целию было распространение и сохранение отечественного духа, дабы со временем быть полезным при восстановлении независимой Польши. 1823—1829. Секретно». Атрымліваецца: нарадзіся першадрукар з Полацка на тры стагоддзі пазней — не бачыць яму Ягелонскага універсітэта, як сляпому жабраку крывавых струпоў на сваіх збітых нагах.

Астатнія замоўленыя справы малакаштоўныя. Радуе напачатку якасць мікрафільмаў. Прабачце, апаратаў.

Выдатныя! Добра чытаю без акуляраў, узбуйненне ў 6—17 разоў (можна прыгледзецца да асобнага неразборлівага слоўца). Гэткай тэхнікі нам чакаць ды чакаць.

**19 сакавіка. Пачатак расчараванняў**

Дзень майго патрона, святога Язэпа, пачынаўся спадзяваннямі. Ноччу мінуў боль галавы, які прымусіў учора раней выкуліцца з архіва. Відаць, трэба збавіць тэмп, каб размеркаваць сілы да канца камандзіроўкі.

Перад адыходам з гатэля тэлефаную спадару Мар'яну Навакоўскаму — сардэчнаму добраахвотнаму апекуну праўнучкі Дуніна-Марцінкевіча, Стафаніі Саснoўскай. Яна зараз у Радаме, моцна хварэе. Дамовіліся назаўтра супольна выбрацца ў адведкі.

Пасля трэцяга архіўнага дня просіцца на язык тэрмін Адама Мальдзіса пра «першыя расчараванні». Выяўленыя ўчора па вопісе «Збор Нацыянальнага музея» дакументы з паметкай «Zamość» паходзяць не з Замосьця Аляксандра Ельскага (былы Ігуменскі павет), а з славутай крэпасці пад Люблінам. Ну і зусім таямнічая «накладка»: у справах, дзе, паводле вопісу, значыліся матэрыялы з Мінска XIX стагоддзя, ляжалі рэвалюцыйныя адозвы 1917 года на рускай і польскай мовах ды судовыя позвы, выпісаныя мяшчанам Радама. Таго самага, куды заўтра кірююся.

У суботу АГАД працуе да 13.00. Пасля няўдалага архіўнага дня даволі часу, каб супакоіцца, прайсціся пешкі паўз Стары Рынак, Кракаўскае прадмесце з кляштарамі, ля помніка Адаму Міцкевічу, пастаўленага ў 1890 годзе, да Новэго Сьвята. Упершыню шпацыраваў тут два гады таму, тоўпячыся ў маладзёжным турыстычным гурце камсамольцаў. На вока ніякіх зменаў не кідаецца. Урачыста вызвоньвае «зэгар» на стромкай вежы, натоўпы варшавян, асабліва тлумныя пасля касцельнай імшы, заліваюць вулкі і пляцы. Турысты таропка пстрыкаюць фотаапаратамі, спяшаюцца за гідам. Згадалася трапнае хэмінгуэеўскае: «Козы глазели по сторонам и вертели головами, как туристы».

Запомнілася абвестка пры ўваходзе ў базыліку св. Яна: «Маладзёжная дыскусійная група пры касцёле св. Андрэя Баболі запрашае на спатканне з доктарам Гэнрыкам Гарашэўскім, які раскажа пра ўплыў

Кастрычніцкай рэвалюцыі на польскую гісторыю. Спатканне адбудзецца 19.III а чатырнаццатай у студэнцкім цэнтры пры касцёле аа. езуітаў. Уваход з вуліцы Ракавецкай».

Ісці на дыскусію не выпадала; усе крамы ў суботу працуюць скарочана. Належала прыдбаць запасы.

**20 сакавіка. Праўнучка Дуніна-Марцінкевіча**

6.20 раніцы. На станцыі «Ochota» тэлефаную спадару Мар'яну Навакоўскаму. Высвятляецца, я паспяшаўся на гадзіну раней. Такой бяды: час можна прабавіць і на вакзальнай лаве з нататнікам, асадкай ды кнігай. Адно няёмка: сваім раннім званком, відаць, пазбавіў Мар'яна традыцыйнай ранішняй кавы з канапкамі — бутэрбродамі.

У чаканні аглядаю незнаёмы раён Варшавы. Тыповыя для сталіц чугуначныя забудовы з прыземістымі складамі-пакгаузамі. Дыхаць цяжка: пыл, смуга, пяршыць у горле.

— Так, паветра ў Варшаве забруджанае моцна,— пацвярджае пан Навакоўскі, неспадзявана хутка з'явіўшыся на станцыі. Расказвае пра міліцэйскі пастарунак на скрыжаванні вуліц Маршалкоўскай і Алеяў Уяздоўскіх, дзе паставыя мяняюцца штопаўгадзіны.— Нібы ў чарнобыльскай зоне,— дадае Мар'ян тлумачэнне, якое да канца свету будзе балюча зразумелае кожнаму беларусу.

Падаліся на станцыю Варшава-Глувна. Да сярэдзіны сямідзесятых гадоў яна лічылася найбуйнейшым чыгуначным вузлом польскае сталіцы. Пасля пабудовы Варшавы-Цэнтральнай галоўны вакзал запуставаў. Частку старых пуцей адвялі пад чыгуначны музей. Да адыходу электрычкі на Радам заставаўся час на міні-экскурсію. Спадар Мар'ян падводзіць да нямецкага бронецягніка, які ўлетку трагічнага для Варшаўскага паўстання 1944 года трымаў пад абстрэлам сталіцу.

— Я назаўсёды запомніў прарэзлівы свіст снарадаў, што вырываліся з таўшчэзных руляў. Адну з гармат варшавяне празвалі «ryczą̨ca krowa» («раўлівая карова»). Пападанне з яе ўшчэнт развальвала дзесяціпавярховік,— згадвае мой спадарожнік маленства, дзе месцяцца ўспаміны куды больш жахлівыя: уцёкі з бацькамі ад сталіншчыны, калі давялося ў 1939 годзе пакінуць родную хаціну на Вілейшчыне. Назаўсёды.

І вось — электрычка на Радам. За акном пад веснавым сонцам паплылі чароўныя краявіды. Каля Грабава над Пліцай міла ўразілі чатыры сарны на зялёным лапіку азіміны. Дзве плітанулі ў недалёкі лясок, а іх сяброўкі позіркам праводзілі вагоны. Думкі пакрысе перайшлі на Стафанію Сасноўскую.

Гісторыя знаёмства з ёю — даўняя і незвычайная. Упершыню пра Марцінкевічаву праўнучку пачуў увесну 1981 года. Збіраючы матэрыял для дыпломнае працы «Творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў святле новых архіўных матэрыялаў», я «выйшаў» на дырэктара Шыкуцёўскае васьмігодкі на Валожыншчыне Генадзя Равінскага, былога настаўніка Падневіцкай школы, што каля Малой Люцінкі. На пачатку 1960-х гадоў Равінскі пачаў ліставанне з нашчадкамі Беларускага Дудара. Апошнія прыязджалі на магілу прадзеда ў Тупальшчыну. Потым з далёкага Шчэціна прыйшло некалькі сямейных рэліквій: арыгіналы здымкаў Камілі Марцінкевіч-Асіповіч з мужам Казімірам і сястрою Яўгеніяй, зробленыя калісь на памятку ў халодным Салікамску, здымкі ўнукаў і ўнучак, а таксама фотакартка магілы ў Тупальшчыне з дубовым крыжам, пастаўленым у 1930-я гады. Пасля пераводу Равінскага ў Шыкуцёўскую васьмігодку музей у Падневіцкай школе заняпаў; новы дырэктар (нехта Казлоў) стэнды з арыгінальнымі дакументамі пра Дуніна-Марцінкевіча і ягоных нашчадкаў справадзіў на «захаванне» ў сталярню.

Я запісаў у Равінскага адрас Стафаніі Сасноўскай, зрабіў фотакопіі яе лістоў 1962—1966 гадоў і адаслаў у Шчэцін, чакаючы адказу на шматлікія запытанні. Аднак ліст вярнуўся ў Ракаў з паштовымі пячаткамі-тлумачэннямі: адрасат выбыў. Куды? Паспрабаваў удакладніць у Івянцы ў колішніх суседзяў Марцінкевічаў па Люцінцы, ды яны паведамілі, што гады два таму ліст з Шчэціна прынёс сумныя весткі пра смерць праўнучак Беларускага Дудара. Перасказанай журботнай навіною я і скончыў лімаўскую публікацыю «Кампазітары Марцінкевічы», дзе ўпершыню распавёў пра кампазітарскія здольнасці аўтара «Пінскай шляхты» («ЛіМ», 23.07.1983).

На новы віток пошукаў нашчадкаў Дуніна-Марцінкевіча мяне натхніў у 1984 годзе пісьменнік Сакрат Яновіч з Беластока, пераслаўшы колькі адрасоў поль-

скіх беларусаў «на ўспамогу». Пошукі прынеслі нечаканы вынік. (Асаблівая мая падзяка Рышарду Бутайлу з Сьвінавусьця над Балтыкай.) Адклікнуліся не толькі дзеці Галіны Каваліньскай, адной з праўнучак Дуніна-Марцінкевіча, якая сапраўды памерла ў 1979 годзе, але напісала і сама Стафанія Сасноўская, неабачліва занесеная ў спіс нябожчыкаў.

Нарадзілася спадарыня Стафанія ў 1909 годзе ў маёнтку Яхімоўшчына Ашмянскага павета. Дзесяцігадовай дзяўчынкаю засталася круглаю сіратою, удзельнічала ў Вялікай Айчыннай, з польскай дывізіяй імя Тадэвуша Касцюшкі прайшла няпросты баявы шлях ад першага бою пад Леніна да Берліна, адзначана найвышэйшаю ўзнагародаю Польшчы Virtuti Militari. Апавяданне пра мужную жанчыну годнае вялікіх старонак, і я абавязкова калісьці напішу іх. Цяпер жа, у вагоне электрычкі, вельмі шкадую пра забыты ў Ракаве лісток пытанняў, народжаных пасля перачытвання пісем ад Стафаніі Сасноўскай. Шкадую і на адсутнасць пад рукою магнітафона. Пакінуў бы для нашчадкаў голас праўнучкі аўтара «Гапона». Зрэшты, летась з пасольства ў Варшаве пераслалі запісаныя па маёй просьбе песні: словы і музыка Дуніна-Марцінкевіча, выкананне пад гітару — бабуні Стафаніі.

Убачанае ў Радаме прыгаломшыла. У змарнелай старой ледзь пазнаю ўсмешлівую, паўнатварую, жартаўлівую кабетку, якая двума гадамі раней, у часе першае сустрэчы на Саскай Кэмпе, распавядала пра свой пакутны лёс. Цяпер бабуня Стафанія з вялікай цяжкасцю звязвае словы, змушаная часта «пераводзіць дых». Маўклівыя паўзы я запаўняю апавяданнем пра ўсё новае, злучанае з Дуніным-Марцінкевічам: пра першае паэтычнае свята ў Люцынцы, пра наданне збудаванаму пад Ракавам Дому творчасці Саюза пісьменнікаў Беларусі «Іслач» ганаровага імя аўтара «Пінскай шляхты», пра абарону свае дысертацыі. На развітанне працягваю кнігу Генадзя Кісялёва «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча». Асцярожна правёўшы рукою па мяккай вокладцы, яна ціха кажа:

— Трошкі вось ачуняю і абавязкова прачытаю *.

Увечары — працяг сустрэчы з мінулым Беларусі.

* Сустрэча стала апошняй. Праз год, вясною 1989-га, Стафанія Сасноўская памерла. Пахавана ў Радаме.

Тэлефільм па аповесці Элізы Ажэшка «Над Нёманам». Кранальна.

**21 сакавіка. Панядзелак — дзень удалы. Першыя знаходкі**

Пакуль дзяжурныя супрацоўнікі шукаюць адабраныя вопісы, гартаю прапанаваны «Збор Нацыянальнага музея за 1422—1922 гады». Дачытваючы «рэдакцыйную» прадмову да таўшчэзнага машынапіснага асобніка, своеасаблівага каталога, трапляю на неабыякую для Беларусі інфармацыю. Аднак па парадку.

У 1950—1951 гадах Нацыянальны музей у Варшаве перадаў АГАДу калекцыю рукапісных матэрыялаў, назапашаную бібліятэкай музея бегам 1917—1950 гадоў. Узнікла яна выпадкова. Напачатку, у 1917 годзе, рукапісаў налічвалася некалькі сотняў, у 1926 г.— 1100, а ў 1938 г. — 2100 рукапісаў і аўтографаў. Пад час перадачы збор даходзіў да 20 метраў * і ахопліваў семсотгадовы перыяд (1223—1945). Рукапісы на мовах (адразу заўважаю розніцу): польскай, лацінскай, рускай, расійскай («pisane są w językach... ruskim, rosyjskim»), французскай, нямецкай. Сустракаю прозвішчы ахвяроўнікаў з Масквы, ЗША, Швейцарыі, Францыі. «Але да найбольш значных калекцый з выразным адбіткам паходжання, належаць:

1) рукапісы са збораў Аляксандра Ельскага, аб'ёмам каля 15 дэцыметраў (1,5 м);

2) архіў Канстанціна Тышкевіча з Лагойска (Барысаўскі павет), аб'ёмам каля 50 дэцыметраў (5 м)».

«Адносна Лагойскай калекцыі неабходна падкрэсліць, што яна — найкаштоўнейшая спаміж астатніх па багацці дакументаў, асвятляе пераважна мінулае сем'яў Букатых і Крышпінаў, паколькі архіў Тадэвуша Букатага, польскага рэзідэнта пры англійскім двары (да 1785 года, памёр у 1829), Канстанты Тышкевіч набыў у Лагойск ад сына Тадэвуша **. Рэштку архіва Крышпінаў Канстанты Тышкевіч, пэўна, «аддзядзічыў» (атрымаў у спадчыну) або памяняў на рукапісы іншыя».

---

* У польскіх архівах аб'ём буйных рукапісных сховішчаў вызначаецца пераважна не лікам адзінак захавання, а таўшчынёю дакументаў, калі іх скласці адзін на адзін.

**Tyszkiewicz K. Krótka wiadomość o familii Bukatych // Biblioteka Jagiellońskich w Krakowie. Rkps. 3138.

Славутая калекцыя ў Лагойску стала найкаштоўным рукапісным зборам сярод іншых архіваў Тышкевічаў (два ў Вільні, адзін у Біржах, адзін у Чырвоным Двары і іншыя). Фактычным заснавальнікам «музейнай» калекцыі лічыцца Канстанты, дзедзіч у трынаццатым калене. Хоць сам Канстанты Тышкевіч добра ўсведамляў гістарычную каштоўнасць сабраных ім матэрылаў, аднак збор яго не быў ані належным чынам спарадкаваны, ані каталагізаваны. Сваяк па біржанскай лініі, Юзаф Тышкевіч, у 1903 годзе пісаў пра рукапісныя дзядзькавы скарбы: «Архіў, які ніколі я не меў мажлівасці вывучыць зблізку, змяшчаў нязмерна цікавыя і важныя дакументы не толькі пра сямейную гісторыю, але і пра мінулае Літвы ад Ягелонскіх часоў і пазней... Спіс багаццяў ніколі не быў апублікаваны ні іх уладальнікам Канстантам Тышкевічам, ні ягоным братам Яўстафам» *.

Сын К. Тышкевіча, Аскар, не клапаціўся пра калекцыю, і пасля смерці ягоная жонка «ўсе зборы з Лагойска, у тым ліку і архіў, прадала Татуру з Мінска **. Тышкевічава радзіна імкнулася адкупіць archivaliju («архіўныя матэрыялы»), аднак намаганні, падобна, засталіся без пасляховых вынікаў ***. Якім чынам Лагойскі фрагмент архіва ў міжваенныя гады трапіў у Нацыянальны музей у Варшаве,— ці гэта дар сям'і Тышкевічаў, або некага іншага,— невядома».

Натхнёны высокай ацэнкай калекцый Аляксандра Ельскага ў Замосьці і Канстанты Тышкевіча ў Лагойску, дадзенай у прадмове да «Збору Нацыянальнага музея» магістрам Чаславай Садкоўскай (усе спасылкі ўзятыя адтуль), з хваляваннем гартаю «Інвентар збораў Нацыянальнага музея ў Варшаве, перададзеных у АГАД». Над першымі ж старонкамі задумваюся: «Вось каб хто наўмысна прыехаў у Варшаву на 7—10 дзён, пажадана гісторык-музейшчык (Генадзь Каханоўскі?), знаёмы з айчыннай культурай, і склаў, хоць бы цяпер, праз сто гадоў пасля распрадажы музейных Тышкевічавых скарбаў з Лагойска, каталог славутых экспанатаў, мізэрная частка якіх захоўваецца ў Варшаве. Зрэшты, мо назбіраецца і не зусім мізэрная. На-

* Tyszkiewicz J. Tyszkieviciana. Poznań, 1903. S. 81.
**Ibid.
***Uniechowski A. O sobie i innych. Warszawa, 1962. S. 16.

ват па сённяшніх мерках. Вось прагледзеў дзесяць адзінак Нацыянальнага музея, з іх чатыры пазначаны «Ze zbiorów Łohojskich Tyszkiewiczów».

14.00 (або 16.00 варшаўскага часу). Нездарма настойліва штурмаваў АГАД. Ён і падараваў мне першую неспадзяваную знаходку. Удачу зноў, як тры гады таму, у Львове, прынёс Ян Карловіч. Прызнаюся, калі ў суботу дзяжурная па чытальні, кіраўнік аддзела (шчаслівае супадзенне!) спадарыня Тэрэза Зяліньская заўважыла: «Калі спадара цікавяць матэрыялы Карловіча, у панядзелак пазнаёмлю з адным маладым супрацоўнікам — Яраслававам. Ён апрацоўвае новыя матэрыялы з віленскага дэпазіта (захавання). Здаецца, там сустракаецца і Карловіч»,— сэрца маё чарговы раз устрапянулася ў прадчуванні знаходак. Хоць за архіўным парогам яно неаднойчы перажывала скрушныя хвіліны пякучых расчараванняў ды разгубленасці ад няспраўджаных надзей. Праўда, цяпер разгубіўся з іншай прычыны, бо на мой стол прынеслі гэтулькі невядомай карэспандэнцыі, адрасаванай Яну Карловічу:

а) Міхала Федароўскага — 61 шт.;

б) Людвіка Каратынскага — 37 шт.;

в) Адама Гурыновіча — 4 шт.

Радасна зразумеў: трапіў на невядомую частку колішняга багатага ўласнага архіва славутага ў Еўропе фальклярыста, этнографа, музыказнаўцы, публіцыста і выдаўца. Мо і не надта вялікую, параўнальна з львоўскай знаходкай, дзе адшукаліся лісты Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Вінцэнта Каратынскага, Адама Кіркора, але па-свойму каштоўную для беларускай культуры. Асабліва пісьмамі Федароўскага і маладога паэта Адама Гурыновіча.

Вывучыць ліставанне не выпадала з прычыны дамоўленага спаткання з прафесарам Рудзіньскім. Адкладваю ўрачыста-хвалюючую часіну дэталёвага знаёмства на заўтра. Праўда, прафесар аказаўся заняты. Аднак у гатэлі я не заседзеўся. Патэлефанавалі з БГКТ, і я неспадзеўкі забіў двух зайцоў: зноў выступіў на Старасьцінскай, а пасля са студэнтам Міколам Вавранюком наведаў, балазе па-суседску з клубам, адзін з трох адрасоў сваякоў Зоські Верас, дасланых «бабуняй Людвікай» напярэдадні камандзіроўкі.

Калі выканаеш просьбу знаёмых — дыхаць лягчэй. Вось і атрымліваецца: панядзелак — дзень лёгкі.

**22 сакавіка. Сябрук Генадзя Цітовіча**

У АГАДзе капірую першую карэспандэнцыю ў папцы з лістамі Адама Гурыновіча, дасланую з Варшавы 28 студзеня 1888 года і падпісаную нечаканым псеўданімам «Беларус».

*«Шаноўны пане рэдактар!*

*Перадусім перапрашаю за мой апошні, жахліва пакрэслены ліст (калі спадар яго дастаў). Няхай тое з'явіцца вытлумачэннем, што пісаў яго пахапкам. „Wisły" не маю, але часам надараецца магчымасць яе чытаць. Трэці сшытак другога тома атрымаў, а ў ім падзяка за прыказкі. Было за што! Іншыя дасылаюць сотні... Але „ziarnko do ziarnka" і г. д., кажа адна прыказка.*

*Сшытка за б[ягучы] м[есяц] не бачыў, аднак, калі шаноўны спадар нешта да мяне мае, прашу адпісаць праз майго знаёмага, праз якога (карыстаючы з яго-най прысутнасці на Хмельнай) гэты ліст пасылаю. А калі і не, дык будзь пан ласкавы адказаць праз яго на наступныя пытанні:*

*1) Ці мой апошні ліст (открытое письмо) дайшоў?*

*2) Ці ў сшытку за б. м. змешчаны прысланыя мною «Лічылкі» („Mętowania")?*

*3) Калі выйдзе слоўнік прыказак п. Адальбэрга?*

*4) Ці паспяхова ідзе выданне „Wisły"?*

*Апошняе пытанне, калі яно слушнае, пакіньце без адказу, аднак не сярдуйце, што насмеліўся яго задаць. Запытаў таму, бо справа гэтая жыва мяне абыходзіць. Рэч вядомая, калі розныя бульварныя выданні пачуваюцца добра, дык паважныя выданні поспеху не маюць. Возьмем, напрыклад, „Wszechswiat", „Lud" Кольбэрга — імі завалены кніжныя паліцы. „Lud Cieszynski" Багуміла Збофа выдадзены ўсяго на лік трыццаці паасобнікаў і г. д. і г. д. Аднак не трацьма надзеі: Sursum corda!*

*Ласкава прашу адказаць. Застаюся з пашанай «Паходжання Русінскага, нацыі польскай Беларус» („Białorusin Gente Ruthenus nationae Polonus")».*

12.30. Сяджу ў «Клубе «Гама» (або проста ба́ры) Музычнай акадэміі імя Фрэдэрыка Шапэна, акурат ля дваццаціпавярховага хмарачоса, дзе жыве Юрка Туронак. Разважаю: ці гжэчна перапыняць жвавую

гамонку студэнткі з сівым сухарлявым чалавекам. (Падказаў бармен: — Прафесар Вітальд Рудзіньскі? Вунь ён...) Нарэшце імпэт размовы згас, і паколькі стрэлкі гадзінніка выразна паказвалі прызначаны час спаткання, я падышоў. Знаёмімся.

Шаноўны, сталага веку чалавек жыва ўваходзіць у беларускія рэаліі. І далёка не з патрыятычных меркаванняў. Проста з іх вытканы ўспаміны маленства і юнацтва. Нават самыя першыя, вядомыя з пазнейшых апавяданняў бацькоў. Напрыклад, адстаўны падпалкоўнік Багушэвіч (хто гэта?) за павітуху прымаў на свет 14 сакавіка 1913 года ў мястэчку Себеж першынца Рудзіньскіх; кумок ведаў на памяць «Дудку беларускую» свайго слыннага фамілята. Потым у Вільні пад час навукі ва універсітэце ў коле знаёмых Вітальда Рудзіньскага апынуліся Адам Станкевіч, Ежы Путрамант, Максім Танк. Запомніўся сваёй няўрымслівасцю Генадзь Цітовіч. Будучы беларускі кампазітар і дырыжор паспяваў вучыцца ва універсітэце ў прафесара Мараўскага на этнаграфіі і адначасова ў кансерваторыі.

Паступова размова заглыбілася ў мінулае Вільні, збочыла ў рэчышча прафесійных інтарэсаў Рудзіньскага — у эпоху Станіслава Манюшкі. І тут сутыкаюся з нечаканай гіпотэзай адносна музычных партытур першых аперэтак на словы Дуніна-Марцінкевіча «Чарадзейная вада», «Спаборніцтва музыкаў», «Sielanka» («Ідылія»).

— Партытуры ніколі не існавалі ў закончаным, цэльным выглядзе. А тым больш ніколі не выдаваліся,— пераконвае прафесар.— Інакш як вытлумачыць, што блізкі сябар Манюшкі Ян Карловіч, адразу па смерці кампазітара, збіраючы ягоныя рукапісы, ані разу не натрапіў на сляды «беларускіх» аперэтак, а толькі на іх урыўкі, паасобныя арыі. Беларуска-польскія «партытуры» — вынік творчага супрацоўніцтва аматараў і фахоўцаў, калі апошнія, з патрэбы, маглі імправізаваць.

Сапраўды, лагічна. І не супярэчыць тэзісу пра Дуніна-Марцінкевіча-кампазітара.

Развітваемся, дамовіўшыся пра новае спатканне, каб удакладніць сёе-тое ў тэкстах невядомых лістоў Станіслава Манюшкі, знойдзеных мною ўлетку 1985 года ў Аддзеле рукапісаў Львоўскай дзяржаўнай навуковай

бібліятэкі імя Васіля Стафаніка АН УССР.

Адразу пасля гамонкі, не палуднуючы, засядаю ў чытальні бібліятэкі Музычнай акадэміі, куды прафесар Рудзіньскі настойліва раіў зазірнуць. Кінь назад — знойдзеш спераду. Не толькі выканаў «просьбу» Мальдзіса наконт тэкстаў песень на вершы Яна Чачота з музыкаю Манюшкі (для картатэкі «Бібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў»), але спісаў арыю з аперэткі Дуніна-Марцінкевіча «Рэкруцкі жыдоўскі набор» у арыгінале (на польскай мове) і падрабязны каментар да яе. Потым, хоць і згаладнелы, еду ў АГАД, дзе дачытваю вопіс «Збор Нацыянальнага музея». З больш чым паўтары тысячы пазіцый адбіраю на прагляд 57 сігнатур.

Завяршаю дзень вячэрай ва ўтульным кабінеціку Юркі Туронка: за духмянай кавай і найцікавейшымі апавяданнямі з нядаўняй (перадваеннай і бліжэйшай) мінуўшчыны Беларусі. Вяртаюся ў гатэль позна, трымаючы пад пахай важкую папку — машынапісны асобнік дысертацыі «Беларусь пад нямецкай акупацыяй 1941—1944 гг.», паспяхова абароненай спадаром Туронкам у снежні 1986 года.

**23 сакавіка. Над лістамі Адама Гурыновіча**

За акном раніца — золкая і пахмурная. Але не ў маёй душы. Толькі што, гартаючы адзін з тамоў каталогаў рукапісаў Бібліятэкі ПАН у Кракаве, трапляю на цікавую пазіцыю: «Kryūda i praūda. Hutarka Biłaruskaja». У анатацыі патлумачана: Вершы палітычнага зместу падпісаныя крыптанімам Ф. П. (F. P.). На беларускай мове, 12 старонак. Сігнатура 3847.

Гутарка згадвалася яшчэ ў «Беларусах» Яўхіма Карскага, але дасюль ненадрукаваная і таму недаступная айчынным даследчыкам.

Дзень пачынаецца шчасліва. Акрылены, скачу цераз лужыны, падымаючыся ад станцыі «Над Віслай» угору на тлумны ад натоўпу Новы Сьвят.

У АГАДзе мяне чакаюць лісты Адама Гурыновіча.

*«Пецярбург 20 верасня 1890 г.*

*Шаноўны пане рэдактар!*

*Перапрашаю, што адважыўся дакучаць сваёй просьбай. Але даруйце мне, бо ў гэтым выпадку не ведаю, да каго звярнуцца; таму вымушаны зноў прасіць Вас.*

*Справа ў тым, што на адасланыя на імя пана каля дваццаці беларускіх песень, дастаў ліст, у якім Вы мне паведамілі, што „Wisła“ друкаваць іх не можа і што калі я захачу, дык пан будзе ласкавы пераслаць іх у Крак*[*аўскую*] *акад*[*эмію*]. *Што з імі сталася — не ведаю, паколькі ад таго часу ніякай весткі пра іх не меў. Аднак не зважаючы на гэта, працу ў тым накірунку, дужа для мяне прывабным, не кідаў і ў часе вакацый рабіў, што мог. Я сабраў яшчэ каля 200 розных песенак, якія хацеў, калі такое яшчэ мажліва, надрукаваць разам з раней надасланымі. Дзе, як і на якіх умовах — усё роўна, бо мне, як неафіту, першая апублікаваная праца дадала б болей энергіі і ахвоты да наступнай працы, якая, можа, вялікай карысці і нікому не прынясе, але і шкоды, з пэўнасцю, не зробіць. За найлепшыя лічу амаль усе песенькі, запісаныя ад пакаёўкі Кацярыны Смаляньскай з вёскі Золькі, прыпеўкі ад Аляксандра Шляпы з Дзем'яновіч. Паколькі, мяркуючы з Вашага ліста, „Wisła“ друкаваць гэтыя песенькі не зможа, дык прасіў бы шаноўнага пана пераслаць іх у Крак. акадэмію, бо сам не ведаю, якім чынам гэта зрабіць. На перасылку далучаю пры гэтым лісце 1 р. с*[*рэбрам*]. *На выпадак, калі і Кр*[*акаўская*] *ак*[*адэмія*] *не захоча друкаваць песенак, прасіў бы адаслаць іх назад. У кожным разе буду чакаць адказу шаноўнага пана з нецярплівасцю, бо праз яго даведаюся пра лёс мае працы.*

*Застаюся з шчырай павагаю*

*А. Гурыновіч.*

*Адрас. С.Пбургский Технологич. институт, студ. П к. А. Гуриновичу.*

[P. S.] *У гэтую хвіліну дастаў ліст шаноўнага пана, а таксама п. Капэрніцкага, і разам з усім тым адсылаючы, шчыра дзякую за яго. Даўно ведаў пра нечытэльнасць маёй пісаніны і большасць раней надасланых песенак проста каліграфаваў; аднак, не зважаючы і на гэта, бачу, што і яны напісаны не досыць выразна. Папрок шаноўнага пана, нібыта не імкнуся палепшыць почырк, не слушны, бо не толькі імкнуўся ўдасканаліць яго, але нават хацеў навучыцца пісаць леваю рукой, ды нічога з гэтага не атрымалася. Як ставіў крывулі, гэтак, відавочна, і далей будзе цягнуцца. Аднак у будучым для палёгкі карэктуры буду аддаваць пера-*

*пісваць на чыставік і сам стараецца выпраўляцца.*
*Застаюся з шчырай павагай*
*Гурыновіч».*

*«Пецярбург 20 лістапада* [*1890 г.?*]
*Шаноўны пане!*
*Прашу даравацъ за прыпознены адказ і прысылку паказальніка мясцін, дзе збіраў беларускія песні. Іх не аказалася пры песнях таму, бо падаў іх раней з надасланымі зборамі. Думаю, што паказальнік застаўся ў Вас і нават у выпадку адсылкі пан будзе яго добра памятаць. Бо, як мне падалося, тая мясцовасць Вам знаёмая: Вішнева над Вішнеўскім возерам належыць п. Яну Карловічу. Я думаў, што ўласна пан і ёсць ягоным уладальнікам. Дасылаю цяпер больш поўны спіс мясцовасцяў і навакольных вёсак, трымаючыся класіфікацыі п. Завілінъскага. Я меўся здзейсніць шырэйшае вывучэнне той мясцовасці з дадаткам мапаў, а таксама малюнкаў, аднак цяпер праз недахоп часу не магу гэтага зрабіць. Прасіў бы шаноўнага пана, калі гэта не дужа абцяжарыць, прагледзець па-хуткаму рукапіс і вызначыць, што менавіта трэба больш уважліва апрацаваць, якія выразы неабходна патлумачыць і якія малюнкі неабходна падаць. Ці можна замест малюнкаў у перспектыве даць іх у праекцыях, а таксама ў разрэзе? Выканаць гэта мне было б нашмат лягчэй. Далучаю тут яшчэ колькі анкетаў.*
*Застаюся з павагаю*
*А. Гурыновіч.*

[*P.S.*] *Камплекту панскай „Biblioteki „Wisły“ я не маю, і калі можаце яе прыслаць, буду дужа ўдзячны».*

*«Пецярбург, кастрычніка 8 дня* [*1891 г.?*]
*Шаноўны пане!*
*Са смуткам даведаўся, што з-за адсутнасці матэрыяльных сродкаў „Wiśle“ пагражае закрыццё. Вялікі жаль, калі такое здарыцца, бо з'явіцца доказам, наколькі наша грамадскасць мала гэтым цікавіцца і бачыць у гэтым карысць. Таму хацелася б ведаць: ці будзе „Wisła“ выходзіць у наступным годзе і ці шаноўны пан прымае артыкулы?*
*Я сабраў колькі беларускіх паданняў, павер'яў і казак. Надаслаць іх Вам або не? Таксама хацеў бы спы-*

*таць шаноўнага пана, ці не ведаеце, што станецца з матэрыялам, сабраным св. п. Капэрніцкім. Як вам вядома, сярод іх былі мае беларускія народныя песенькі; хацеў бы іх нейкім чынам атрымаць назад, бо, відавочна, апублікаваныя не будуць. У кожным разе, з нецярплівасцю чакаю ад пана адказу.*

*Застаюся са шчырай павагай*

*Адам Гурыновіч».*

Перапісаўшы (у якасці гімнастыкі пальцам і адпачынку-пярэдыху галаве перад новымі пошукамі) усе лісты Адама Гурыновіча, задумваюся: ці сапраўды належыць маладому паэту найпершы ліст за подпісам «Białorusin»? Сумненне і насцярожанасць нарадзіліся спакваля, ад пытанняў, на якія, колькі ні намагаўся, адказу не знаходзіў.

Па-першае, насцярожвае дата карэспандэнцыі: Варшава, 28 студзеня 1888 г. Што рабіў там малады паэт? Ці вядома пра ягоны побыт на пачатку 1888 года ў Варшаве?

Па-другое, насцярожвае і подпіс «Białorusin Gente Ruthenus nationae Polonus». Такі «псеўданім» за Гурыновічам нідзе не засведчаны.

Па-трэцяе, почырк першага ліста цалкам адметны ад рэшты аўтографаў.

Ці не таму, нібы падагульняючы свае сумненні пры апрацоўцы матэрыялаў, хтосьці з архіўных супрацоўнікаў на папяровай вокладцы справы надпісаў: Гурыновіч Адам. Тры лісты за 1888—1890 гг. І ўнізе алоўкам: 4 лісты (?).

Увечары прымаю сімпатычнага госця — Лёніка Тарасэвіча, з якім пазнаёміўся два гады таму. Разглядаючы падараваныя адным з найпапулярнейшых сёння мастакоў у ПНР каталогі ягоных прац, што пабачылі натоўпы наведвальнікаў Нью-Йорка, Лондана, Стакгольма, Рыма, Венецыі, слухаю ягоныя бясконцыя аповяды і моўчкі дзіўлюся: прызнаны ў Еўропе трыццацігадовы мэтр сумуе... па старонках нашай «Маладосці». Маўляў, нават удзел у будучай сусветнай выставе маладых мастакоў на летніх Алімпійскіх гульнях у Сеуле (своеасаблівая алімпіяда-спаборніцтва майстроў пэндзля, куды з Польшчы трапілі ўсяго 2 асобы!) не прынясе яму такога, ну... суцяшэння, ці што, чым 2—3 каляровыя слайды, з якімі магла б

пазнаёміцца моладзь Беларусі.

Лёнік хавае сваю прыхамаць за жарт: «Як пастарэю, не тая будзе асалода ад «Маладосці».

**24 сакавіка. Шчаслівая зорка Лёніка Тарасэвіча. Раптуляр Дароты**

Учарашняя гамонка з Лёнікам зацягнулася да поўначы, і я пакінуў госця начаваць у сябе. Балазе ў двухпакаёвых апартаментах пуставала канапа. Ранкам гамана, хоць з меншым напалам, працягвалася. Таму ў архіў выбраўся пазнавата. Не шкадую. Бо яшчэ да сустрэчы з Лявонам зажадалася махнуць рукою на старыя аркушы і нейкі дзень ці паўдня прабыць без ліхаманкавага прагляду каталогаў, інвентароў, без расчытвання рукапісаў, без узірання ў мікрафільмы. А вось сустрэўся Лёнік — самы раз пабадзяцца па Варшаве (калі яшчэ спаткаемся?) — а я зноў заспяшаўся ў архіў.

Тарасэвіч, без сумнення, нарадзіўся пад шчаслівай зоркаю, бо прынёс і мне ўдачу. Не пасядзеўшы ў АГАДзе гадзіны, сярод матэрыялаў «Віленскага дэпазіту», дзе знайшліся лісты Адама Гурыновіча і Міхала Федароўскага, трапляю на сігнатуру 34 «Лісты Францішка Багушэвіча да Яна Карловіча» са збору Таварыства сяброў навукі ў Вільні. Калі пісьмы Багушэвіча ў АГАДзе невядомыя — гэта бясспрэчны набытак для айчыннага літаратуразнаўства.

Паколькі фонд Віленскага дэпазіту ў стадыі апрацоўкі, дакументы яго выдаюцца са згоды супрацоўнікаў аддзела. А мой знаёмы, Ярак, з'явіцца толькі па абедзе. У чаканні яго гартаю фаліянт у грубай чырвонай вокладцы — фотаальбом Яна Булгака «Wilno». Некаторыя здымкі ў ім кранаюць лірычнасцю, замілаванасцю да роднага краю. Вясковы агарод з гумнішчам... Ля плота буяе дзядоўнік... Чырвоныя калючыя камячкі кветак, вострыя шаблі лістоў — спрэс у павуцінні. За няроўным штыкетнікам — сцяна будыніны з круглякоў-бярвенняў. А за хатамі абрысы дрэў, нібы ў тумане. І ці не [illegible] рэчкі ён, клубісты туман, падымаецца? Узіраешся і нібы чуеш булькатанне рачулкі — бруіцькоціцца сабе пад вербамі... Зажадалася часцінку роднага хараства сустрэць калі-небудзь на вялізных палотнах Лёніка Тарасэвіча.

Па абедзе Ярак кладзе на мой стол замоўленую

папку з пісьмамі. Чарговы раз нямеючы ў прадчуванні адкрыцця, калі прагнеш адгарнуць непрачытаную старонку з мінулага Радзімы, стрымліваю хваляванне, а праз хвіліну — расчараванне. І спіс, і копіі лістоў Ф. Багушэвіча да Я. Карловіча вядомыя. (Пазней, рыхтуючы новае выданне «Твораў» Францішка Багушэвіча, я дэталёва вывучу варшаўскі спіс і пераканаюся: ён адпавядае карэспандэнцыям, выяўленым Генадзем Кісялёвым на пачатку 60-х гадоў у ЦДГА Літвы.) А вось шэсць астатніх машынапісных копій аказаліся не пісьмамі Багушэвіча, а Аляксандра Ельскага (пазнаў па характэрным звароце «Ziomku!» — «зямляча»). Яны таксама вядомыя, друкаваліся ў «Пачынальніках». Пераглядаючы іх, спакваля ўзрастала ўпэўненасць, што бязмерна працавіты вучоны-народазнаўца з Ігуменскага павета ў мінулым стагоддзі паспяхова замяніў бы ці не ўвесь сучасны акадэмічны інстытут адпаведнага профілю, аддай яму ў распараджэнне выдавецтва «Навука і тэхніка». Гэтулькі апантанасці, заўзятасці, прагі дзеяння, столькі новых намераў, неардынарных задум паўстае ў кожным лісце да Яна Карловіча.

Затое пачуццё ўзрушанасці ад новай знаходкі перажыў над сігнатурай 725 са збораў Нацыянальнага музея пад умоўнай назвай «Раптуляр Дароты Даманавічоўны». «Раптуляр» (raptularz) — даўняе слова са значэннем «запісная кніжка, нататнік». Аляксандр Брукнер у сваім «Этымалагічным слоўніку польскай мовы» звязвае яго паходжанне ад кораня — rapt — раптоўна, нечакана (лацінскае rapio, raptus — схопліваць). Сапраўды, запісы ў нататніку рабіліся непрадбачана, пры нагодзе, і даўняя ўладальніца архіўнага раптуляра, Дарота Даманавічоўна, не магла ведаць, што запіша яна заўтра на тоўстых шэрых лістах. Невялічкі, кішэнных памераў нататнічак, меў колісь металёвую зашчапку. Мо нават з мініяцюрным замочкам, паколькі занатоўваліся ў ім сярод іншага часам рэчы інтымныя, асабістыя. Цяпер спражка адарвана, і мы з вамі можам зазірнуць, даведацца, што ў ім адзначалася.

На першай старонцы старадаўняга нататніка бачу песню выяўна не польскую, хоць сам пачатак запісу на польскай мове: «Anno 1772 m-ca Aprila 12 dnia. Texty zaczynają się.

Эй, калі для славы маскоўскай
Пуйдэм да бані гарачай...
А-ці-ці-ці-ці, гарачай..»

Перагарнуў ліст, мяркуючы зноў спаткаць беларускі тэкст, але далей спрэс ішлі песні на польскай мове, касцельныя. А на старонцы трынаццатай нават усплываюць пацеры па-літоўску. Згубіўшы надзею сустрэць беларускае слова, бязмэтна перагортваю колькі аркушыкаў, пакуль вачыма не затрымліваюся на знаёмых радках лацініцай: «Ja wżoż nasochsia jak łapać na pieczy, horkaja dola chto ż mianie poleczy. Rwutca maie żyły, jak huży w chamucie...»

Адгарнуў старонку, шукаю загаловак. Перакласці яго можна так: «Залёты аднаго гайдука да прачкі». Пачынаю капіраваць старажытны макаранічны верш, згадваючы і старога шляхціца Куторгу з неўміручай «Пінскай шляхты» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, дзе ў рамансе, звернутым да семнаццацігадовай Марысі, сталы кавалер аналагічнымі радкамі выказвае свае палкія пачуцці, і вершаваныя ўрыўкі з манаграфіі Аляксандра Рыпінскага «Беларусь» (1840), дзе таксама змешчаны падобныя ўрыўкі песень. Слова за словам, часам літара за літарай, але беларускі тэкст XVIII стагоддзя ўрэшце расчытваю амаль без цьмяных мясцін. Падаю яго з невялікай адаптацыяй.

### ЗАЛЕТЫ АДНАГО ГАЙДУКА ДА ПРАЧКІ

Як цетрэв седзонц в ельнічку балбочэ,
Так мое сэрцэ до цебе сакочэ.
Сэрцэ мое рветца власне як атоса,
Гды зачне таргаць праклента калёса.
Хоць верашчака, кілбасы дзелянка
і та несмачна без цебе, коханка.
Гдзе ж ты прэпадла, мне руціўшы * ■ смутку,
Чы Прачкі взелі, чы гдзе седзіш в кутку?
Ястромб летаёнц, в кібцях своіх трыма
Птушку злавлёну, а другі адніма.
Беднэ мое сэрцэ ў калаўроце ходзі,
Без мэй коханкі ніхто не охлодзі.
І дзергун смутны на вёсну дзергуе,
Самічку вабёнц зязюлька кукуе.
Ах, і мне ценжка на сэрцу скрабуе
Па мым сэрдэньку, што ўжо не відуе.
Бедны я цяпер, як вілк заўшэ вые,

* Руціўшы (*польск.* rzuciwszy) — кінуўшы.

Згубіл вільчыцу, а сам нуду піе.
Высушылэсь мне як скібку на грэндзе,
Кеды ж мэ сэрцэ смутку пазбэндзе.
Ведаіш цепер, цо бэндзе дзелаці?
Запрэнгшы каня, паеду шукаці.
Па цалым свеце да моей каханкі,
Ест у ней чуга і чарнэ абаранкі.
Я ўжо ж насохся, як лапаць на печы,
Горкая доля, хто ж мяне палечы.
Рвуцца мае жылы, як гужы ў хамуце,
Кеды ж пшыбэндзеш і сядзеш на куце.
Да Іры (?) на інтарэс вельку справу маю,
Я сардэчне ку тобе спрыяю.
Асліца велькім заўшэ кронгам ходзі,
Прэце * ж з тэскніцы сэрцэ не выбродзі.
Месёнц злацісты в ноцы пшэсьвяцуе,
А я каханкі нігды не відуе.
І гвязды свяцуя неба непосэмпна **
Кеды ж каханка не ест пшыстэмпна.
Недзведзю, вілку, рысю і вепру дзікі
В своей тэскніцы не маюць практыкі.
Хоць сроге і моцы і сярдзіты леву,
Нігды не недолю свэго нема гневу.
Бо хоць однідзе, зараз глосэм крычы,
І свой самічкі коханкі прыклічы.
А я ценжка беднэй волам *** крыкем плачэ,
А моей коханкі нігды не обачэ.
Смутку мой горкі, патр ****, як цябе люблю.
Кеды не пшыбэндзеш, то себе загублю.
Прынамней паглядзь, покуль жыцця стоіць,
А кеды помрэ, то се бэндзеш боіць.
Затым за морэ паляцел шыроке
Жэ бым мял скрыдла шукаць хоць глыбоке.
А там, знашодшы, нізкі паклон дае,
Бо твоім шчырым праўдзівым зостае.

Хоць позна заехаў сёння ў архіў, аднак і пакінуў яго пад самае закрыццё. Стомлены, няспешна шпацырую (без Лёніка, а хацеў бы з ім) пацяплелымі вуліцамі Варшавы ад пляца Рачыньскіх да пачатку Новэго Сьвяту, дзе побач з асветленым будынкам ЦК ПАРП моўчкі стаяць у прыцемку не менш «ганаровыя» суседзі: Музей Войска Польскага і Нацыянальны музей. Цікаўлюся іх раскладам. Неведаюся ў бліжэйшую нядзелю.

На заканчэнне дня, каб мець усяго пад завязку,

* Прэце (*польск.* przecie) — аднак.
** Посэмпны (*польск.)* — пахмуры.
*** Волам (*польск.* wołać) — клікаць.
**** Патр (*польск.* patrz) — глядзі.

ледзьве адчыняю дзверы ў пакой гатэля — тэлефонны званок. З Шчэціна. Люцына Каваліньская, жонка праўнука Камілі Марцінкевіч-Асіповіч, паведаміла: муж Багдан вяртаецца з плавання каля 15 красавіка (ён марскі афіцэр). Што ж, усё складваецца найлепшым чынам: акурат у сярэдзіне красавіка буду ў Вроцлаве, адтуль да Шчэціна найбліжэй (калі выбіраць паміж Варшавай ды Кракавам). І я нарэшце абдыму прамых нашчадкаў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

**25 сакавіка. Першы дзень у Нацыянальнай бібліятэцы.**

**Аўтографы Івана Франко і Міхала Грушвіцкага**

Дачакаўшыся першых знаходак у АГАДзе, вырашаю: пара скіравацца на іншыя ўстановы. Амаль па-суседску з архівам, перайшоўшы пляц Рачыньскіх, у колішнім палацы Красіньскіх месціцца аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі. Першае ўражанне — здзіўленне нечаканым раскладам працы аддзела: 8.30—20.30; у суботу 8.30—15.30. Вось дзе мне належала прападаць па 12 гадзін!

Аднак мушу патлумачыць: не рваўся сюды, бо не меў вялікай надзеі. Пасля чытання публікацый папярэднікаў, склалася ўражанне, нібыта фонды аддзела рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве прагляддаліся ўздоўж і ўпоперак, грунтоўна. З буйных знаходак айчынных даследчыкаў прыгадаю рукапіс паэмы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча на польскай мове «З-над Ісклачы, або Лекі на сон», знойдзены Адамам Мальдзісам у 1963 г., аўтограф аднаго з легендарных запаветаў Кастуся Каліноўскага («Браты мае, мужыкі родныя...»), выяўлены Уладзімірам Казберуком.

Сёння ж пераконваюся ў слушнасці меркавання. З замоўленых пяці спраў (больш за раз нельга) толькі ў адной ліст для карыстання (своеасаблівая метрычка пры кожнай адзінцы захавання) бялее чысцінёю, і я пакідаю свой аўтограф першы. Нікім не прагляданая справа мае загаловак: «Збор дробных вершаў, песняў і малітваў з часу паўстання 1863 года». У астатніх красуюцца па 10—15—20 подпісаў; сярод іншых бачу аўтографы Васіля Бандарчыка (1963 год), Уладзіміра Казберука (1977 год).

Знаёмлюся са «Зборам дробных вершаў...» і з сумнай зайздрасцю думаю: «Толькі нацыя сталая, багатая

на культурную спадчыну можа дазволіць сабе раскошу пакідаць за рысай няведання па-мастацку выдатныя патрыятычныя вершы». Адзін з іх — «Новая Польшча»:

Хто прыняў няволю ў грудзі,
Хто магілы продкаў пляжыць,
Той у подласьці і брудзе,
Той чужынскай мовай кажа.

Як матулі трэба гэта,
То для нас сьвятая справа,
Каб жылі у душах дзетак
Полым Прагі, кроў Варшавы.

Хто чужынца ў дом заводзіць,
Той не будзе люду сынам,
Бо варожым словам зводзіць
Ён у дол сваю Айчыну.

*Пераклад С. Сокалава-Воюша*

І подпіс ці то невядомага аўтара верша, ці то аднаго з ягоных перапісчыкаў: *М.*

Аднак сёння святкую маленькую перамогу. Узяўся перагледзець частку архіва польскага часопіса «Kraj» за 1880-ыя гады, куды дасылаў лісты Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. З папулярным пецярбургскім выданнем пэўны час актыўна супрацоўнічаў і Францішак Багушэвіч. Ні слядоў Беларускага Дудара, ні Мацея Бурачка я не знайшоў. Затое натрапіў на невялікі ліст Івана Франко і на аўтограф свайго земляка-кампазітара Міхала Грушвіцкага, аўтара музыкі да «Дзядоў» Адама Міцкевіча і «Вясковага лірніка» Уладзіслава Сыракомлі. Сямідзесяцігадовы стары (памёр у 1904 годзе і пахаваны на ракаўскіх каталіцкіх могілках) наважыўся ўдакладніць паасобныя памылковыя сцверджанні ў адной з публікацый на старонках часопіса «Kraj», падпісчыкам якога з'яўляўся шмат гадоў.

*«У рэдакцыю «Kraju»*

*Чытаючы артыкул «Перад бурай», дайшоў да моманту прыезду цара Аляксандра II («Kraj», № 44), а паколькі сам як жыхар Віленскай губерні, Вілейскага павета належаў да складчыны на баль і на тым балі прысутнічаў асабіста, дазволю зрабіць некалькі ўдакладненняў і дапаўненняў.*

*На ўрачыстае прынядце манарха склаліся тры*

*губерні: Віленская, Ковенская і Гродзенская. Аднак у Вільню з'ехалася шляхта не толькі «з-пад Коўна і Гродна», але з абодвух тых губерняў. З Піншчыны нікога не было, паколькі Пінскі павет, як прыналежны да Мінскай губ., прадставіў сваіх грамадзян на баль у Мінску, адкуль цар прыбыў у Вільню.*

*Таксама памылкова сказана, што на віленскі баль «выдаткавана 70 тыс. складчыны, па пяць капеек з дыму». З дымнага падатку такую лічбу не ўдалося б сабраць; плацілі мы па дзесяць капеек з кожнай падданай мужчынскай душы. У маім маёнтку было дымоў 21, а ў бальны камітэт я ўнёс 7 руб. 20 кап., або ў сем разоў болей, беручы за падставу названую прапорцыю; і агульны кошт склаў бы не 70, а ўсяго 10 тыс.*

*Да развітальных слоў, сказаных манархам пасля балю маршалку Дамейку і адразу апошнім абвешчаных шляхце, належыць дадаць яшчэ, што цар, дзякуючы за гасціннасць, сказаў: «Пастпяшаюся прывезці да вас Яе Вялікасць, каб сама стала сведкай, як Літва прымае свайго Манарха — Мяне».*

*На слупках артыкула «Перад бурай» (№ 44 «Kraju») змешчаны літаграфаваны партрэт гр. Сярг. Строганава, нібыта мінскага губернатара ў 1856 г. Граф Строганаў, рэч ясная, ім быў, але на 20 гадоў раней, у 1836 г., калі ж у 1856 г. мінскім губернатарам быў гр. Келер.*

*Калі мае заўвагі рэдакцыі ў нечым могуць прыдацца, ласкава маю гонар паведаміць.*

*З павагай Міхал Грушвіцкі, падпісчык «Kraju».*

*1898. Лістап. 6 (дня). Выганічы».*

Тыя Выганічы пад Ракавам, дзе зімою 1822 года ў будучую маці кампазітара, Фэліцыю Вайдзевіч, закахаўся афіцэр царскай арміі Аляксандр Бястужаў.

Іван жа Франко лічыўся не толькі падпісчыкам, але і актыўным супрацоўнікам «Kraju»:

*«Вельмі шаноўная рэдакцыя!*

*Ласкава дзякую за набытую і дасланую мне «Гісторыю літаратуры», аднолькава як і за наступныя сшыткі Венерава (ужо выйшаў сш. 13, з перасылкай яго прашу пачакаць, пакуль выйдзе яшчэ адзін альбо два, тады можна іх выслаць разам).*

*Дасылаю ўрывак з «Маніпулянткі». Я вельмі цешыў-*

*ся б, калі б гэтая навела магла быць надрукаванаю ў «Kraju».*

*Пра шырэйшыя карэспандэнцыі я не забуду, калі толькі надарыцца штось істотнае. Зрэшты, заўсёды пішу ў залежнасці ад матэрыялу, які знойдзецца пад рукой. Мажліва, што пад канец б[ягучага] г[оду] падрыхтую шырэйшы артыкул пра найноўшую русінскую літаратуру. Спадзяюся, што ш[аноўная] рэдакцыя не адмовіць мне плошчы.*

*Застаюся з праўдзівaю павагаю*

*Львоў, 18/10 1888* [*г.*]. *слуга Ів. Франко».*

(На перапісаны аўтограф славутага галічаніна я доўга не звяртаў належнае ўвагі перакананы, што ён вядомы. У тым мяне запэўнівалі славісты з Вроцлава (ці не Мар'ян Якубец). Аднак, не спаткаўшы прыведзеную карэспандэнцыю ў пяцідзесяцітомным Поўным зборы творчай спадчыны Івана Франко, выдадзеным бегам 1960—1980-х гадоў, наважыўся пазнаёміць з ёй беларускага чытача.)

**26 сакавіка. Перл у вянок Мураўёву-вешальніку**

«Калі паўстанне 1863—1864 гадоў лічыцца (і ёсць) агульным узброеным выступленнем польскага, беларускага і літоўскага народаў, значыць, у «Зборы дробных вершаў...» перыяду паўстання павінны захавацца творы, у якіх адлюстраваліся далёкія гераічныя і трагічныя дні для нашага краю»,— думаў я, зноў беручы ў рукі зграбны сшытак. Ну вось хоць бы верш «Літоўскія птушкі». Аўтар (подпіс неразборлівы) уласнаручна перапісаў твор 13 сакавіка 1865 г. для «вяльможнага пана радцы места Львова Антона Дабчанскага ў доказ удзячнасці і глыбокай павагі». У вялікім, больш за паўсотні радкоў, вершы родная Літва параўноўваецца з разбураным гняздоўем, дзе засталіся адно безабаронныя птушаняты пад «апекаю» каршуна. Аўтар з жальбою малюе скрушныя пейзажы пасляпаўстанцкай Беларусі. Нават вяртанне птушак з выраю не ўсцешыць ягонага сэрца. Бо «на вясновых крыгах Нёмана бачу людскую кроў». Можа, лепш пакінуць бацькоўскі кут, шукаць шчасця-долі ў белым свеце? Але ўцёкі з бацькоўскай зямлі — не выратаванне для чалавека, адданага свайму народу. Радзіма — яна адна, і калі сустракаць смяротную часіну — дык лепш пад родным небам:

Лепш у сваім спачынем краі,
Калі ястраб, кляты намі,
З хеўрай дзікай, азвярэлай
Літву «аздобіў» курганамі!!
*(Пераклад мой.— Я. Я.)*

У «Зборы дробных твораў...» захаваўся і буйны «перл» у гонар Мураўёва-вешальніка — «Надмагільны надпіс губернатару Літвы», сапраўдная паэтычная антытэза тагачасным панегірыкам кшталтам някрасаўскага тоста «Бокал заздравный поднимая...». Па гарачых слядах, пакуль не затлелі галавешкі спаленых сярод пералескаў азёрнага краю безабаронных шляхецкіх засценкаў, невядомы паэт напоўніцу расквітаўся з вешальнікам. Аўтар наказвае: нават мы, далёкія нашчадкі касінераў, згадваючы пра жудасныя дні 1863 года на Літве, павінны памятаць і караць царскага сатрапа... маўчаннем; у хаце павешанага не гавараць пра ка́та.

Як цяжка было сучаснікам Мураўёва, ягоным хаўруснікам — царскім сатрапам прызвычаіцца, што мінуліся беззваротна часы, калі за штурм Варшаўскага прадмесця Прагі надавалі тытул генералісімуса.

**НАДМАГІЛЬНЫ НАДПІС**
**ГУБЕРНАТАРУ ЛІТВЫ**

Ляжыць тут... стой! вандроўнік! Той вядомы хтосьці,
Чыё імя ў Літве і Польшчы абуджае страх нервова,
Падходзь бліжэй і плюнь са злосцю,
Бо ў той магіле падла ........!

Загнаныя ў Сібір ліцвіны з хат пахілых,
А трупы шыбеніц калыша вецер адмыслова.
Енк, кроў і смерць, крыжы наўкол, магілы,
Як надпіс на грабніцы ката .......!

Над той магілай, матка, выкажы дзіцяці
Сваё гарачае — да помсты заклік — слова.
Сіроты ўсе, застаўшыся без маці,
Душу хай праклінаюць ........!

Дык вешай, цар, святога знак Андрэя
На грудзі крыважэра, душалова.
Твой помнік побач — кат ля ліхадзея,—
Ты, Аляксандр Другі, ля Мураўёва!

І мо як нейкі Дантэ зноў у пекла сыдзе,
Яго старыя чэрці хорам прывітаюць новым:
«Сядзіць тут у смале гарачай злыдзень,
Што зваўся на зямлі калісьці ........!

*Пераклад П. Бітэля*

Па абедзе чакаў на прыезд Еланты Смельскай-Кошчук, журналісткі з Ольштына, прыяцелькі майго малодшага брата-скульптара (збірала ў Мінску матэрыял пра помнікі Адаму Міцкевічу на Беларусі). Разам з ёю наведаў касцёлік імя Станіслава Косткі — маленькі, убаку ад цэнтра Варшавы. На касцельным цвінтары спачывае цела трагічна замардаванага ў 1984 годзе ксяндза Папялушкі. Агледзеў размешчаную вакол алтара невялікую экспазіцыю з чорна-белых здымкаў. Вярталіся моўчкі — убачанае ўражвае. І паражытае. Хіба можна так катаваць, здзекавацца над чалавекам, чыё прозвішча на мову Пушкіна і Лермантава перакладаецца «Золушка»? Занурыўся ў развагах пра лёс сыноў з Беларусі, збянтэжаны выразным сугуччам прозвішчаў: Касцюшка, Манюшка, Папялушка (апошні паходзіў з Беласточчыны, ягоныя бацькі і дасюль гавораць па-польску з мясцовым акцэнтам).

**27 сакавіка. Перад палотнамі Косака, Тэтмаера, Рушчыца і Матэйкі**

Раніцою, маючы вольную гадзінку (нядзеля!), пачытаў апошнія нумары беластоцкай «Нівы» пра вандроўку Сакрата Яновіча ў Лондан. Потым паснедаў і вырушыў у музеі. Па плане на сёння іх два: Музей Войска Польскага і Нацыянальны музей.

Кожную раніцу, спяшаючыся з гатэля над Віслай (адным бокам ён глядзіць на Касцюшкаўскую ўзбярэжную, другім на вуліцу Ярача, акурат на вялізныя неонавыя ліхтары тэатра «Atheneum»), падымаючыся ў цэнтр горада, праходжу паўз два велічныя гмахі, збудаваныя ў адным архітэктурным стылі. На першы позірк яны робяць уражанне магутных, цяжкіх нямецкіх палацаў, дзе байніцамі ў высокіх каменных сценах — вузкія вокны (вузкія не толькі адносна суседніх будынкаў ЦК ПАРП і Польскага Агенцтва Друку). Прайсціся заламі аднаго з іх мяне штурхае пільны інтарэс.

У юбілейных артыкулах з нагоды паўстання 1863 года мільганула публікацыя, прысвечаная выключна гісторыі ўзнікнення фотавыяваў дваццацішасцігадовага дыктатара Беларусі і Літвы. Пра адну з іх, найбольш вядомую, здымак Каліноўскага ў поўны рост, адзначалася: «...у Дзяржаўным музеі БССР у скрыні № 8 пад інвентарным нумарам 1382 знаходзіцца

копія гэтай фатаграфіі, на палях якой зроблены надпіс лацінкай на беларускай мове: «Кастусь Каліноўскі». На музейнай картцы звесткі, што рэпрадукцыя ўзята з фондаў Музея Войска Польскага ў Варшаве. Ці сапраўды там знаходзіцца арыгінал... яшчэ належыць высветліць...»

І вось я ў доўгачаканых сценах. Цішыня і паўзмрок. У рэкрэацыі, ля касы, адзінокія палотны «Бітва пад Кіргольмам. 27.IX.1605» Война Косака (1928) і «Касінеры пад Рацлававічамі. 4.IV.1794» Уладзіміра Тэтмаера (1899). Мне ж патрэбны штандары.

Уявіце маё здзіўленне, калі адразу, пасля першай залы — з каменнымі ядрамі, марцірамі, польскімі і крыжацкімі латнікамі з часоў Грунвальдскай бітвы — убачыў угары палотнішчы: спачатку «Харугву Слонімскую», а за ёй «Харугву Гарадзенскую» (канец XVII — пачатак XVIII стагоддзяў). Болей ніякіх не прыкмячаю (не захаваліся?). Расфарбоўка на іх блакітная. Коннік на сінім полі. Можа, да сярэдзіны XIX стагоддзя нешта змянілася? Пабачым.

Мінаючы залу, прысвечаную паўстанню 1794 года, цікаўлюся звесткамі пра гісторыю ордэна Virtuti Militari. Узнагарода з'явілася ў 1792 годзе. Сярод узнагароджаных срэбным медалём першы запісаны генерал-маёр Тадэвуш Касцюшка. Запомніліся ягоныя словы на асобным транспаранце — эпіграф да экспазіцыі залы: «За саму шляхту змагацца не буду. Хачу вольнасці ўсяму народу і толькі дзеля яго аддам сваё жыццё» (Кракаў, 24.III.1794 г.). Апостальскія словы аптымістычнага пачатку паўстання не здзейсніліся. Паўстанне задушыў Сувораў, што ў будучым дапамагло яму атрымаць званне генералісімуса, а Касцюшку з Петрапаўлаўкі, куды яго замуравала Кацярына II, вызваліў сын імператрыцы Павел I. Адзін з бясспрэчна станоўчых учынкаў маладога цара. Тым самым манарх прыспешыў крывавы палацавы пераварот. Бо для паспяховага працягу ўдалай каланіяльнай палітыкі на ўсход і на захад, на поўнач і на поўдзень юнаму расійскаму дваранству не імпанавала гульня ў еўрапейскую Дэмакратыю і Асветніцтва; вяртаўся сум па моцнай руцэ паслядоўніка Пятра I. Падзівіўшыся на Еўропу з «прарубленага» акна, нашчадкі марылі стаць «жандарам Еўропы»...

Зала Студзеньскага паўстання. Адразу заўважаю размаітасць стракатых сцягоў: ад сціплых, без выяваў Арла і Пагоні, чырвона-белых вымпелаў да аграмадных сіне-бела-чырвоных штандараў. Аднак пераважаюць, як і ў XVII—XVIII стагоддзях, штандары чырвона-блакітныя. «Тыповы» ўзор — штандар у цэнтры залы. Увесь квадрат яго — звычайнае белае сялянскае радно; усярэдзіне — трохі выцягнуты прамакутнік, падзелены сіметрычна напалам: у левай частцы — Арол, у правай — Пагоня. Абедзве выявы белыя, аднак фонам для Арла абраны чырвоны колер, для Пагоні — сіні (блакітны). Падобныя ж спараныя выявы бачу на спражках рамянёў, якімі падпяразваліся паўстанцы.

Цікаўлюся, дзе архіў музея, каб агледзець арыгіналы здымкаў, выстаўленых у экспазіцыі (бачыў партрэт нашага Каліноўскага побач са здымкам Валерыя Урублеўскага). Адказваюць: прыходзьце сюды заўтра пасля 12.00.

У Нацыянальным музеі залы светлыя і людныя. Вандруюць замежныя турысты, прыезджы люд і самі варшавяне. Апошнія пераважна сямейна, з дзецьмі. Праз залы старажытнага мастацтва часоў сярэднявечча, Адраджэння набліжаюся да больш знаёмага мне XIX стагоддзя. Палотны Юльяна Фалата «Паляванне на мядзведзя», «Лось», «Краявід з зімоваю рэчкай» пазнаю сярод дзесяткаў іншых; калісь яны змяшчаліся ў нумарах часопіса «Tygodnik illustrowany», амаль усе гадавікі якога за 1859—1939 гг. я прагледзеў, выконваючы першае самастойнае навуковае даследаванне — курсавую «Беларусь на старонках часопіса «Тыгоднік ілюстраваны».

Палатно, дзеля якога марыў прыйсці сюды. Велічная «Зямля» (1898) Фердынанда Рушчыца, створаная мастаком на радзіме — у вёсцы Багданава ля старажытнага Вішнева. Удумайцеся: мэтру тады споўнілася... 28 гадоў!

У музейнай экспазіцыі славутае Рушчыцавае палатно аздабляюць паабапал пейзажы: злева «Старыя яблыні» (1900), справа «Стары дом» (1903), яшчэ правей «Вечар. Пейзаж з-над Вілейкі» (1900). На сэрцы стала шчымліва-тужліва, нібы, вяртаючыся з далёкай вандроўкі на чужыне, з акна цягніка ўбачыў родныя краявіды.

І нарэшце — сустрэча з гонарам польскага нацыянальнага мастацтва: Янам Матэйкам. «Бітва пад Грунвальдам» (1878). Больш панарамнай жывапіснай працы не бачыў у жыцці.

## 28 сакавіка. Пад астральнай зоркай 1863 года

Нібы працяг уражанняў ад учарашняга наведання Музея Войска Польскага, сённяшні дзень прайшоў пад знакам паўстання 1863 года. Зранку ў Нацыянальнай бібліятэцы праглядаю «Sztambuch des Andriolli» Міхала-Эльвіра-Андрыёлі (сігнатура III.6555)— альбом славутага графіка-ілюстратара. Для беларускіх даследчыкаў сшытак мае несумненную каштоўнасць, асабліва матэрыяламі з раздзела «Некаторыя падрабязнасці пра сасланых у Сібір», дзе пададзены звесткі пра катаржан з Беларусі. Найбольш сустракаюцца прозвішчы мне невядомыя: Анісімовіч Мікалай — з мястэчка Крынкі Гродзенскага павета, сасланы ў Сібір на два гады па справе 1831 года; Багуслаўскі Юзаф — з Літвы, з Брэсцкага павета, сын землеўласніка з вёскі Вайсковай, студэнтам Дэрпцкага універсітэта арыштаваны ў Дэрпце і прывезены ў Вільню па справе Канарскага, прыгавораны да высылкі ў Тамбоў, дзе знаходзіўся на казённай службе пад наглядам губернатара. У 1845 годзе вярнуўся да сям'і, але 14 сакавіка 1846 года арыштаваны і засуджаны ў Вільні разам з Апалінарам Гафмейстрам, Рограм і доктарам Рэнієрам. Вярнуўся ў 1857 годзе, схварэлы; выехаў на Карлсбадскія воды (Карлавы Вары), пад час вяртання на радзіму раптоўна памёр у Чанстахове; там і пахаваны; Бокій Міхал — з Мінскай губерні, засуджаны ў Нерчынскія капальні па справе Далеўскага; з 1857 года на пасяленні. Атрымаў 1000 палак; Хадакоўскі Дамінік — з Гродзенскага павета, вучыўся ў Прусіі, у 1846 годзе арыштаваны, у 1848-ым вавезены ў крэпасць Модлін, потым — у Усць-Каменагорскую фартэцыю, дзе і памёр...

Велічны і бясконцы мартыралог Беларусі, дакранаючыся да старонак якога і праз стагоддзі пальцы твае сціснуцца ў кулакі.

У аддзеле рукапісаў захоўваецца перапіска легендарнага «генерала Сондэрса», славутага ўдзельніка паўстання 1831 і 1863 гадоў Генрыка Дмахоўскага (сігн. III. 8922). Пачынаючы з1958 года, пісьмы вывуча-

ліся дзесяткамі даследчыкаў Польшчы і ЗША (Дмахоўскі — нацыянальны герой Амерыкі). Паставіў і я адрас «Mińsk», аднак вывучаць не стаў: рэч вядомая, а часу бракуе. Вось ужо 12.00, трэба спяшацца на «сустрэчу» з арыгіналам здымка Кастуся Каліноўскага.

Архіў Музея Войска Польскага месціцца ў правым крыле будынка і займае ўсяго 2—3 пакоікі. Сюды прыходзяць пісаць навуковыя доследы, вывучаць арыгіналы экспанатаў музея. Адзін з іх на маім стале. Невялікі (нават па тагачасных паняццях), але выдатнай якасці здымачак памерам 5,6×8,8 см. Да болю вядомая, гордая, незалежная пастава дзецюка. Ніколі б не даў яму 25 вёснаў — такія сталыя, цвёрдыя, адкаваныя жыццёвымі выпрабаваннямі валявыя рысы твару; праваю рукою, сціснутаю ў кулак, моцна абапёрся на выштукаваны інтэр'ерны столік эпохі ампіру, нібы гэта не выцацкаваная разьбяная мэбля, а надзейны плячук сябра. На адвароце здымка надпіс па-польску: «Канстанцін Каліноўскі. Кіраўнік Нацыянальнага ўраду на Літве, павешаны ў Вільні 1864 г., д. 9/21 сакавіка». (Памылкова. Трэба: 10/22.— *Я. Я.*) І заўвага: «Паводле здымка са збораў Концкага, № 28834; негатыў 766».

Заказаў фотакопію. (Потым, забіраючы, убачу, што копія партрэта атрымалася куды горшая, чым зробленая гадоў пятнаццаць таму для мінскага мастака-графіка Яўгена Куліка.)

Пад вечар, у матэрыялах, перададзеных са збораў Нацыянальнага музея АГАДа, зноў чакала сустрэча з 1863 годам. Успаміны Яна Чарноцкага (1835—1891), уладальніка Малых Савічаў у Мінскім павеце, сына Карла Чарноцкага і Амэлі з Равіньскіх. За ўдзел у Студзеньскім паўстанні яго выслалі ў Сібір (Алонкі). Звольнены ў 1868 годзе, вярнуўся ў Каралеўства Польскае. Колькі ні намагаўся, але дамагчыся адмены забароны пераехаць у свой маёнтак (да таго часу, рэч ясная, рэквізаваны) не здолеў. Асеў у ваколіцах Варшавы, набыўшы каля Лясной Падковы невялічкі надзел Алонкі (так назваў свой новы маёнтак для ўшанавання памяці пра сібірскую ссылку).

Падумалася: колькі ж вас, маіх далёкіх прадзедаў, не вярнулася жывымі да родных котлішчаў у лясной і азёрнай краіне. Адзінай. Забароненай. А таму ў міль-

ён разоў даражэйшай і найжаданейшай, што, здавалася, нябесны рай прамяняў бы на год жыцця ў ёй.

**29 сакавіка. Над альбомам Аляксандра Тышыньскага**

«Скажы мне, хто твае сябры, і я адкажу, хто ты». Ні энцыклапедычныя артыкулы, ні публікацыі самога вучонага з Беларусі не зрабілі потым на мяне гэткага чароўнага ўражання, як знаёмства з аўтографамі, пакінутымі ў зграбным альбомчыку. На чырвонай вокладцы каліграфічнымі залатымі літарамі зіхаціць надпіс: «Imionnik Aleksandra Tyszyńskiego».

Прозвішча ўладальніка гаворыць няшмат. Проста ў друкаваным каталожным апісанні маю ўвагу прыцягвае ганаровы пералік «знаёмых» імёнаў: у альбоме пакінулі аўтографы пераважна людзі «з літоўскай стараны родам». Вось, бадай, адзін з самых характэрных запісаў: *«У той краіне, дзе мы нарадзіліся, цябе паэзія і філасофія, мяне старажытныя мовы і гісторыя прывабілі. Плён уражанняў твайго сэрца і ведаў ужо квітнее на айчыннай ніве, і братэрскі працягнутая даланя заахвочвае мяне здзейсніць Вашыя надзеі. Пакліка괜ы запісаць тут сваё імя, ад душы прагну, каб яно без сораму калісь магло быць згадана сярод іншых славутых імёнаў. Варшава, дня 23 кастрычніка 1844 года. Мікалай Маліноўскі»*. Услед за аўтографам дасведчанага знаўцы мінулага Літвы, гісторыка, працы якога, на жаль, засталіся ў рукапісах, верш «Зямля, бацькоўская зямля...» упісаў Юзаф Крашэўскі. Праўда, сустракаюцца асобы і менш славутыя, але іх пранікнёныя радкі таксама запамінаюцца. Нехта з нашых старон, Юзэфа Асіноўская, адгукнулася васьміradкоўем: *«З наднёманскіх узгоркаў адбітае рэха ляціць і кружляе над кнігай успамінаў. Бо кажуць і ў нас, што літоўская душа адчувае паэзію і цэніць навуку...»* На адвароце — паэтычны водгук Тамаша Зана, занатаваны 19 жніўня 1845 года ў роднай Мясаце, дзе ў 1829—1838 годах жыў і ўладальнік альбома Аляксандр Тышыньскі, адзін з заснавальнікаў (1841) і актыўных супрацоўнікаў часопіса «Biblioteka Warszawska», выкладчык Галоўнай школы ў Варшаве. Там, у Мясаце, узнёслыя паэтычныя радкі накрэсліў Юльян Гарайн:

Што за кніга! Тут не жарты!
Розум тут людзей пабратаў!
Слаўных прозвішч поўны карты,
Што ні крок, то літаратар.

*Пераклад П. Бітэля*

Выбіваецца ў альбоме свабодалюбны маніфест аўтара лібрэта слыннай «Галькі» Уладзіміра Вольскага «Хіба воля — толькі ў краіне мараў?». А вось і аўтограф ягонага сааўтара, чыя музыка зрабіла «Гальку» несмяротнай. Замест нотнага запісу — пранікнёныя словы прызнання: *«Пяро, звыклае гарцаваць на разлінеенай паперы, нехлямяжа ставіць крывулі на гэтым чыстым аркушыку; нібы той цыркач, смела і ўвішна праходзячы па нацягнутым канаце, нязграбна ходзіць па зямлі. Але на тое, каб хоць не квяціста, аднак шчыра падзякаваць табе, знакаміты мой суайчыннік, за дазвол упісаць сябе ў кагорту жывучых у тваім добрым успаміне, адважваюся.*

*Станіслаў Манюшка.*

*1846 (года) верасня 18 д. Варшава».*

(Як высветліцца пазней, аўтар грунтоўнай манаграфіі «Станіслаў Манюшка» і складальнік капітальнага выдання эпісталярнай спадчыны кампазітара, прафесар Вітальд Рудзіньскі пра аўтограф нічога не ведаў; ён з удзячнасцю апублікуе яго ў варшаўскім часопісе «Ruch muzyczny».) Ну, а для мяне асабіста знаёмства з альбомам карыснае, паколькі ў артыкуле пра Тышыньскага, змешчаным у 5-ым томе «ЭЛіМБела», перастаў інтрыгаваць радок: «Сябраваў з В. І. Дуніным-Марцінкевічам». Сябраваць мо і сябраваў, можа, нават і згадваў пра Беларускага Дудара ў сваім «Дзённіку за 1829—1878 гады» (лёс рукапісу сёння невядомы), аднак, будучы спрытным паляўнічым на аўтографы, не парупіўся займець хоць колькі слоў ад сябрука з правінцыйнага Мінска.

Захапіўшыся альбомам, бачу, што магу запазніцца на дамоўленую сустрэчу з дырэктарам Інстытута славяназнаўства ПАН прафесарам Мечыславам Басаем. Ужо два тыдні ў Варшаве, неўзабаве перабірацца ў Вроцлаў, а так і не выпала нагоды сказаць словы ўдзячнасці дырэкцыі інстытута за шчаслівую магчымасць папрацаваць у архівах Польшчы. У час кароткага спаткання расказваю пра апошнія працы нашых навукоўцаў у галіне вывучэння беларуска-польскага літа-

ратурнага ўзаемадзеяння. Карыстаючы з выпадку, прашу перадаць шаноўнаму знаўцу славянскага супольніцтва прафесару Базылю Белаказовічу манаграфіі па гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры, выдадзеныя ў апошнія 2—3 гады.

Пасля сустрэчы, забегшы ў кафэ Палаца культуры і навукі (сёння, нарэшце, спраўдзіў на ўласныя вочы пачутае ад Лёніка Тарасэвіча: за вялікімі неонавымі літарамі на фасадзе выразна разабраў «Pałac imienia Józefa Stalina»), вяртаюся ў аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі. Паколькі ўвесь ранішні час праглынуў альбом Тышыньскага, на маім стале засталіся непрагледжанымі колькі папак. У адной з іх, «Вершы невядомага ўдзельніка венгерскага паўстання 1848 года», трапляю на ўкраінскую песню з часоў Вясны народаў.

### ПЕСНЬ РУСКА

Бувай ты здарова, дзяўчынонька моя,
Хай не забувае мэнэ мылісьць твоя.
На чужыну я ступаю,
Тэбэ, мыла, покідаю.
Ах, бувай здрова. (2 разы)
Зымні слугы Цара жэнуць мя в рэкруты,
Ах, бо ім солодко на вільносьти буты.
Выдырают з груды маты,
Выдырают з мылой хаты.
Долы ж наша, долы. (2 разы)
Ах! як будэш, дівчэ, рано воду браты,
Ах! як будэш, мыла, місяц споглядаты.
Ах, як будэш жыто жаты
Тай на мэне споглядаты.
На мэнэ сыроту. (2 разы)
Ступаю ні я Цару, бо спутані ногы,
Ах, бо сэрцэ знае, хто ему ворогы.
Вольні рукі зроблят путы,
Згынэш, Цару, від рэкруты.
Дівча, будзь здорова. (2 разы)

Падумалася: хоць паўстанне 1848 года на Галіччыне не дакацілася да беларускіх абшараў (Мікалай I прыклаў усе намаганні), а таму, натуральна, не адлюстравалася ў літаратурных помніках, аднак рэхам тых слаўных дзён Вясны народаў у Еўропе гучыць выдатны верш Уладзіслава Сыракомлі «Добрыя весткі».

**30 сакавіка. Спасцігаючы Вайніслава Суліму-Савіч-Заблоцкага**

З самае раніцы паджгаў у аддзел мікрафільмаў Нацыянальнай бібліятэкі; ён, аказваецца, у супрацьлеглым тарцы палаца Красіньскіх. Падганяла ўчарашняя вечаровая размова перад самым закрыццём бібліятэкі з пані Ганнай-Марыяй Валіньскай. Пра яе з захапленнем апавядаў мне яшчэ ў Мінску Уладзімір Казбярук. Так, спадарыня Валіньская — асоба дасведчаная і сардэчная. Ведае на памяць кожны том каталожных апісанняў і энцыклапедычных даведнікаў. Цяпер на пенсіі, ды, на маё шчасце, завітала па сваіх навуковых інтарэсах. Яна і растлумачыла, што мікрафільмы з усіх (!) рукапісных сховаў ПНР знаходзяцца вось тут, за сцяною. І зусім неабавязкова паўмесяца чакаць спаткання з арыгіналамі беларускіх вершаў Вайніслава Савіч-Заблоцкага ды «чарнавіком» паэмы «Тарас», а спраўдзіць іх змест хоць заўтра.

Мушу патлумачыць сказанае. Ужо восенню 1987 года я ведаў пэўна пра навуковую камандзіроўку ў ПНР, аднак дакладная дата ад'езду акрэслілася толькі 1 сакавіка 1988 года. 16 дзён — тэрмін закароткі для такіх збораў. Апроч усяго іншага — наведванне замежнага аддзела АН БССР ды пакорлівае выстойванне чэргаў перад кабінетамі акадэмічнай паліклінікі, штодзённая праца ў інстытуце, падгонка розных пільных спраў (падрыхтоўка для часопіса «Полымя» дзённікаў Уладзіміра Караткевіча). Аднак, з парады Адама Мальдзіса, дабраў часу і на прагляд каталогаў рукапісных сховаў ПНР. Найперш тых гарадоў, дзе пралягаў маршрут.

З дазволу шаноўнага чытача пераб'ю «польскі» дзённік старонкай архіўнага сшытка, заведзенага ў часе падрыхтоўкі да вандроўкі. (Бо цяпер цяжка ўзняцца да лапідарнага яе пераказу.)

«13 сакавіка, нядзеля. Ленінка, аддзел рэдкай кнігі. Праштудзіраваныя ўчора 6 тамоў каталогаў рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве нарадзілі паныласць. Пачуццё расчараванага паляўнічага, які раптам з Налібоцкай пушчы над Іслаччу і Беразіной, з берагоў Нёмана, Дняпра і Прыпяці або яшчэ далей — з берагоў Іртыша, Камы і Пячоры — трапіў на Віслу і Одэр. Хіба тут да д'ябла распачнеш паляванне, калі ўсё дзесяць разоў прагледжана, абмацана, устаноўлены почырк,

высветлены адрасаты, біяграфіі карэспандэнтаў і гэтак далей? Адно спадзяванне на так званыя «новыя паступленні» з неапрацаванымі матэрыяламі... Сёння на маім стале таксама 6 тамоў, але значна шчуплейшых: «Інвентары рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве».

17.00. Сённяшні дзень куды шчаслівейшы! Гадзіну таму пад сігнатурай 9191. III. «Калектыўныя адрасы, лісты і вершы, дасланыя на 80-я ўгодкі народзінаў у 1882 годзе Юзафу-Багдану Залескаму» сустрэў пазіцыю: «Вершы, дасланыя наступнымі асобамі: ...Савіч-Заблоцкі Вайніслаў-Казімір. Лл. 93—99. Беларуская пея («Białoruskaja pieja»), пісаная па-беларуску з моўным каментарам, а таксама тры кароткія вершыкі на польскай мове». Стрыманасць стрыманасцю, аднак узрадаваўся адкрыта: гэта ж знаходка! Беларускіх твораў Савіча-Заблоцкага ў Кракаве ніхто не знаходзіў. Потым у 16.30 хацеў уцякаць з аддзела рэдкай кнігі, аднак, даведаўшыся, што аддзел у нядзелю працуе не да 17.00, як звычайна, а да 18.00, вырашаю тэлефанаваць у Польшчу сваякам пазней.

Падказвала звычайная абачлівасць: сядзь, застанься. А раптам заўтра і пазаўтра не будзе вольнай часіны, каб заскочыць сюды? Тады давядзецца гартаць каталогі ў самім Кракаве, пахапкам. А навошта рызыкаваць, калі можна дома няспешна ўсё перагледзець? Спрацавала інтуіцыя «грыбніка», ці што: знайшоўся адзін баравік, шукай побач і другі (хоць мо Савіч-Заблоцкі для беларускай літаратуры XIX стагоддзя адно «падасінавік», «чырвоны граф», а «баравікі» — Дунін-Марцінкевіч і Багушэвіч). Так і сталася. Затрымаўся, а праз паўгадзіны ў вопісе таго самага фонду Залескага (сігнатура 9276. III. «Розныя аўтографы з спадчыны Юзафа-Багдана Залескага») прачытаў: «Акіньчыц Аляксандр. Верш пад назвай «Тарас», лл. 54—59, чарнавік; на л. 59 адв. заўвага невядомаю рукой: «Poesies Rutheniennes composes par dr Aleksandre Ok.» («Русінская паэзія, складзеная д-рам Аляксандрам Ак.»). Паспеў падумаць: «Чарговы польска-ўкраінскі эпігон з калялітаратурнага асяроддзя Залескага. І каб хоць адзін вершык на мове Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча. Але наступнае аглушыла — гэткае вялікае несупадзенне меркавання і фактычных звестак. «...а таксама чыставік, лл. 60—69. На л. 60

тытул: «Тарас. Напісаны вучнем Агранамічнай школы ў Корыгорках (Koryhorkach) Магілёўскай губерні ў 1854 г.» У склад чыставіка не ўвайшлі ўсе строфы чарнавіка».

От і маеш, браце, «баравіка»! Рукапіс «Тараса на Парнасе» ў Польшчы — рэч дакладна невядомая. Адно ніякавата — радасць адкрыцця, перажытая не дзесь там у мурах старажытнага Кракава, а ў Мінску, ля сцен роднага філфака. І горка задумаешся: «Май, браце, цярпенне», як любіў паўтараць Сцяпан Александровіч, знайшоў бы «Тараса» яшчэ студэнтам. «Шчаслівы» том «Інвентара рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі» выдадзены ў 1977 годзе!

Спадзяюся, зацягнуты экскурс у перадвандроўную падрыхтоўку адкрыў вам маю цікаўнасць і прагу высветліць: што хаваецца за скупымі радкамі каталожных апісанняў?

З паўгадзіны павольна кручу мікрафільм, дзе на 22 адбітках — чарнавік (12 кадраў) і белавік «Тараса на Парнасе». І хоць напятая хвіліна першага знаёмства спала, але па-ранейшаму не верыцца, што перада мною два спісы легендарнай паэмы. У чарнавым досыць багата правак. «Няўжо?..» Зрэшты, у любым выпадку, я «акупіў» перад АН БССР сваю 45-дзённую камандзіроўку «запланаванымі» знаходкамі. Астатнія, калі і трапяцца, будуць драбнейшыя.

Да занатаванага ў Мінску раблю невялікае ўдакладненне: у друкаваным каталогу месца напісання паэмы пададзена як Koryhorki; на тытуле «Тараса» пазначана выяўна Horyhorki. Паколькі мікрафільмы, найбольш чарнавіка, не лепшай якасці, вывучэнне асаблівасцяў двух невядомых спісаў «Тараса на Парнасе» пакідаю на Кракаў, на непасрэднае знаёмства з аўтографам. У зжаўцелых ад часу аркушах раптам інтуітыўна прачытваеш тое, над чым беспаспяхова біўся па фотакопіі, хай сабе і найлепшай.

Добрай аказалася копія твораў Вайніслава Сулімы-Савіч-Заблоцкага. Кінуўшы вокам на адзіны беларускі верш паэта, пераконваюся ў сапраўдным дэмакратызме таямнічага «чырвонага графа» з Белай Русі (пра яго жыццё гл. ніжэй у запісе ад 23 красавіка). Міжволі ўражвае моцны кантраст паміж «подобострастными» чалабітнымі пісьмамі да рэдактара «Вестника Европы» Міхайлы Стасюлевіча, апублікаванымі Гена-

дзем Кісялёвым у «Пачынальніках», і вольным беларускім словам, якое пралунала пад час урачыстасцяў у адным з парыжскіх літаратурных салонаў.

Гэй, Баяне Вукраіньскій! Гутарку Табе
Я сказаў бы, Беларусін, штобы была мілай...
Толька ў нашай хаце сядзіць у куце́
Маскаліска тугый с чорнай сваёй сілай!
Маскаліска тугый вяжэць нам язык,
Ў беларуськай хаце духнуць ня даець...
А хацеў бы я, гудар-маладзік,
Для Багдана, Польшчы сёгня пагудзець.
І хацеў бы я сердцэ з нёдр узяць
І ў маіх ручонках ў гусьлю абярнуць,
І хацеў бы Вам па укон гукаць:
Вам усё ад'ялі — нас ня адаймуць!
Ў бяларуськай хаце — ах, у мужыкоў,—
Многа сердца ёсьць... паляпей, чэм жыта!..
Для Багдана, Польшчы ня будзе там слоў
Памяць ўвек і любка! А таго дасыта!
Будзь жэ веліч[э?]ный, салаўю-Баяне!
Беларусін, я за ўсех кажу!
Як крэсьціў Ты Польшчу, пракрэсьці, Багдане!
Пріга́лубь к сябе Беларусь маю!
Доўга таптаваный люд мы над Дзвіною,
Тваей Польшчы дзецкій, ўжды няўзгодный люд,
Руськаю ніколі ня крівім душою,
Будзем Польшчай заўжды, як былі посюд!
Так галуб жэ, Бацько! сірых мужыкоў.
Пріга́лубь, Баяне, у гадзіне той:
Ў дамавіне, кажуць, што таргае кроў,
Калі гукне пея — а пея Ты Пой!

*В Парыжу, лета 1882, марця дня 19-а*

*Вайніслаў Казімір Савіч-Заблоцькій з Беларусі (польскій шляхціц-пан, а ў Гудаў грахф), быўшый галава Крывіцькаго Вязку.*

Мова твора, як бачыце, каларытна-квяцістая, і асобныя словы патрабуюць невялікага каментара. Напачатку не магу вытлумачыць нават сабе самому малазразумелыя мясціны. Дапамог паэт. Вершу папярэднічаюць дзве старонкі «прозы». Адна прысвечана разгляду характэрных асаблівасцяў беларускай мовы (фанетыка, арфаграфія) — як яны ўяўляюцца Савіч-Заблоцкаму. Мушу адзначыць іх навуковую дакладнасць і каштоўнасць; «мовазнаўчыя заўвагі» дапамагаюць транскрыбаваць тэкст згодна «аўтарскай волі». Каштоўныя яны і тым, што пачынаюцца загалоўкам, у творы не пазначаным: *«Да Язэпа Богдана*

*Залеськага, нашаго польскаго пеі, белоруськая пея-здаройка ва Яго восемдзесятыя іманіны».* На другой старонцы — празаічны пераклад верша на польскую мову. У ім паэт, сам адчуваючы найбольш «цьмяныя» мясціны, пераклаў іх з падрабязнымі тлумачэннямі. Менавіта з перакладу відаць адрозненне слова *«пея»* пры рознанацыяскных складах: *пяя́ — пясняр, пе́я — песня.* А словазлучэнне *«пея-здаройка»* паэт пераклаў адным словам: *віншавальная.* Апошні радок пачатковага чатырохрадкоўя ў тлумачэнні паэта выглядае так: *«цяжкі Маскаль, поўны чорнай, г. зн. злой, не Божай сілы».* У аўтаперакладзе нечакана паглыбляецца сэнс двухрадкоўя *«У беларускай хаце — ах,— у мужыкоў Многа сердца ёсць — паляпей, чэм жыта»: «У хаце Беларуса — на жаль! сёння толькі хлопа (яшчэ не грамадзяніна) — сэрца ёсць шмат, болей чым жыта».* Радок *«Руськаю ніколі ня крівім душою»* тлумачыўся ўзнёсла, патрыятычна: *«даслоўна: не крывім нашай рускай душы, гэта значыць не маем здрадлівага і аблуднага сэрца, не чынім фальшыва».* Іншыя малазразумелыя словы і мясціны ў перадачы Вайніслава Савіч-Заблоцкага: *гудар-маладзік — малады гусляр, пясняр; з нёдра — з глыбіні грудзей; па укон — аж да майго скону; да сыта — шмат, дужа шмат; крэсьціў ты Польшчу... — блаславіў ты Польшчу, так блаславі, прытулі Беларусь маю; няўзгодный люд — нешчаслівы народ.*

Апошняе двухрадкоўе (трэба сказаць, самае цьмянае) паэт пракаменціраваў досыць грунтоўна: *«Кажуць, што калі песня («pieja») весяліць, тады ў труне («дамавінка» ад слова «дом») зрываецца века («крой» — уласна: прыкрыццё, дах). Ты аднак, Багдане, пясняр над песнярамі, Геній! («пяя́-пой» — у беларускіх казках гэты выраз фігуруе нават як імя ці мянушка нейкага вялікага паэта-прарока, Поя, інакш Паяна; Баян?)».*

Не менш змястоўна ў польскім празаічным перакладзе каментуе беларускі паэт уласны подпіс, тлумачачы свае тытулы і пасады: *«Вайніслаў-Казімір Савіч-Заблоцкі з Беларусі, польскі шляхціц «natus et possesionatus», а ў Маскалёў («Hud» ад латышскага «Gudas» (Маскаль), літоўскага Maskolas, кажуць Czud*) граф, былы старшыня суполкі крывічан».*

---

* Русіна Белага, або Русака латышы называюць Krews, г. зн. Крывіч, Крывічан, Крывічанін (заўвага Савіча-Заблоцкага.— *Я. Я.*).

Што гэта за «крывіцькі вязак», дзе і калі ён існаваў — невядома. Як шмат што яшчэ ў біяграфіі «чырвонага графа» — таямніца.

Пакідаючы магчымасць больш удумлівага аналізу польскіх вершаў Савіч-Заблоцкага на Кракаў, пакнуўся замовіць фотакопію гутаркі «Крыўда і праўда», выяўленай ужо тут, у Варшаве, пад час прагляду каталогаў кракаўскага аддзелу рукапісаў ПАН. На жаль, акадэмічных матэрыялаў скапіравана пакуль менш за астатнія. Мікрафільма гутаркі няма. Што ж, пачакаем спаткання з шчодрым Кракавам.

**31 сакавіка. З гісторыі Мілавідаў**

Учора, акрыленаму знаходкамі, някепска сядзелася да паўночы ў цішы гатэля над каталогам рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта. Даволі багата матэрыялаў з беларускіх абшараў — пераважна дакументы па гісторыі нашых мястэчак, гарадоў. Таму сёння на першае спатканне з аддзелам рукапісаў Варшаўскага універсітэта іду нібы да добрага знаёмага. Адразу замаўляю сігнатуру 320: «Маёнткавыя акты вёскі і пушчы Моловіды Слонімскага павета». Дакументы асвятляюць больш чым двухсотгадовы перыяд гісторыі мястэчка, ля якога адбылася пераможная сутычка паўстанцаў з царскімі карнікамі на чале з Валерыем Урублеўскім. Даведваюся, што на пачатку XVII стагоддзя вёска належала Гэнрыку Маркварту, гданьскаму мешчаніну. 24 ліпеня 1647 года маёмасць перайшла Зыгмунту Каменьскаму, але праз 4 гады сын уладальніка, Стафан Каменьскі, заскаржыў у гродскі суд на Аляксандра Шэмета за «подлы захоп маёнтка Зазер'е разам з уладаннем і пушчай Мілавіды, спадчыны па бацьку Зыгмунту Каменьскаму», і за няпраўнае заарандаванне вёскі Мілавіды Янам Баканоўскім... І так — год за годам, праз стагоддзі да самай галоўнай даты ў неспакойнай гісторыі Мілавідаў, залатымі літарамі запісанай на скрыжалях Беларусі: 22 траўня 1863 года. Тут жа можна даведацца пра сівую мінуўшчыну гераічнага Бытаньскага шляху, дакладней, Бытаньскага базыльянскага кляштара, апетага Міколам Арочкам у вершы «Бытаньскі шлях».

Прагледжаныя справы — каштоўны, унікальны матэрыял. Ён вельмі прыдасца, калі спакваля будзе паўставаць «Гісторыя гарадоў і вёсак Беларусі», на ўзор Уладзімера Шчыкавай «Вёскі Віцькаўшчыны». Якім шляхам даку-

менты наваградскага ды іншых гродскіх судоў з уласна беларускіх абшараў трапілі ў Варшаву? Адказ просты: пад вопісам прагледжаных сёння матэрыялаў паметка: *«Са збораў М. Федароўскага»*.

Ад першага візіту ва універсітэцкі гарадок застаецца ў памяці вялікі транспарант з чорнымі літарамі: «Бібліятэцы Варшаўскага універсітэта пагражае разбурэнне».

**1 красавіка. Быхавец і Федароўскі — нарадазнаўцы**

Надышоў час патурбавацца пра білет на Мінск, але ранкам у «Polonesie» збыў дробны клопат. Праз месяц, 30 красавіка, «Паланезам» выеду дахаты. Заадно бяру квіток на Вроцлаў і тэлефаную ў Беласток Сакрату Яновічу наконт заўтрашняй сустрэчы. На прапанову спаткаць мяне ля цягніка адмаўляюся. Па дарозе заглядаю ў Інстытут літаратурных даследаванняў, дзе багатыя каталогі, выпісваю шмат пазіцый пра Вайніслава Суліму-Савіч-Заблоцкага. Ва універсітэцкай бібліятэцы канчаю пераглядаць матэрыялы са збору Міхала Федароўскага (скарыстаны Янкам Саламевічам у яго манаграфіі) і замаўляю, на просьбу сябра-лацініста Алеся Жлуткі, мікрафільм дысертацыі польскай даследчыцы Эвы Глэмбіцкай пра творчасць Францішка Князьніна.

У каталогу аддзела мікрафільмаў Нацыянальнай бібліятэкі, шукаючы патрэбны гадавік «Tygodnika Wileńskiego», выпадкам трапляю на «Tygodnik Wołkowyski». Пра выданне ў санацыйнай Польшчы 1920—1930-х гадоў аналагічных правінцыйных газетак ведаў і раней, хоць ніякіх звестак пра іх ні ў БелСЭ, ні ў ЭЛіМБеле няма. Палічыў за шчаслівую аказію пракруціць мікрафільм (гартаць арыгінал трэба ехаць у газетную залу сталічнай Варшаўскай бібліятэкі). Выданне, «прысвечанае справам Ваўкавыскага павета», штотыдзень на 8-мі старонках. Першы нумар з'явіўся 11 лістапада 1927 года. У рэдакцыйнай заяве абвяшчалася: «Не амбіцыя «горшага гатунку» паклікала да жыцця гэтае выданне. Зусім іншыя памкненні натхнялі ініцыятараў тыднёвіка. Перадусім прагнем стала паказваць для грамадства і пры яго як мажліва **шырокім супрацоўніцтве** ўсе дадатныя з'явы нашага супольнага жыцця» (падкрэслена рэд.— *Я. Я.*). Рэч ясная, на старонках тыднёвіка санацыйная палітыка пілсудчыкаў на «крэсах усходніх» абвяшчалася не каланіяльным рабаў-

ніцтвам беларускага народа, але адзіна слушным эканамічным шляхам. У газеце знаходжу багаты гістарычны матэрыял пра мінулае Ваўкавыска. Адразу, з другога нумара, у ёй друкавалася капітальнае даследаванне Аляксандра Быхаўца «Статыстыка Ваўкавыскага павета» (1840). Выкананая калісь па даручэнні Гродзенскага губернскага статыстычнага камітэта праца 87 гадоў праляжала ў рукапісе. Яна — своеасаблівая хроніка ваўкавыскай зямлі ад першых згадак у летапісах да сярэдзіны мінулага стагоддзя. Цяпер буду ведаць, што існавала не толькі «Хроніка Быхаўца», але і Аляксандр Быхавец, даследчык-краязнаўца, варты хоць бы скупой згадкі ў нашых энцыклапедычных даведніках.

(Адразу па вяртанні з Польшчы, на запрашэнне Саюза маладых журналістаў Беларусі, я наведаў родныя мясціны Кастуся Каліноўскага — Якушоўку і Свіслач. Там, з вуснаў «нашчадка» Быхаўца, дырэктара Свіслацкай дзесяцігодкі, аматара-краязнаўца Аляксандра Палубінскага пачуў пра «Tygodnik Wołkowyski», у прыватнасці, падрабязныя звесткі пра пабудову і адкрыццё помніка Рамуальду Траўгуту.) Фотарэпартажам урачыстага адкрыцця свіслацкага помніка пачыналіся спараныя нумары 24—25 газеты.

Трохі пазней штотыднёвік пазнаёміў чытачоў з жыццяпісам славутага паплечніка Каліноўскага (абодва скончылі Свіслацкую гімназію). Характарызуючы Рамуальда Траўгута з вайсковага боку, аўтар нарыса Тадэвуш Броніц, не баючыся перабольшвання, сцвярджае, што Траўгут на галаву пераўзыходзіў усіх паўстанцкіх камандзіраў, за выключэннем аднаго хіба Гаўкэ. Распрацаваная Траўгутам баявая сістэма тыральераў (tyraljerki) двойкамі забяспечвала беспярэпынны агонь і дужа абцяжарвала непрыяцелю арыентацыю адносна паўстанцкіх манеўраў. Бо калі адзін з двойкі валіўся ранены ці забіты, другі падбіраў ягоны штуцэр ці стрэльбу і сеяў агонь з дзвюх руляў. Каб выпарыць Траўгута з Гарэцкай пушчы спатрэбілася цэлая армія генерала Энгера, усе гатункі зброі і трохтыднёвы штурм. Прычым сам генерал быў паранены, страціў пад сабою каня і пазней звыкла паўтараў, што за ім засталося поле бою, аднак перамога — за Траўгутам.

Адвячоркам перабег у АГАД, каб парабіць выпіскі з найбольш цікавых лістоў Міхала Федароўскага да Яна Карловіча. Але пасядзеў і — махнуў рукою: усе

яны змястоўныя, каларытныя, наскрозь прасякнутыя краёвым патрыятызмам, хоць, як вядома, Федароўскі варшавянін. Усяго ў пачцы 67 пісем і тэлеграма (з Ваўкавыска ў Варшаву: «Возвратился, ожидаю нетерпением когда лошади выслать»). Першы ліст адасланы 17/29 верасня 1888 года з Косіна, што пад Ваўкавыскам, апошні 26 лютага 1903 года з Падолля ў Слонімскім павеце. Усіх старонак 269 (лічыў на выпадак каштарысу мікрафільма). Ды гэта — ці не асобнае выданне перапіскі двух славутых фалькларыстаў-этнографаў, каштоўны дадатак да 7-мі фаліянтаў «Люду беларускага», аднатомнік, дзе знойдуцца звесткі пра вандроўкі і ўражанні фалькларыста ад знаёмства з новымі рэгіёнамі (Слуцак, Нясвіж), пра здароўе і нездароўе гаспадара, часовыя непаразуменні ў сям'і. Пра самаахвярнае і сумленнае служэнне справе навуковага вывучэння Беларусі — нарадазнаўства. Не ўстрымаюся і знаёмлю цярплівага чытача ■ пачаткам першага ліста Федароўскага да Я. Карловіча.

*«Косін пад Ваўкавыскам, 17/24 верасня 1888 г.*
*Шаноўны пане!*

*Вярнуўшыся дахаты толькі ўчора, спяшаюся адказаць на ласкавы ліст шаноўнага пана, бо мне дужа непрыемна, што Вы амаль месяц чакалі на мяне.*

*Найперш шчыра дзякую шаноўнаму пану за дабрыню сэрца, бо робіце мне гонар, заклікаючы і надалей дасылаць у друк этнаграфічныя матэрыялы. Пра тое, што заклік прымаю з удзячнасцю, гаварыць дарэмна; адно паўстае пытанне: да апрацоўкі якіх матэрыялаў трэба брацца ў першую чаргу?*

*...Хоць шаноўнаму пану вядома, што вывучаць фальклор я пачаў 14 гадоў таму ў Кракаўскім павеце, аднак што ўся заслуга ў гэтай справе належыць Вам, напэўна, і ў думках пану ніколі не з'яўлялася. Але яно сапраўды так. Калі б мяне не заахвоціў панскі «Poradnik», які зусім выпадкова трапіўся ў рукі, дык несумненна, што сёння нават не марыў бы аб працы на ніве айчыннай этнаграфіі. Атрымаўшы тады моцны імпульс, без прамаруджвання і мапаў, з цвёрдым разуменнем важнасці мэты, я адразу ўхапіўся за збор народных рэчаў і да сённяшняга дня не сышоў з працоўнай арбіты, бо на абраным шляху так багата трэба зрабіць, і адпачынак лічу за смяротны грэх.*

*Неўзабаве пасля апрацоўкі матэрыялаў з Кракаўскіх ваколіц, я перабраўся на Літоўскую Русь і тут, у амаль ніводным этнографам не даследаваных мясцовасцях (паветы: Ружанскі, Ваўкавыскі, Сакольскі, Слонімскі, Лідскі і часткова Навагрудскі), за 11 гадоў сабраў матэрыялаў на добрых сем друкаваных тамоў...»*

Так высока адзначалася нарадазнаўцам першачарговая роля Яна Карловіча ў стварэнні велічнага «monumentum» у гонар народа з-над Дняпра, Віліі, Пцічы, Нёмна.

**2 красавіка. У Беластоку**

Заўтра — каталіцкі Вялікдзень, і ўжо сёння ўстановы ў Польшчы не працуюць. Шмат хто з варшавян учора-пазаўчора і нават тыдзень таму з'ехалі ў родныя мясціны на своеасаблівыя «велікодныя вакацыі» (Варшава, як і Мінск, ушчэнт разбураная ў вайну, узнялася коштам вяскоўцаў). З радасцю даю сабе пярэдых; каб не нудзіцца ў варшаўскіх камяніцах, вырываюся ў навакольнае турнэ: Варшава — Беласток — Сувалкі (Рутка-Тартак) — Ольштын — Варшава.

За акном плылі вясновыя краявіды. Пад Варшаваю снегу ўжо ані каліва. Бялеецца толькі дзе-нідзе ў кустоўі або ў глыбокіх выбоінах збоч дарог. Вока чапляецца за густое чорнае кратавінне на зялёных хусцінах сенажацяў і азіміны. «На дажджлівае лета парабілі сабе хады-норы», — мовіў бы мой тата. Блізу чыгуначнага насыпу (нават постаць разгледзеў) араты барануе поле. Дзяцюк маіх гадоў. Малады гаспадар спяшаецца распачаць сяўбу перад Вялікаднем (у народзе — шчаслівая прыкмета). Прыгадваю хвалю публікацый у нашай прэсе і горка думаю: «А колькі іх вывезлі ў Сібір, скалечылі ў 1920—1950-х гадах у нас, а пазней і тут. І ніколі нам іхняга не адрабіць. Не пражыць».

Сэрца агортвае дарожны сум. Гляджу на шырокі разліў рэчкі Нарвы пад Лапамі (міні-Палессе! дрэвы ў вадзе, а іхнія рабрыстыя адбіткі — на супакоеных тонях), адчуваю не захапленне ў душы, а марнасць. Хіба, чалавеча, усё на зямліцы нашай адно для цябе, для твае ўцехі? Не, браце, ты — макулінка, драбінка Прыроды. Яна — вячыстая. А ты згасаеш, часам так і не ўсвядоміўшы аблуднасці шляхоў сваіх.

...Беласток спаткаў дажджом. З вакзала, не распытваючы, сядаю на аўтобус № 10, выходжу на трэцім пры-

пынку. Вуліца Складоўскай-Кюры. На паддашшы пяціпавярховіка дзверы двухпакаёўкі адчыняюць гаспадары — Сакрат Яновіч з жонкай Таццянай. Уголас выказваю радасць ад спаткання, але, заўважаю, змяніліся яны абое. Выдаюць заклапочанымі. Апошняе дзесяцігоддзе выдалася няпростае для Польшчы, Беласточчыны і сям'і Яновічаў.

Палуднуем і спяшаемся з гаспадаром на шпацыр, каб зірнуць на «Wielkie miasto Białystok» (такі загаловак меў колішні зборнічак Сакратавых апавяданняў на польскай мове). Балазе дождж перастаў, і ў прасветліны хмар нясмела зазірае сонца. Можна шчоўкнуць колькі слайдаў, тым самым адрабіць «віну» перад Сакратам: два гады назад ён дапаў у Варшаву з ладным пакункам кніг, у «Дом турыста» на Кракаўскім прадмесці, дзе спынілася нашая група, і цярпліва пазіраваў мне ля камяніц Варшаўскага універсітэта, сваёй alma mater; слайды тады не атрымаліся.

Расцягнутая на гадзін пяць экскурсія (а як інакш спалучыць агледзіны стотысячнага горада і цікавейшы каментар майго дасведчанага чычэроне?) скончылася на ўскраіне, у кватэры Геніюшаў. Чую беларускае слова з вуснаў удавы Юркі Геніюша, сына адданай і незабыўнай паэткі, якога, вырваўшы ў маленстве з-пад матчынага крыла, ведамства Берыя-Цанавы намагалася ўзгадаваць манкуртам. Не атрымалася.

«І спачатку было толькі слова...

Бойцеся слова! Перад ім трапячыце. У ім ваша смерць, нягоднікі ды злыдні. І мала важна, сотні год ці тыдні біць яно будзе ў зачыненыя дзверы... Усё ж унікне.

Бойцеся слова...

Не закаваць у путы жаваранка ў небе. Спрабуйце перад строем мару расстраляць. Калі насустрач палымянай лавай льюцца словы... Калі іх рэхам адгукаецца зямля, палі, лясы, дубровы...» (З кніжкі Ю. Геніюша, выдадзенай у Беластоку ў 1981 годзе.)

У гэтую кватэру мяне прывёў клопат. Рыхтуючы да выдання кнігу ўспамінаў пра Уладзіміра Караткевіча, даведаўся, што паміж гэтымі «хлопцамі» (Бог мой! І абодва ўжо нябожчыкі...) вялося сталае ліставанне. Надзеі, на жаль, не спраўдзіліся. Архіў Юркі Геніюша яшчэ не спарадкаваны. Пытаюся, ці захаваліся аўтографы Караткевіча на кнігах. «Так, ёсць некалькі дарчых надпісаў, ды кнігі цяпер у нашага сына Міхася».

Замест караткевічаўскага, перапісваю аўтограф Ларысы Геніюш: *«Дарагому Міхасю здымак з тых часоў, калі людзі былі добрыя, свет цікавы і Божы. А вакол поле і побач бацькі, а недзе далёка, на канцы майго жыцця ты, мой унук. Кахаючая бабуня. Жнівень 1978»*.

Вярнуўшыся ўвечары, я ўсё ж дачакаўся караткевічаўскага аўтографа. *«Паважанаму Сакрату Яновічу з падзякай за ягоную працу на ніве беларускай. Так трымаць і надалей. Ул. Караткевіч. 20 сакавіка 78 г.»*. (Надпіс на «Зямлі пад белымі крыламі».) Потым Сакрат доўга апавядаў пра вандроўку ў Лондан мінулай восенню. З прывезеных адтуль дакументаў гаспадар кватэры дорыць унікальны — перапісаны ім уласнаручна верш Міхася Чарота, прысвечаны памяці Алеся Гаруна.

ЖЫВЫЯ АКОРДЫ

Спакойна спі, пясняр, далёка на чужыне...
Нашто пакінуў край, які быў сэрцу міл?
Ці, можа, ты хацеў, каб на палёх краіны
Стаяла менш крыжоў і менш было магіл?..

**3 красавіка. На Сувальшчыне — як на Радзіме**

«Хрыстос уваскрос!» або, як чуў у маленстве, «Chrystus z martwych wstał!»

Упершыню Вялікдзень сустракаю не ў роднай хаце. Сакрат Яновіч — п праваслаўных, ды яйка чырвонае на дарогу я такі атрымаў. Развітваюся з ім ля неаархітэктурнага беластоцкага касцёла, перарobленага з царквы (рэдкае выключэнне ў канфесійнай гісторыі Беларусі, дзе звыкла чынілі адваротнае, кіруючыся прымаўкай: «Чыя ўлада, тых і рэлігія»).

Цягнік «Hańcza» — Беласток — Сувалкі — вязе мяне ў «польскую Сібір», як называюць у Польшчы Сувальшчыну. І сапраўды, снегу тут яшчэ заставалася багата. Гляджу на маляўнічыя краявіды і дзіву даюся, наколькі ваколіцы Руткі-Тартак, дзе схаваўся хутар маіх сваякоў Пабондзе, блізкія да краявідаў роднага Ракава.

— Гэта ж твой дзядэк сумысля выбраў такую мясціну пад халупу, бо яму ўсё тут дужа нагадвала Радзіму, — сустракае мяне бабця Данута, не перастаючы дзівіцца, настолькі ўнучаты пляменнік падобны да яе мужа ў маладосці. Сэрца ахінае туга, што ўжо ніколі не пабачу дзеда, Яна Барздыньскага. Памёр тры месяцы назад, на Каляды. Памёр, не дабудаваўшы вялікай

новай хаты і пакінуўшы бабцю Дануту дажываць век у старой хаціне з глінянай падлогай у кухні, дзе ў закутку ля печы так добра грэцца куркам. «Ужо даўно пара выпускаць на двор, але яшчэ мокра», — скардзіцца бабуня. — Вось заўтра-пазаўтра выпушчу на волю». І дадае са скрухаю: «На Шлёнцку за Вроцлавам ужо сеюць, а ў нас яшчэ на санках ездзяць».

Робіцца сумна ад непазбежнасці, што зямлю старой Дануце давядзецца прадаць; не вяртацца ж яе дочкам, доктару батанікі Ганцы і магістру палітэхнікі Люцыне, з Варшавы і Вроцлава даглядаць восем кароў, трох коней ды гаспадарыць на 100 гектарах. Робіцца сумна ад прадчування, што я тут першы і апошні раз, а майму старэйшаму брату больш ніколі не маляваць пабонзеўскіх краявідаў. І ніколі больш не плаваць у дзедавым возеры.

**5 красавіка. Над аўтографам Дуніна-Марцінкевіча**

Выпаўз [illegible] ложка нейкім здарожаным, натомленым; учора позна вярнуўся [illegible] Ольштына ў Варшаву і, пэўна, недаспаў. Пехам шпацыраваў у аддзел рукапісаў універсітэцкай бібліятэкі, разважаючы, што вось на 20-м дні жыцця ў Польшчы злавіў сябе, вельмі цвяроза, на пачуцці грэблівасці да бясконцых размоў, мудрагелістых інтэлектуальных двубояў на грунце ўзаемнай, сташляхецкай павагі да rywala-саперніка. Успомнілася гётаўскае: «Нічога ў жыцці не баяўся я так, як пустых слоў».

Збіральнік з ігуменскага Замосьця, Аляксандр Ельскі, аказваецца, проста любіў ужываць слова ziomku-зямляча ў стасунках да ўсіх сяброў. Не мог жа ён насур'ёз лічыць «земляком» ураджэнца Цэнтральнай Польшчы Міхала Федароўскага. Хіба што «зямляк» — не геаграфічна, а па духу, свядомасці; нібы братэрскае прывітанне да ратніка на супольным талкавіску. Іх з'яднала поле беларускае. Адкрываючы перад Еўропаю народ з берагоў Дняпра, Віліі, Нёмна, Беразіны, Прыпяці, яны — беларус ды паляк — і сталі пабрацімамі. Як стаў для чылійцаў братам Ігнат Дамейка, для якутаў — Эдвард Пякарскі, для японцаў — Язэп Гашкевіч. То хіба не ў радасць для аднаго напісаць, а другому прачытаць пры жыцці:

*«Дужа шаноўны і найласкавейшы пане Міхале, зямляча мой!*

*Бог абдараваў Вас капітальнай здольнасцю, ведамі, воляй, нязвыклай працавітасцю, талентам, адзінствам сэрцаў і магутным пяром, а ўсе гэтыя якасці Вы цудоўна скарысталі на пажытак краю...»* Так, падобных «шчаслівых постацяў для ўратавання дарагой, каштоўнай, без розніцы паходжання, спадчыны продкаў» не мелі нават суседнія, не бяднейшыя ў культурных адносінах, народы.

Скончыўшы перагляд папераў Ельскага ва універсітэцкай бібліятэцы, пераходжу ў Нацыянальную. Знаёмлюся з рукапіснай паэмай Мацея Бардскага «Halszka» («Галюся», сігнатура II.8859). Зацікавіў рукапіс не адно пазначаным у каталогу пра аўтара «ганаровы старшыня шляхецкай зборні Менскай губерні». Наколькі я ведаў, Бардскі быў сябра і, здаецца, сусед Дуніна-Марцінкевіча па Люцінцы; и вось што пісаў паэзію — для мяне навіна. Значыць, сяброўства з ім у Беларускага Дудара грунтавалася, так бы мовіць, на прафесійных інтарэсах. Твор М. Бардскага ў нечым сугучны рамантычнай паэме знакамітага сябра «Люцынка, альбо Шведы ў Літве».

Патрымаў у руках і рукапіс самога Марцінкевіча «З-над Іслачы, альбо Лекі на сон»; значна горшая папера, бледны, выцвілы атрамант. Аднак цалкам нечытэльнае па содалеўскай фатакопіі чатырохрадкоўе Ельскага на самаробнай вокладцы рукапісу здолеў расшыфраваць (не без дапамогі супрацоўнікаў аддзела): «Тут змешчаны дакладна знятыя з натуры абразкі роднага краю...— рэч вартая выдання». Што ж, апублікаваная ўпершыню, больш чым праз стагоддзе пасля напісання, паэма (у выдатным перакладзе Пятра Бітэля), нібы абмыты расою луг з краскамі, аздобіла апошняе выданне «Твораў» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

**6 красавіка. Над запаветам Каліноўскага. Бывай, Варшава**

Даследчык мінулага Літвы і Беларусі Міхал Бранштэйн склаў «porozbiorowy» «Каляндар Вільні на штодзень», гэта значыць адабраў тыя выключныя падзеі, што адбыліся ў сталіцы былога Вялікага княства Літоўскага пасля разбойных падзелаў Рэчы Паспалітай (сігнатура I.10 643); кожная дата ў ім апавядае пра падзеі, знітаваныя з гісторыяй старажытнага крывіц-

кага места, у летапісе якога з нярэдкай зменай уладароў знамянальныя падзеі культуры чаргаваліся з расстрэламі.

«29 студзеня 1841 г. з Бекешавай гары абрынуліся ў рэчку Віленку апошнія тры сцяны вежы, збудаванай на загад Стафана Баторага на магіле памёрлага ў 1580 г. у Гародні Каспара Бекеша, начальніка венгерскай пяхоты. Васьмікутная вежа-помнік была дыяметрам $6^{1}/_{2}$ локця і вышыні 31 локаць».

«15 лютага. 1916 г. выйшаў № 1 беларускага часопіса «Гоман», выдаваны коштам акупацыйных уладаў. Рэдактарам быў Вацлаў Ластоўскі».

«22 сакавіка. 1864 г. (10.III) Вінцэнт-Канстанцін Каліноўскі, сябра «Аддзела кіруючага правінцыямі Літвы», народж. 21.I.1838 г. у Ваўкавыскім [!] павеце, быў павешаны на Лукішках у Вільні.

Апошняя пасляпаўстанцкая экзекуцыя ў Вільні».

І як я мог пакінуць Варшаву, не патрымаўшы ў руках аўтограф аднаго з легендарных «Лістоў з-пад шыбеніцы»?!

Папка паўстанцкіх матэрыялаў з сігнатурай II.7827. Дакументаў тут шмат. І за кожным — трагічныя, часам безыменныя чалавечыя лёсы. Вось як у наступным лісце.

*«Найдаражэйшая сястра!*

*Мяне дужа здзіўляе, што гэтак пішаце мне, найбольш, што ў такі час, калі поўна фіскалаў, праз якіх шмат церпіць наш лёс. Хто я такі — дык праўда, што брунэт і росту досыць высокага, не стары, бо маю 22 гады і яшчэ кавалак. Пра тыя імёны нічога не скажу, бо баюся, можа, гэта нейкі жарт, бо я ўжо досыць навучаны.*

*Цяпер ляжу ў шпіталі паранены ў нагу і так моцна, што, здаецца, страчу яе хутка назусім. Цяпер я пад сваім прозвішчам, толькі імя не маё, бо завуся Уладзіслаў. Для Вас і таго досыць ведаць; прашу не дзівіцца, што пры атрыманні рэчаў распісаўся Владислав, бо інакш не мог. Маё становішча настолькі крытычнае, што зусім не маю адзення, ботаў і астатняга, адным словам, жыву на ўтрыманні іншых. Калі будзе ласка найкаханай сястры Ст........, дык прашу не забыць калеку-брата і прыслаць праз таго самага, што аддасць гэты лісток. Здаецца, што ўжо больш ніколі Вас не пабачу... Ах, вялікі Божа, калі ўжо канец*

*маёй пакуце? Я хаджу на мыліцах і не болей як 10 крокаў на дзень... Бласлаўляю, прашу хутчэй напісаць, бо дужа цікавы. Ах, як баліць нага! Тая праклятая маскальская куля загубіла хлапца...»*

І ці аднаго? Колькі іх, цяпер навекі для нас невядомых дзецюкоў, панеслі з сабою ў магілу пакуты і нязломнасць маладых сэрцаў...

Дабраўшыся да лістка шэрай паперы, якая лёгка складаецца ў канверцік памерам сучаснай паштовай маркі, і зірнуўшы на пачатковыя словы «Braty maje, mužyki rodnyje!», адчуваеш: запавет апошняга караля Белай Русі апякае пальцы. Словы, прашаптаныя маладымі вуснамі ў сутарэннях віленскай турмы перад Звеставаннем 1864 года, на кароткае імгненне пераварнулі мае думы, зрабілі сучаснікам далёкіх трагічных дзён. Нібы не пралягло між намі стагоддзе і чвэрткай. Бывай, Кастусь...

Бывай, Варшава.

Чаго не чакаў, дык гэта ў апошні дзень свайго варшаўскага побыту трапіць на аўтограф-роспіс Адама Мальдзіса, пакінуты ім 29.V.1963 г. на адной з «далёкіх» архіўных спраў: IV.10 719. «Вясельныя бласлаўленні, з беларускага». У канцы рукапісу паметка: «З запісаў паловы XIX ст. падала Б. Свідэрская (Зборнік «Нашай нівы» 1912 г.)».

Вось так блытана трапляем на сцежкі, пратаптаныя іншымі.

**7 красавіка. Першы дзень у Вроцлаве**

Непасрэднае знаёмства са зборамі Асалінэума пачынаю з сігнатуры 4961/II «Лісты да Юльяна Барташэвіча пераважна як да рэдактара «Kroniki wiadomości krajowych i zagranicznych» за 1847—1870 гг. Гісторык і літаратуразнавец, сябра Віленскай археалагічнай камісіі Ю. Барташэвіч (1821—1870) яшчэ на пачатку 1840-х гадоў дапамагаў Яну Баршчэўскаму ў рэдагаванні альманаха «Niezabudka», як рэдактар згаданых выданняў спрыяў друкаванню ў іх карэспандэнцый з Беларусі. Хвалявала згадка, што сярод матэрыялаў захавалася перапіска Адама Плуга: 15 лістоў, дасланых у 1854—1859 гг. Акурат у гэты перыяд на старонках «Kroniki» Плуг друкаваў нарыс «Некалькі ўражанняў з падарожжа па Літве», напісаных у форме лістоў да блізкага сваяка Фэлікса Пяткевіча.

У нататках скарыстоўваўся невядомы матэрыял пра творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. На жаль, аніякіх згадак пра Навума Прыгаворку ў тых лістах Плуг не пакінуў.

З аднолькавай надзеяй напаткаць штосьці новае пра Дуніна-Марцінкевіча замаўляю сігнатуру 6200/ІІ «Лісты Юзафа-Ігната Крашэўскага да Уладзіслава Бэлзы» (78 карэспандэнцый за 1882—1887 гг.). Пры іх праглядзе бярэ адчай: усяго 12 дзён на Асалінэум і — 347 аркушаў, дробна спісаных рукою аўтара «Старой легенды». Надзеі марныя (хто бачыў почырк Крашэўскага, той зразумее).

Натрапіў і яшчэ на адно імя, знітаванае з лёсам Дуніна-Марцінкевіча,— на лісты ягонага літоўскага сабрата Мікалая Акялевіча (Мікалоюса Акялайціса), аўтара публіцыстычнай рэцэнзіі на першыя дзве быліцы «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, нешчасліва выдадзеныя ў беларускім перакладзе В. Марцінкевіча (Вільня, 1859 г.), бо спаленыя цэнзурай. Сам Акялевіч пераклаў на літоўскую мову «Гутарку старога дзеда», творча перапрацаваўшы беларускі першаўзор; у часе паўстання 1863—1864 гадоў, будучы памочнікам камісара паўстанцкага Часовага ўрада ў Аўгустоўскім ваяводстве, выдаваў літоўскія пракламацыі. Эміграваў потым у Францыю, жыў з працы чарнароба. Вось там яго і наведаў сябра, нехта Войцех Кятрыньскі. Пра акалічнасці іх сустрэчы апавядала адна з запісак:

*«Каханы мой Войтак!*

*Вяртаючыся цяпер з працы, знайшоў тваю візітку, якая спарадзіла ў мяне радасць і здзіўленне. Ты ж, пэўна, не прыбыў сюды на выгнанне, бо пруска-літоўскія багіні не такія ўжо жорсткія, каб асудзіць цябе на эміграцкае жыццё. Хацеў бы ў гэтую хвіліну абняць цябе; служба не дазваляе. Чакаю цябе заўтра, у сераду, а* $5^1/_2$ *вечарам, у маім пакоі. З'ямо разам абед і пагамонім пра ўсё, што на язык прынясе сліна. Твой назаўсёды Акялевіч. Аўторак, 5 студз. [18]69 г.»*

Выгнанніку, нават сытаму, сліна заўсёды прыносіць на язык смак хатняга хлеба, а думкі яго крыляюць на Радзіме. Эмігрант жыве ўспамінамі, нагадваючы ўдаўца, хай сабе і не старога гадамі, які ліхалеццем страціў сям'ю і не прымае шчасця з рук будучыні.

**8 красавіка. Кодэкс грамадзянскасці для літвінаў**

Жменька літаратурных матэрыялаў з эпохі паўстання 1831 года на Беларусі і Літве захоўваецца ў папцы з сігнатурай 7851/I «Збор патрыятычных і палітычных вершаў». Багата паўстанцкіх песняў: «Літвіначка, каханая...», «Спеў літвінкі», «Песня віленскіх эмігрантаў з Ашмяны». Праўда, усе яны на польскай мове, як і адкрыта патрыятычны «Кароткі катэхізіс для літвінаў», своеасаблівы кодэкс грамадзянскасці нашых далёкіх прадзедаў.

«П[ытанне]: Ці ты Літвін?
А[дказ]: Есць ім з Божай ласкі.
Хто ж такі Літвін?
Той, хто вызнае вольнасць і Права Статута.
Па чым пазнаць праўдзівага Літвіна?
Па знаку чыстага патрыятызму.
Які ж знак чыстага і адданага патрыятызму?
У імя Шаблі, Багнета, Пікі, пораху і алавянай кулі. Амэн.
Калі гэты знак Літвін павінен ужываць?
Якраз цяпер, калі мусіць занепакоіць і выгнаць Непрыяцеля.
Дзеля чаго мае скарыстаць той знак?
Бо перад ім згінуць Маскальскія ды Сібірскія Духі.
Без чаго Літвін не можа жыць?
Без вольнасці і еднасці з Палякамі.
Што ж такое Вольнасць?

Гэта значыць: быць Чалавекам, а не Зверам, свабодна жыць на радзіннай Зямлі, гаварыць і пісаць Айчыннай мовай, усталёўваць Закон агульнай радай, не падлягаць Царам і Ягоным Указам, перасяляцца з месца на месца паводле патрэбы, карыстаць са Шляхецкіх і Меставых Прывілеяў, весці вольны гандаль, чэрпаць асвету з усіх навук, ніколі не ведаць Губернатараў, Пракурораў, Сенатараў, Асэсараў, нарэшце, Навасільцава, Пелікана, Мяноўскага ды іншых на іх падобных Лотраў і Шпегаў...»

Вось на якіх запаветах узгадоўвалася пакаленне Дуніна-Марцінкевіча, нескароная кагорта багрымаў. Што Дунін-Марцінкевіч ведаў гэты катэхізіс, мне ўявілася, калі напрыканцы рукапісу напаткалася пытанне «Што такое Айчына?» і прачытаў адказ — «Зямля, на якой я нарадзіўся і вырас, паветрам якой дыхаю, якая мяне жывіць і корміць, дзе маю альбо меў Бацьку і Маці, Братоў і Сёстраў, Крэўных і Сяброў, дзе спачываюць цені Продкаў, дзе вольна магу рабіць, думаць і гаварыць роднай мовай, словам, гэта мая Матка,

а я яе Сын». У «Талкаваннях быліцы першай», далучаных да беларускага перакладу «Пана Тадэвуша», Марцінкевіч аналагічнымі вобразамі раскрываў перад сваімі чытачамі сэнс гэтага слова: «Атчызна — зямля, на каторай мы радзілісь, каторую ўпраўляем сваёй працай, на каторай пахаронены косці бацькоў, дзядоў дый праатцоў нашых, паветрыя, каторым мы атдыхаем, то завецца атчызна». І нездарма першы рэцэнзент беларускага «Пана Тадэвуша», згаданы Мікалай Акялевіч, падкрэсліваў: «Мы ўдзячны п. Марцінкевічу за «Пана Тадэвуша», апранутага ў беларускую сярмягу, а больш за ўсё дзякуем яму за падабраныя да яго заўвагі».

У абодвух працытаваных тлумачэннях слова «Айчына» — адбітак рэха з паняволеных абшараў, невылечны, невыка́зны боль, які залёг у сэрцах грамадзян не існуючай ад канца XVIII стагоддзя на еўрапейскай мапе дзяржавы.

**9 красавіка. Руда і залацінкі**

Скончыў знаёмства з адзінаццатым томам каталога рукапісаў Асалінэума. Машынапісным, дужа кепскім (4-ты ці нейкі 6-ты экземпляр). Учытвацца пільна належала ў кожную з 350-ці старонак. А на іх — нічога для Беларусі карыснага. Два прозвішчы, што напачатку спынілі ўвагу ў бясконцым індэксе імёнаў: А. Прушынскі ды А. Лявіцкі,— аніяк не стасаваліся да постацяў Алеся Гаруна і Ядвігіна Ш. Высветлілася: нейкі Прушынскі трымаў у Львове літаграфічную майстэрню, а ў Кракаўскім універсітэце выкладаў прафесар Анатоль Лявіцкі (1841—1899).

Ніхто не ўведае, колькі руды належыць падняць, каб здабыць каліўца залацінак...

Пэўна, і гэта не ад добрага жыцця, давядзецца перайсці на чытанне розных малавядомых друкаваных тэкстаў; заняцца тым, што часта рабіў Адам Мальдзіс. Я не кнігалюб Сач.-Д., аднак у маім становішчы нічога лепшага не выдумаеш. Зрэшты, хто ведае, раптам каштоўныя залацінкі бліснуць і ў друкаваных тэкстах. Ну, хоць бы ў п'есцы «Літвін, падляшук і варшавяк: Арыгінальная камедыя ў I акце, напісаная вершам» (выйшла ў 1823 г., аўтар Л. Дмушэўскі; сігнатура 11242/I)... Праз гадзіну канстатую: нічога

«арыгінальнага», банальны змест, ані слоўца «па-літвінску»; усё больш у тытулах, зваротах: «літоўскі» стольнік, кашталян, граф і г. д.; разважанне-гавэнда пра шчаслівае мінулае. Ды што рабіць папрокі аўтару п'есы Л. Дмушэўскаму: пакажыце такога чалавека, які б на схіле гадоў не песціў сантыментаў да мінуўшчыны.

Такім «нулявым» для архіўных знаходак днём у калідорах Асалінэума сустрэў... Вячаслава Шалькевіча; дацэнт нашага Белдзяржуніверсітэта цяпер выкладае гісторыю і філасофію ў Вроцлаўскім інстытуце сельскай гаспадаркі. Пачуўшы мае скаргі на малапрадукцыйнасць пошукаў, параіў зазірнуць у аддзел іканаграфіі, дзе захоўваецца багаты ілюстрацыйны матэрыял пра Беларусь XIX — першае трэці XX ст. Потым, на правах вроцлаўскага «старажыла», выцягнуў на міні-экскурсію па гістарычных мясцінах горада, здзіўлены, што я не мог адказаць, чаму гатэль, дзе жыву, называецца «Панарама».

— Гэта ж ад славутай «Рацлавіцкай панарамы», яна два крокі за гатэлем. Абавязкова наведай!

Ад яго ж пачуў пра выступленне акадэміка Ліхачова па радыё. Пажар у Ленінградскай акадэмічнай бібліятэцы вучоны назваў «Чарнобылем рускай культуры».

Мы тады не ведалі, што яшчэ доўга не знойдзем адказу на пытанне: «А што страцілі там беларусы?»

**10 красавіка, нядзеля**

Учора па абедзе ў «Панараму» прыехаў мой кузен Кшыштаф (ці проста Кшысь) і забраў да сябе ў Свідніцу — маленькі гарадок-мястэчка пад Вроцлавам, слынны хіба з таго, што ў ім савецкі гарнізон. (Сёння стаў сведкам, як увіхаюцца афіцэры з жонкамі, выцягваючы запакаваныя каляровыя тэлевізары з прамога цягніка Масква — Свідніца.)

Была вандроўка па свідніцкім наваколлі, былі доўгія ўспаміны пра ракаўскае возера, калісь поўнае залацістых карасёў, і пра Іслач з серабрыстымі фарэлямі-пстронгамі ды гарэзлівымі шчупакамі, пра нашыя лясы з крамянымі, бы маладзічкі, баравікамі. Пра ўсё мінулае і дужа мілае, бо нічога з гэтага, прыедзь цяпер Кшысь у Ракаў, ён не спаткае.

**11 красавіка. Народ і гісторыя**

Працягваю гартаць малавядомыя друкаваныя тэксты, найбольш трапляюцца з сюжэтамі пра далёкае мінулае. Задумаўся: якая ж маларапрацаваная ў нас гістарычная тэматыка. Апроч вайны 1941—1945 гг., рэдка хто паглыбляецца далей. А там, 100—200—400 гадоў назад, на наш народ абрынуліся свае (невыносна балючыя!) трагедыі; твораў жа пра гістарычнае мінулае, вартых, нацыянальных — як кот наплакаў. Небагата нават такіх «перыферыйнага» значэння і ўзроўню п'ес, як вось драма Вінцэнта Каралевіча «На руінах шчасця», заснаваная на падзеях Студзеньскага паўстання (сігнатура 10867/І). Мяркую, твор гэты ніколі не друкаваўся; напісаў сабе аўтар праз тры-чатыры дзесяцігоддзі пасля трагічных дзён, мо хтось яшчэ 2—3 разы перапісаў у сшыткі са скураной вокладкай, адзін з якіх цяпер на маім стале. Ці вось трохактовая драма «Зорка Сібіры». Яна паўстала з-пад пяра графа Леапольда Старжынськага (рэч дзеецца ў 1854 годзе ў Табольску).

Таму атрымліваецца: рускія дзекабрысты ў Сібір пайшлі, польскіх паўстанцаў 1794-га ды 1830—1831 гадоў ссылалі, а беларусаў дома пакідалі. А драма юнака Багрыма? Рэкрута Франца Савіча? Паэта-рэвалюцыянера Алеся Гаруна? І колькі іх яшчэ — жывых, трапяткіх, адарваных ад радзімы душ...

Зрэшты, ці не кожная эпоха цывілізацыі праходзіць праз уласныя трагедыі, хай яны і менш прыкметныя, чым войны ды іншыя катаклізмы. У апошнім нумары папулярнага польскага штотыднёвіка «Polityka» чытаю інтэрв'ю генеральнага сакратара Таварыства «Polonia» Юзафа Кляса: ад 1980 года Польшчу пакінула 700 тысяч чалавек. Гэта значыць напрыканцы XX стагоддзя з Радзімай Каперніка, Матэйкі, Норвіда штогод развітваюцца 100 000 грамадзян. Хоць няма сёння ані драпежных крыжацкіх навалаў, ані грознага Суворава, ані Мураўёва-вешальніка, ані Гітлера.

**12 красавіка. Беларусь на старых здымках**

Кіруючыся на факультэт русістыкі, ля ўваходных дзвярэй чытаю: Вроцлаўскі універсітэт імя Баляслава Берута. Пасляваенны прэзідэнт Польшчы (1947—

1952), Генеральны сакратар Польскай аб'яднанай рабочай партыі (1948—1956) пакінуў па сабе памяць «вернага сталінца». На XX з'ездзе КПСС, куды яго запрасілі на чале польскай дэлегацыі, праслухаўшы лёсавызначальны даклад Хрушчова з крытыкай «бацькі народаў», не вытрымаў і застрэліўся (у сакавіцкія дні 1956 года шмат каго, непрытомнымі, выносілі з крамлёўскіх палацаў). Паводле іншых чутак, Берута «прыбралі». У кожным выпадку выявіў сябе антыподам далёкага прашчура, Тадэвуша Рэйтана, польскага пасла на Варшаўскі сойм. Чалавек таксама скончыў жыццё самагубствам, калі ўбачыў, што чарговы грабежніцкі падзел Рэчы Паспалітай нельга прадухіліць. Гадоў восем таму выкладчыкі і студэнты Вроцлаўскага універсітэта падымалі пытанне пра скасаванне «ганаровага» імя.

Трагікамічную гісторыю з Берутам пачуў на пасяджэнні кафедры русістыкі, дзе працуюць Тэлесфор Позьняк, Мар'ян Якубец, Мечыслаў Інглёт — выдатныя прадстаўнікі вроцлаўскай дынастыі славістаў, ля вытокаў якой узвышаецца постаць прафесара Рудольфа Абіхта.

Падказаны Вячаславам Шалькевічам аддзел іканаграфіі Асалінэума здзівіў сапраўдным россыпам скарбаў. Фотапаштоўкі Баранавіч (часоў яшчэ першай імперыялістычнай вайны), краявіды з выявамі Ашмян, Слоніма, ваколіц Наваградка (і самога места з гандлёвымі крамамі, руінамі ад замка і фарнага касцёла, насыпаным капцом у гонар Адама Міцкевіча), здымкі Друскенік, Ішкальдзі, Камаёў, старажытнай Гародні з Нёмнам і тонкай стужкай віцін на ім, з славутай Каложай і замкам, выштукаваным лямусам XVII стагоддзя. Уражваюць фотаздымкі з Палесся: Пінск з рэчкай Пінай ды белым, ледзь не цацачным параходзікам на яе хвалях; жоўты гмах былога Пінскага езуіцкага калегіума, атачаны бухматымі вазамі з сенам; палескі кірмаш з шырокім, як акінуць вокам, людскім морам. Кожнага, хто наведваўся на пінскі кірмаш, ля ўвахода ў галоўны павільён сустракала гліняная скульптура-статуя палешука з шырокім брылём-талеркай і прыціснутым да правага боку стырном. Скульптура несамавітая. Аўтарскія подпісы пад фотаздымкамі — нібы працяг сімфоніі, праспяванай у гонар дзівоснага кутка зямлі: «Палессе. Сонца ў імг-

ле» — здымак Пухальскага (1939 год); ягоны ж аб'ектыў выхапіў імгненне з жыцця рыбака-пінчука ў белым кужэльным убранні ды саламяным капелюшы. Не менш фацэтна глядзяцца рыбакі на здымках слыннага Яна Балгака «Лоўля на азёрах Палесся з таптухай», «Канал Агінскага. Шлюз», «Дарога сярод элаэяў на Палессі». Непаўторны фотаэцюд Крыгоўскага «Пазарастаныя лозамі старарэчышчы ў Альховай пушчы на Палессі».

Спадзяюся, у нас адшукаецца зацікаўленая асоба і дасканала вывучыць фотапалотны. Яны — часцінка мінулага беларускай зямлі, непаўторныя краявіды якой у эпоху бяздушнай НТР шмат дзе зменены да непазнавальнага меліярацыяй. Павінен зацікавіць і лёс тагачасных, уласна першых фоталетапісцаў Палесся. (Пра аднаго з іх, адмысловага майстра Міхала Нёбу, я пазней прачытаю кранальнае эсэ Лявона Дранько-Майсюка «Анёл згоды».)

**13 красавіка. Пытанні, пытанні...**

Каб не занудзіцца канчаткова, працягваю распачатае ў Мінску. Штудзірую каталогі архіўных сховішчаў Кракава. Сустрэча з ім не за гарамі. Прагледзеў складзены Адамам Барам «Індэкс карэспандэнцыі Юзафа Ігната Крашэўскага ў зборах Ягелонскай бібліятэкі». Прыйшоў да пераканання: не варта ўсюды шаблонна вытыкаць сяброўствам Дуніна-Марцінкевіча з Крашэўскім. Блізкіх стасункаў паміж імі, хутчэй за ўсё, у жыцці не існавала. Няхай з дымам пайшоў уласны архіў Навума Прыгаворкі ў Люцінцы, аднак архівы Крашэўскага захаваліся. Мяркуючы па іх, «блізкімі сябрамі» аўтара слыннай «Старой легенды» хутчэй можна назваць калекцыянера з Замосьця (дайшло 20 лістоў Аляксандра Ельскага), або Адама Кіркора (181 ліст), і нават Рамуальда Зянькевіча (11 лістоў), не кажучы пра ўсюдыіснага «чырвонага графа» Суліму-Савіч-Заблоцкага (10 лістоў), чым уладальніка адробнага фальварка Люцінка. Праўда, з нядаўна адшуканых у Львове пісьмаў Дуніна-Марцінкевіча да Яна Карловіча стала вядома пра «дарагія майму сэрцу» памяткі ад Крашэўскага, якімі ганарыўся гаспадар Малой Люцінкі. Тым больш бянтэжыць адсутнасць у паперах Крашэўскага эпісталярыя аўтара зна-

камітай «Пінскай шляхты».

Пытанні, пытанні, пытанні... Хто адкажа на іх?

**14 красавіка. Сучаснік Лазара Богшы**

Чаго толькі не напаткаеш у штодзённых пошуках. Зборы славутага Асалінэума захавалі афіцыйнае пісьмо на бланку Інстытута беларускай культуры (вуглавы штамп прадубліраваны на нямецкай ды французскай мовах: у сярэдзіне 1920-х гадоў подых суседняй Еўропы на Беларусь быў больш адчувальны і рэальны, чым зараз шанс прыняцца апошняй у агульны еўрапейскі дом). Дакумент паведамляе: 21 снежня 1927 года з вуліцы Рэвалюцыйнай, 21 у Мінску на адрас выкладчыка Львоўскага універсітэта імя Яна-Казіміра прафесара Станіслава Закрэўскага накіравалі афіцыйны запыт (№ 5010-1а) з наступнай просьбай:

*«Вельмішаноўны пане прафесар!*

*Ад аднаго з нашых карэспандэнтаў атрымалі мы паведамленне, што ў пэўным беларускім мястэчку знайшлі «дакумент, выдадзены нейкаму Манкевічу за адзнаку ў баі з крыжакамі ў 1199 г. На дакуменце падкова і два крыжы — (герб). Лешкам Бялым падараваны Манкевічу два маёнткі: Шацілкі і Востраў». Дакумент той за аніякія грошы прадаць не хочуць і нават не дужа хочуць паказваць.*

*Беручы пад увагу, што ў нашай гістарычнай камісіі пры Польскім сектары Інстытута беларускай культуры (які цяпер перайтвараецца ў Беларускую акадэмію навук) ніхто ў сучасны момант вышэйзгаданым перыядам гісторыі Польшчы не займаецца, а з іншага боку, здабыццё нават копіі таго дакумента пацягне за сабою досыць значныя выдаткі, я вельмі прасіў бы ш[аноўнага] пана прафесара ласкава паведаміць, ці «варты палац Паца»? Ці варта бліжэй заняцца той справай з пункту гледжання польскай гісторыі?*

*Пры бягучай аказіі хачу заадно запытаць, ці дазволіў бы ў будучым ш. пан прафесар звяртацца да яго ў аналагічных справах і ўвогуле разлічваць на ласкавае супрацоўніцтва ў галіне польскай гісторыі [...]?*

*Польскі сектар пры Інстытуце беларускай культуры ў Менску мае тры сталыя камісіі: гістарычную, філалагічную і этнаграфічную, мэта якіх — даследаваць польскае насельніцтва на этнаграфічнай Беларусі ў*

*святле гэтых трох навуковых дысцыплін.*

*Як першая і пакуль што адзіная вышэйшая польская навуковая ўстанова на тэрыторыі СССР, Польскі сектар можа зрабіць на навуковым полі не адну паслугу краёвым універсітэтам, але з свайго боку ў шматлікіх момантах таксама патрабуе іхняй дапамогі.*

*Таму чакаю на ласкавы адказ ш. пана прафесара і далучаю выразы высокай пашаны і павагі*

*навуковы сакратар Польскага*
*сектара пры Інст. бел. культ.*

*Ул. Ландзберг».*

Ці пашанцавала здабыць копію з рарытэтнага прывілею, невядома. Уяўленне хвалюе іншае: на пачатку XX стагоддзя, пасля першай сусветнай вайны ды іншых завірух на дне куфраў беларускіх местачкоўцаў яшчэ ляжалі дакументы з часоў полацкага майстра Лазара Богшы.

**16—17 красавіка. У сям'і нашчадкаў Дуніна-Марцінкевіча**

Не менш, чым колішніх вучоных польскага сектара Інбелкульта хвалявала магчымасць набыцця копіі прывілея з 1199 года, узрушыла мяне сёння сустрэча з дакументамі куды бліжэйшай па часе эпохі.

Я ў Шчэціне. Збылася даўняя мара адведаць прамых нашчадкаў Беларускага Дудара. У далёкім горадзе над Балтыйскім морам жывуць два праправўнукі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, родныя браты Станіслаў Плаўскі і Багдан Кавалінькі. Іх мама, Галіна Крыжаньская (унучка Камілі Марцінкевіч-Асіповіч), нарадзілася ў родавай Люцінцы 31 траўня 1917 года. Вельмі рана выйшла замуж за віленчука Мар'яна Плаўскага і 17 траўня 1935 года, таксама ў Люцінцы, нарадзіла першынца Станіслава. Муж Мар'ян трагічна загінуў у 1942 годзе, і 25-гадовая ўдава, пасля пераезду ў 1946 годзе ў Польшчу, выйшла за Мар'яна Кавалінькага і другі раз нарадзіла хлопчыка Багдана. Вось у Багданавай сям'і на вуліцы Спулдзельчай (Кааператыўнай), дзе ў зеляніне дрэў стаіць кватэра-катэдж, гартаем сямейны альбом. З першых фотаздымкаў зірнулі на мяне здаўна дарагія краявіды, ваколіцы Малой Люцінкі. І тут, правам старэйшага, голас бярэ Станіслаў, згадвае маленства ў Люцінцы ды Пяршаях, дзе

ў тамтэйшым парафіяльным касцёліку яго хрысцілі.

— Гэта крыж на магіле майго дзеда Юзафа Крыжаньскага, Камілінага зяця. Пахавалі яго на люцінкаўскім падвор'і, бо пасварыліся з пяршайскім ксяндзом, які на хаўтурах лупіў з навакольных сялян вялікія грошы. Бабця Ванда нават ездзіла скардзіцца ў Пінск, да біскупа Лазіньскага, але нічога не дапамагло.

Гартаем фотаздымкі далей.

— А гэта на ганку люцінкаўскай сядзібы стаіць мамін брат, мой родны дзядзька і хросны тата Міраслаў Крыжаньскі. Ён стаў знакамітым прафесарам-матэматыкам Ягелонскага універсітэта... Гэта мае тата Мар'ян і мама Галіна. Тату ў вайну расстралялі немцы па даносе калабарацыяніста, нейкага лысага Буляка з Івянца... Гэта яблыні ў нашым садзе; вясной навокал усё квітнела-буяла... А гэта бабця Ванда, працавала фармацэўтам у Мнішанах, там і настаўнічала. Настаўнічала і другая бабця, Марыя Асіповіч (яна засталася незамужняй). З маленства памятаю вялікі скандал, звязаны з яе імем. Пры Пілсудскім адбываліся выбары ў Варшаўскі сойм, і бабця Марыля выкрыла, што вынікі выбараў у Івянцы падтасавалі. Сама яна горача стаяла за беларусінаў і размаўляла заўсёды па-беларуску.

Тым часам Багдан на хвілінку падняўся і вярнуўся з дакументам унушальных памераў. Чытаю. «Фармулярны спіс аб службе былога Салікамскага павятовага лекара, калежскага саветніка Казіміра Асіповіча». Унізе паметка: «Складзены кастрычніка 16 дня 1884 года». Яшчэ адна паметка, на апошняй старонцы, растлумачвае акалічнасці ўзнікнення даўняга дакумента і чаму ён захоўваецца ў Каваліньскіх: «Копія выдадзена з Пермскага медыцынскага аддзялення ўдаве былога Салікамскага павятовага [лекара?] калежскага саветніка Асіповіча, Каміле Асіповіч, на прадмет змяшчэння дзяцей яе ў навучальныя ўстановы». З разлінееных слупкоў фармуляра, занатаваных зграбным канцылярскім хуткапісам, вочы прагна выхопліваюць асноўныя звесткі.

«І. Чын, імя па бацьку, прозвішча, пасада, гады ад нараджэння, веравызнанне, адзнакі і ўтрыманне.— Калежскі саветнік Казімір Гіяцынтавіч Асіповіч былы Салікамскі павятовы лекар, 46 гадоў, веравызнання

рыма-каталіцкага; мае ордэн св. Станіслава 3-й ступені. Утрыманне: жалаванне 612 і сталовых 613 руб., усяго 1225 руб. у год.

VII. Дзе атрымаў адукацыю [...]; калі паступіў на службу [...].— Па заканчэнні поўнага курса навук у гродзенскай губернскай гімназіі ў 1885 годзе быў прыняты па экзамену ў лік студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэту, дзе закончыў курс навук па медыцынскаму факультэту, на казённым утрыманні, зацверджаны ў ступені лекара з пасведчаннем павятовага доктара — 1860 г., чэрвеня 20; вызначаны, згодна хадайніцтву Салікамскім павятовым доктарам (...) — 1860 г., жніўня 16».

Выходзіць, Казіміра Асіповіча не высылалі ў Сібір, як мяркуюць даследчыкі беларускай літаратуры XIX стагоддзя, а трапіў ён у Салікамск, кажучы сучаснай мовай, «па размеркаванні» пасля універсітэта. Там пазнаёміўся і ажаніўся з Каміляю Марцінкевіч. Там яна нарадзіла яму шасцёра дзяцей. Калі 30 верасня 1880 года Казімір раптам вырашыў пакінуць службу, выйсці ў адстаўку, каб пераехаць на Радзіму, вяртанне з Салікамска было горкім. Бо нялёгка бацькам пакідаць хаціну, дзе нарадзіліся іхнія сыны і дочкі, калі не ўсіх яны здолелі падняць на ногі, не ўсіх навучылі чытаць па лемантары. Калі апошнім спачынкам для маленькіх сталі лясныя гушчары на берагах халоднай Камы.

Перагарнуўшы каштоўны дакумент да канца, зразумеў, адкуль Багдан, складаючы гады два таму па маёй просьбе генеалагічнае дрэва нашчадкаў Беларускага Дудара, меў дакладныя, мне невядомыя звесткі пра сваіх бабуль. Найперш — дзякуючы паслужному фармуляру Казіміра Асіповіча. Такім чынам, першакласнік аднаго з шчэцінскіх ліцэяў, Барташ Кавалінські, народжаны ў 1980 годзе, ведае свой радавод да 12 калена. Паміж ім і родапачынальнікам, Аляксандрам Марцінкевічам, пралягло тры з паловай сотні гадоў.

Уласна мяне постаць салікамскага лекара ўсхвалявала пасля аповядаў Стафаніі Сасноўскай пра тое, як на кватэру Асіповічаў, ужо ў Вільні, часта ўрываўся Дунін-Марцінкевіч і, цяжка падаючы перад зяцем на калені, без тэатральнага фальшу, заломваючы рукі, дрыжачым голасам прасіў: «Казю, ратуй!» Казімір Асіповіч ніколі не адмовіў цесцю ў пазыцы для што-

месячнай выплаты працэнтаў за закладзены ў мінскім прыказе грамадскай апекі маёнтак Люцінку. Хоць сам былы салікамскі ўрач, заўчасна кінуўшы казённую службу, атрымоўваў пансіён удвая меншы за аклад, а «менавіта, па трыста шэсць руб. у год», згодна запісу ў фармулярным спісе. Гэта значыць сям'я Асіповічаў з трыма дочкамі — Валерыяй, Марыляй, Вандай ды сынамі Юзафам і Казімірам мела ўсяго 25 рублёў штомесяц і з дзедам Вінцэнтам дзялілася апошнім.

**18 красавіка. Каратынскі і Паўловіч**

Мінулае падарожжа да нашчадкаў Дуніна-Марцінкевіча вабіла і тым, што шлях з Вроцлава ў Шчэцін, як высветлілася, ляжаў толькі праз Зялёную Гуру, дзе жывуць некалькі радзін далёкіх, ніколі не бачаных мною сваякоў. Тамсама, у Зялёнай Гуры, другі год запар чытае лекцыі выкладчык Віцебскага педінстытута Сяргей Якаўлеў, з якім разам вучыліся ў аспірантуры. То чаму не пакарыстацца шчаслівай аказіяй? Што я і здзейсніў на зваротным шляху, пакінуўшы горад славутых вінаградараў глыбокай ноччу.

У аддзеле рукапісаў Асалінэума знаёмлюся з пісьмамі Вінцэнта Каратынскага. Іх два і абодва заадрасаваны земляку з Беларусі, вядомаму мемуарысту XIX стагоддзя Эдварду Паўловічу, маленства якога сплыло на Наваградчыне. Туды, у Навагрудак, адрасаваны першы ліст Каратынскага з Вільні 25 лістапада 1861 года.

*«Шаноўны пане, Клімовіч пісаў мне, што ў адказ на паведамленне пра хуткі прыезд у Навагрудак, ты ўжо даўно падрыхтаваў у сябе для мяне закутак. Найшчырэйшае «Bóg zapłać!» за гэтую надакучлівасць бліжэйшага знаёмства, якога я прагну ды нецярпліва чакаю. Нюхам чую здалёку, што, як прыватныя асобы, павінны мы пакахаць адзін аднаго, бо як асобу грамадскую я ўжо даўно люблю і шаную пана. Таму яшчэ раз «Bóg zapłać!» за абяцаныя пагасціны і прашу растлумачыць мне, дзе там у Навагрудку я павінен знайсці панскія locum domicilii* [платныя кватэры (*лац.*).— Я. Я.], *якімі пад час Калядаў хачу на некалькі дзён завалодаць»*.

Згаданы на самым пачатку ліста Клімовіч — хутчэй за ўсё Вінцэсь Клімовіч, яшчэ адзін зямляк і блізкі сябра Каратынскага. Паходзіў ён з сялян. Самавук,

але напісаў цудоўную музыку на верш Каратынскага «Туга на чужой старане», несумненна добра вядомую пазней Паўловічу элегію беларускіх выгнаннікаў-эмігрантаў. Паўловіч неаднойчы мог пачуць яе з вуснаў сасланых беларусаў у Аланецку, Петразаводску, Екацерынаслаўлі, дзе сам адбываў ссылку за ўдзел у паўстанні 1863 года. Нарысы Эдварда Паўловіча «Колькі слоў літвіна», «Успаміны з-над Віліі і Нёмана» (1882), «З падарожжа па Літве» (1890) ды іншыя карысталіся поспехам у тагачасным краёвым чытацкім асяроддзі. З клопатам аб надрукаванні адной з сваіх прац і звярнуўся слынны мемуарыст да Каратынскага. Апошні, будучы на той час галоўным рэдактарам «Tygodnika powszechnego», адказаў з Варшавы 22 траўня 1891 года доўгім сардэчным лістом, як і належыць у стасунках з сябрамі.

*«Шаноўны і ласкавы пане!*

*Паштоўку пана, пра якую знайшоў згадку ў лісце да д. 19 бягучага месяца, я не атрымаў; вельмі магчыма, што загубілася недзе ў Кеніга, якому я адсылаю ўсю карэспандэнцыю з пошты. Што да папярэдняга Вашага ліста, дык я выканаў згаданую ў ім просьбу і атрымаў такі вынік, на які сімпатычная Вашая праца па ўсіх мерках заслугоўвае. Пяткевіч вымушаны быў пісаць, а таму не змог змясціць у* Kłosach *тую працу. І гэта не рэдактарскія хітрыкі, але самая шчырая праўда, бо пры сталым супрацоўніцтве Кульчыцкага і Валыньскага, я маю «каласавіння» аж занадта. Аднак «Tygodnik powszechny» знаходзіцца ў іншых мовах, і пасля прачытання Ваш рукапіс прынялі з шчырай радасцю. Што друкаванне адкладваецца — зрабіце ласку і не зважайце на тое, бо, па-першае, тэрміновыя артыкулы заўсёды маюць перавагу перад няпільнымі, хоць і атрыманымі раней, а па-другое, з прычыны нечаканага, на жаль, ад'езду Грудзіньскага на лекаванне за мяжу, робім запасы на лета... Аднак Ваш артыкул, несумненна, будзе надрукаваны альбо ў наступным, альбо ў пазанаступным нумары, а рэдакцыя «Tygodnika powszechnego» будзе ашчаслівлена і надалей супрацоўніцтвам з шаноўным панам. У д'яблавым млыне сталай і бесперапыннай працы здараецца нам часамі забыць пра адказ на ліст. Асабліва калі не адпішам адразу пасля атрымання. Таму*

*просім верыць, што па-ранейшаму ўсім сэрцам Вас паважаем.*

*Зычлівы і пакорны слуга В. Каратынскі».*

**19—20 красавіка. «Я мог сабраць вялікі капітал...», або Лёс Кіркора**

Побач з лістамі Каратынскага да Эдварда Паўловіча захаваліся пісьмы Адама Кіркора. Беларуска-польскі (а часткова і рускі) грамадскі дзеяч, публіцыст, выдавец, гісторык, археолаг Кіркор апошнія гады жыцця мусіў правесці на чужыне, у аўстрыйскім Кракаве. «Шчаслівы, што можаш ехаць у Літву! Я і марыць пра гэта не магу»,— зайздросціць ён у адным з лістоў вечнаму вандроўніку Э. Паўловічу, які пасля вяртання з сібірскай высылкі збіраў матэрыялы для сваіх нарысаў не толькі ў Заходняй Еўропе, але зрэдзьчасу наязджаў і ў Беларусь. Сам Кіркор у царскай Расіі з'яўляўся persona non grata. Не раз і не два названы пазнейшымі даследчыкамі «рэакцыйным дзеячам», ён прыкладаў немалыя намаганні, каб збудзіць краёвае жыццё. Вось ягоны ліст на бланку рэдакцыі Віленскай археалагічнай камісіі ад 2/14 траўня 1858 года, адрасаваны польскаму гісторыку Каралю Шайноху:

*«З невымоўнай радасцю атрымаў Вашае пісьмо. Цешуся, што маю хоць аўтограф любімага гісторыка, а горача прашу Бога, каб як найхутчэй вырваў цябе з хваробы. Зважаючы на аслабелы зрок пана, я не маю ані права, ані смеласці прасіць аб працы цалкам для «Teki». У кожным рaзе давяраю Вашаму сэрцу «Tekę litewskę».*

*Дзякую за пахвальнае меркаванне пра нашае выданне. Мэта наша цяжкая, ахвота і намеры найлепшыя. Але ўсё гэта — няспыннае змаганне з тысячамі перашкодаў. Патрэбна яшчэ шмат часу, каб сапраўдная цывілізацыя азарыла нашую цэнзуру. Але зараз усё таму ў Расеі спрыяе, і сама Расея наўскапыта прэ па гэтай каляіне. Адынец, Тышкевіч Астап, Балінькі, Маліноўскі, Ігнат Ходзька сардэчна віншуюць пана. Па-братэрску, па-літоўску сардэчна цісну тваю шляхетную даланю...»*

Ды вядома, што нядоўга «галапавала» Расія ліберальнай каляінай пасля смерці Мікалая Палкіна, пачаўшы зноў націскаць на тармазы. Уціск шавіністыч-



**Даследчык мінулага Літвы Адам Кіркор — сябра Кракаўскай акадэміі. Здымак аўтара з архіва бібліятэкі Польскай акадэміі навук у Кракаве. Друкуецца ўпершыню.**

нага цэнтра адчуў неўзабаве і сам рэдактар-выдавец «Тэкі Віленськай» («Віленскага зборніка»). У тым самым 1858 годзе, дазволіўшы выдаць усяго 6 нумароў, «Віленскі зборнік» улады забаранілі. Шкада. «Тэка» збіралася пазнаёміць сваіх чытачоў з беларускімі паэмамі Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Не дапамог Кіркору і ўдзел у складанні вернападданніцкага адраса, т. зв. «Віленскага альбома», выдадзенага ў гонар прыезду ў Вільню Аляксандра II.

Але вернемся да кракаўскага перыяду жыцця Кіркора, прачытаем ягоныя лісты да польскага археолага Альбіна Корна. Яны найбольш шчымлівыя, спавядальныя, адкрытыя. 11 снежня 1878 года, замест каляднага віншавання, Кіркор пісаў:

*«Учора атрымаў тваю важкую, захапляльную працу... Толькі адну зраблю заўвагу: Вы мала мелі падрабязнасцей пра даследаванні на Літве. І гэта Ва-*

*ша віна, бо калі б звярнуліся да мяне, даў бы Вам шэраг невядомых альбо ўжо напаўзабытых матэрыялаў. Маю шмат і малюнкаў, нідзе не друкаваных. Праз 8 гадоў жыцця ў Вільні я вандраваў па краю і капаў у 10 разоў болей за двух Тышкевічаў...»*

Заканчваўся ліст вострым, самакрытычным позіркам на ўласнае незайздроснае становішча.

*«Хворы, сварлівы вельмі. Нягоды, галеча, балючыя страты і да таго ж узрост адбіраюць ахвоту да жыцця. Гэтымі днямі я страціў у Вільні прыяцеля, які быў мне сябрам 44 гады і з якім ад 1834 года мы жылі як браты. Вы павінны былі б яго ведаць, бо працаваў у рэдакцыі. Казімір Пашкоўскі. Быў ён віцэ-старшынёю цывільнай палаты, а ў 1863 высланы ажно ў Запаляр'е. Так, каханы пане Альбіне, пачуваюся кепска і, папраўдзе, досыць ужо напрацаваўся і нагараваўся — час бы і на спачынак».*

Ды смерць не заўсёды прыклічаш. Сябры працягвалі атрымліваць новыя пісьмы — люстрадзён самотных гадоў вучонага.

*«Дарагі пане Альбіне, ад шчырага сэрца, наймацней і найшчырэй дзякую табе за тваю зычлівасць і прыхільнасць, за спагадныя словы. Я змагаўся з лёсам і людзьмі дакуль ставала сіл. Я ўсё прысвяціў для ідэі; мог, бо тое ад мяне залежала, мець іншае грамадскае становішча, мог сабраць вялікі капітал — а што з таго сёння? Я ўсё прысвяціў для суайчыннікаў, для ідэі, але ці хоць знайшоў прызнанне! Калі часам і аддаюць знаўцы справядлівасць маім працам, хоць бы археалагічным, дык адразу паявіцца такі, напрыклад, Капэрніцкі, пра якога за хвіліну ніхто не чуў, які аніводнай магілы сам, уласнаручна, ані знайшоў, ані даследаваў... які дасведчаны ўраніёлаг, але шкаляр, студэнт у археалогіі, аднак больш за мяне праслаўлены... Ды Бог з ім. Я ўжо ні з кім ваяваць не хачу. Зрабіўся напаўмёртвы, стары. Усё здрадзіла, ашукала, падманула! Адна навука засталася нязломнай і вернай таварышкай... Парасейску пішу толькі рэчы сухія, навуковыя, якія мала друкуюць і якія малаплатныя. Мой час мінуўся... Няхай маладзейшыя дзейнічаюць. Са смерцю Пашкоўскага маё становішча, і матэрыяльнае, і з надзеі на вяртанне, пахіснулася канчаткова...»*

Узрушаны спавядальнымі лістамі Кіркора падумаў: паслязаўтра буду ў тым самым горадзе, дзе ён памёр.

Абавязкова выкраю часіну, каб наведаць ягоную закінутую магілу.

**21 красавіка. Апошні пункт прызначэння**

Вроцлаў праводзіў мяне золкім ранкам. З дажджом. (А ўчора гэтак прыпякала! +20 °С; усе ў кашулях з кароткімі рукавамі; пенсіянеры грэюцца на лаўках.)

Першае, за што зачапіліся вочы на кракаўскім пероне, была постаць Алега Латышонка — самага высокага беларуса ў Польшчы. Ды, верагодна, і на Беларусі. І я разумею, чаму на вайсковых зборах перад чарговым урачыстым парадам маёр скрушна круціў галавою, прыгаворваючы адно і тое: «Усюды роўна, усюды роўна, адзін ты, Латышонак, не роўны; пакінь строй...»

На таксі шукаем вуліцу Шуйскага, дзе ў просценькім настаўніцкім гатэлі-інтэрнаце для мяне забраніраваны пакой. Кідаю рэчы і — у горад. Ступаем на ратушную плошчу. Не даходзім да помніка Адаму Міцкевічу — аж забіў звон Марыяцкай вежы. Дзень добры, стары мой дружа! Два гады таму я не меў права ані на крок адысціся ад турыстычнай групы, каб аглядаць цябе ўволю. Цяпер я — твой нявольнік, старажытная сталіца Польшчы.

Адвячоркам на кватэры Алега дзіўлюся ягонай хатняй бібліятэцы. Аніхто са знаёмых мне аднагодкаў, здаецца, не сабраў такой багатай беларусістыкі. Не вытрымліваю, пытаюся:

— Скажы, тамы «Люду беларускага» Федароўскага... Хіба ты сам мог купляць такія кнігі?

— Не, іх яшчэ мой бацька прыдбаў.— У голасе Алега непрыхаваны гонар за сямейнікаў.— Ён такі беларус! На нас пецярых хопіць... Ужо мой прадзед меў бібліятэку. Маёнтак Райполь-Дубавое на Шаркаўшчыне ад пана Ананіча набыў («прагуляў той панок за паненкамі гэтулькі ніштаватай зямлі»). Дык нейк разам з маёнткам дасталася і... бібліятэка.— Памаўчаўшы, дадаў (мо яшчэ чутае ад дзеда): — За багаццем прыходзіць свядомасць.

**22 красавіка. Кракаўскія спісы «Тараса»**

Ну і вясёлае места — Кракаў! А пятай уранні, яшчэ на добрым прыцемку, прачынаюся ад салаўіных пераліваў. А нешта праз гадзіну нэндзныя нумары

невялікага гатэля поўняцца магутным шматгалосым: «Сто лят!» Пэўна, у некага з групы настаўнікаў, што заначавала тут, народзіны, і сёння перад ад'ездам у гонар імянінніка гучыць традыцыйнае польскае віншаванне.

Таму, можа, невыпадкова тут, у Кракаве, у аддзеле рукапісаў бібліятэкі Ягелонскага універсітэта, захаваліся спісы самага гарэзлівага ў гісторыі беларускай паэзіі твора — паэмы «Тарас на Парнасе». Пра акалічнасці іх адкрыцця чытач даведаўся на папярэдніх старонках дзённіка. Спісаў, нагадаю, два: чарнавы і чыставы. Першы, аб'ёмам у 6 лістоў (памер 13×20,5 см), складзеных у 4-ю долю. Ад доўгага захавання лісты настолькі працерліся, што іх падклеілі. Таму на згібах радкі чытаюцца кепска. Лісты спісаны з абодвух бакоў. Пісалі чорным атрамантам, потым алоўкам. Заўважаю, правак не дужа багата, як падалося ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, калі знаёміўся з мікрафільмам паэмы. Тым не менш закрэсліванні сустракаюцца з першай старонкі. Пачатковае слова радка «Хадзіў я ў наспы між мхоў» выпраўлена: «Пашоў...». Або: «І лупіць **проста** да гары» закрэслена на «прама». Зеўс спачатку нешта «у **галаве** шукаў» — спраўлена адразу ў радку «у барадзе». Таму самаму Зеўсу багіня Геба найперш «гарэлку ў чарку наліла». Потым перапісчык стварае новы вобраз: «Крупеню ў міску наліла».

Хто ён, далёкі перапісчык, дзякуючы якому беларускае літаратуразнаўства валодае цяпер, праўдападобна, самым раннім ацалелым спісам неўміручага твора? Пажадана таксама адказаць, калі ўзніклі кракаўскія рукапісы «Тараса».

Прозвішча, пазначанае на адвароце апошняй старонкі чарнавіка, Аляксандр Акіньчыц, нічога мне не казала, пакуль у даведніку «Польскі слоўнік біяграфічны» не прачытаў досыць вялікую нататку пра нашага земляка. Аляксандр Акіньчыц (Акеньчыц) нарадзіўся 9 лютага 1839 года ў вёсцы Сялец Пружанскага павета (паводле парыжскай кнігі на атрыманне дыпломаў медыцынскіх лекараў, 28 жніўня ў Гародні). Вучыўся ў Пружанах, потым у Гародні; у 1856 — 1861 гадах на медыцынскім факультэце Маскоўскага універсітэта. Пасля вучобы распачаў лекарскую практыку ў мястэчку Шарашова на Пружаншчыне, дзе

маладога медыка заспела нацыянальна-вызваленчае паўстанне Кастуся Каліноўскага. Карнікі схапілі Акіньчыца пад час аказання медыцынскай дапамогі параненым касінерам. За вернасць клятве Гіпакрата і «здраду» інтарэсам імперыі атрымаў 12 гадоў катаргі. На этапе, паміж Табольскам і Томскам, Аляксандр Акіньчыц разам з Зыгмунтам Мінейкам (у будучым ганаровы грамадзянін Грэцыі, аўтар цікавейшых успамінаў «З тайгі пад Акропаль») і Гэнрыкам Вашкевічам «падшыліся» пад прозвішчы памерлых ад тыфусу ссыльных, і замест нерчынскіх капальняў «тры літвіны» аселі ў Томску. Праз нейкі час параходам дабраліся да Казані, адтуль цягніком у Маскву і Пецярбург. Там іх чакалі рускія рэвалюцыянеры. У жніўні 1865 года Акіньчыц з'явіўся ў Парыжы, стаў адным з актывістаў Камітэта згуртавання польскай эміграцыі. 26 красавіка 1871 года ўзяў шлюб з дачкою выдатнага польскага паэта-рамантыка Юзафа-Багдана Залескага...

Спыніўшыся на апошняй дэталі прыгодніцкай біяграфіі нашага «героя», лёгка зразумець, чаму ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Ягелонскага універсітэта спісы паэмы захаваліся сярод архіва Залескага. Пра акалічнасці ж іх узнікнення даводзіцца адно здагадвацца. Відаць, рукапісы трапілі сюды ў 1882 годзе, калі адзначаўся 80-гадовы юбілей з дня нараджэння паэта. На ўрачыстасць адгукнуліся шматлікія прыхільнікі таленту апошняга, бадай, польскага паэта-рамантыка. Прыйшлі віншаванні з Украіны, Польшчы, Францыі, Германіі, Англіі, Швейцарыі, ЗША. Падала свой голас і Беларусь — найперш вуснамі Вайніслава Сулімы-Савіч-Заблоцкага («писателя польского, русского, французского и немецкого», як напісаў ён пра сябе ў аўтабіяграфіі). З яго віншаваннем чытач таксама ўжо знаёмы. Ну а былы зяць Залескага (з першай жонкай, Юзэфай Залескай, Акіньчыц пражыў усяго два гады; яна памерла ад сухотаў), да канца жыцця апякуючыся амаль саслеплым цесцем, сеў за стол і ўзнавіў па памяці (магчыма, з дапамогаю землякоў-эмігрантаў) жамчужыну беларускай паэзіі мінулага стагоддзя. Што тэкст узнаўляўся па памяці, на такую думку схіляе «чарнавік» паэмы. У ім шмат перастановак, ёсць пропускі паасобных строф. Не ўсе яны ўзноўлены і ў чыставіку. Прычым, дакладна ведаючы, дзе і колькі радкоў «забыта», Акіньчыц адзначыў іх белымі

плямамі пропускаў. Параўноўваючы пазней кракаўскую знаходку з кананічным тэкстам паэмы ў 305 радкоў (гл. даследаванне І. Баса «Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы «Тарас на Парнасе»), я не далічыўся 25-ці радкоў. Затое ў кракаўскіх спісах ёсць два чатырохрадкоўі, да апошняга часу невядомыя беларускім літаратуразнаўцам, пакуль не адшукаліся тэксты з матэрыялаў Аляксандра Рыпінскага. Найбольш змястоўнае з іх:

Вось нехта, сеўшы ў Тарантасе,
На гору цягнецца трушком:
Знаць, любяць тых і на парнасе,
хто езьдзіць конна, ■ не пяшком...

суправаджае каментар, які адсутнічае і ў адшуканых копіях з сшыткаў Рыпінскага. Насупраць слова «Тарантас» пазначана зноска, а ў падрадкоўі тлумачыцца: «Салагубаў — аўтар перыядычнага выдання ў Расеі пад назвай «Тарантас» — сярэдняй вартасці. Багаты гэты чалавек, які, здаецца, грашамі схіляў да сябе меркаванні прадажных крытыкаў». Яшчэ адзін герой паэмы таксама не абыдзены падрадковай заўвагай: «Булгарын — рэдактар газеты «Пчала» ў Пецярбургу, пра якога Пушкін, праўдападобна, сказаў гэтыя памятныя словы: «Он Польшу спас от негодяя, // А русских братством запятнал».

Дзякуючы вялікаму паэту-рамантыку, у паперах якога адшукаліся «чарнавік і белавік» слыннага «Тараса», нашае літаратуразнаўства ўзбагацілася дзвюма найбольш ранніммі копіямі знакамітай паэмы, бо адкрытая нядаўна Г. Сурмач і В. Скалабанам арыгінальная копія «Тараса на Парнасе» выканана ў 20-ыя гады нашага стагоддзя.

**23 красавіка. Прыгоды Сулімы-Савіч-Заблоцкага**

У багатай на прыгоды жыццёвай адысеі Вайніслава Сулімы-Савіч-Заблоцкага даўняя сталіца Пястаў, дзе я цяпер гартаю ягоны эпісталяр, згадвалася паэтам без вялікага захаплення. На тое існавалі важкія падставы.

Перанясёмся ў думках на стагоддзе назад і зазірнём у вокны кракаўскіх салонаў. Суботнім вечарам 16 (28) чэрвеня 1879 года «Kurjer codzienny» ў адным з раздзелаў свецкай хронікі (як цяпер, гэтак

і тады ахвочай на скандалы) паведаміў сваім чытачам:

*«Ужо колькі гадоў вядомы сярод варшаўскага кола маладых літаратараў сп. Заблоцкі, аўтар шэрагу эксцэнтрычных паэм і шматлікіх часопісных артыкулаў, які называе сябе «Вайніславам-Казімірам-Цэзарам Савічам-Сулімам-Заблоцкім», апошнімі часамі бавіўся ў Аўстрыі, дзе, паводле паведамленняў венскай прэсы, карыстаўся прозвішчамі «барона Rozena» і «гр[афа] Сабалеўскага-Знайдоўскага». У мінулым месяцы дырэкцыя кракаўскай паліцыі выдаліла яго за межы аўстрыйскай дзяржавы. Следства выкрыла, што сп. Заблоцкі паходзіў з Віленскай губ., нарадзіўся ў Панічанах у 1846 г. і выконваў абавязкі прыватнага пісара».*

Акрамя адкрыцця новага імя паэта Цэзары (ці сапраўднага?) і фіктыўных прозвішчаў «барона Розэна», «графа Сабалеўскага-Знайдоўскага» ў нататцы прыведзена і новая дата нараджэння нястомнага шукальніка прыгодаў (на падставе аўтабіяграфічнага запісу паэта ў альбоме М. Сямеўскага, пададзенага Генадзем Кісялёвым у «Пачынальніках», днём нараджэння Вайніслава лічыцца 3 сакавіка 1850 года). Ці адпавядае яна нейкім дакументальным звесткам (скажам, запісу ў замежным пашпарце), на гэта пакуль адказу няма. Адно, што дазваляе ўдакладніць адшуканая нататка,— час высылкі Сулімы-Савіч-Заблоцкага з Кракава: 1879 год, а не 1876-ты, як памылкова прывёў Адам Мальдзіс у сваім архіўным дзённіку «Тры месяцы пошукаў і сустрэч».

Акалічнасці незайздроснага жыцця Вайніслава пасля скандальнага выдалення паўстаюць у яго лістах да Агатона Гілера.

*«З кракаўскай турмы я пісаў Вам два лісты алоўкам,— паведамляў паэт ноччу 26 красавіка 1879 г. з Мыславіц; — ці дайшлі да Вас — не ведаю. Толькі сёння магу коратка распавесці Вам, што [...] мяне і багата каго з эмігрантаў спаткала вялікая ласка: хворага, у лахманах, без аніякіх дакументаў, што сведчылі б пра маю асобу, даставілі мяне з асаблівай увагі на маю персону не царызму (расейскаму), а на прускую мяжу; у Мыславіцах кінулі мяне літаральна без цэнта ў кішэні, бо паліцыя дала на дарогу ўсяго 10 рэйнскіх залатых, на якія 23-га, 24-га і 25-га загадала яшчэ жыць пад час паліцэйскага арышту.*

*У Кракаве не дазволілі нават забраць у Скрыньскага рэчы з гатэля, ні пабачыцца з кім, ні ад нікога ўзяць грошы не дазволілі...*

*Я гэткі хворы, што ледзьве трымаюся на нагах, абселы вошамі ад колькітыднёвага (з 16 лютага) зняволення, ад бяссонных начэй. Я, можа, і ўпаў бы ў роспач, але і на гэта сіл не стае* [...]»

У роспач глыбокую «Сабалеўскі-Знайдоўскі» не кінуўся і гэтым разам; знайшоў нейкае выйсце з жыццёвай пасткі, у якую ўваліўся не ўпершыню. Бо хоць паходзіў Вайніслаў, несумненна, з графскага кораня (маці ягоная з роду Святаполк-Мірскіх), але ўрадзіўся панічанскі дзедзіч трывушчым, бы вербалозы на цяністых беларускіх гасцінцах, загартаваныя маразамі і летнім скварам. Наперадзе яго чакалі адысеі ў краіну вікінгаў — Скандынавію, у слынны пірамідамі фараонаў Егіпет, дзе пераажыў, напэўна, не адну прыгоду. Прыгоды тыя нам, на жаль, невядомыя.

А вядомае — таксама выклікае жаль і шкадобу. На Беларусь Суліма-Савіч-Заблоцкі вернецца ў 1888 годзе, усяляк запэўніваючы царызм у вернападданстве. Тым самым Вайніслаў нібы адмежаваўся, выракся ідэалаў, апетых ім у прысвечаным Юзафу-Багдану Залескаму юбілейным панегірыку.

**24 красавіка. Магілы ў Кракаве**

Раніцою, спаткаўшыся ля кракаўскай ратушы, Алег Латышонак павёў нас, трох беларусаў (у Ягелонскім універсітэце ўжо другі месяц адбываюць стажыроўку аспіранты Сяргей Кавалёў і Віктар Таранеўскі з Віцебска), на Ракавіцкі цвінтар. Зусім нядаўна Алег адшукаў там магілу Алеся Гаруна. Пра стамляльныя і напачатку амаль безнадзейныя, да роспачы, пошукі ён цяпер згадвае ўсмешліва, пацвельваючы ці то з нашых роспытаў, ці то з сябе, шукальніка «клада на кладах».

Хаджу сабе дзень-другі, потым і тыдзень-другі мінае, і месяц. Прыкмецілі мяне грабары-трунары тутэйшыя, пытаюцца:

— Чаго шукаеш? Ці сваякоў, ці мо які скарб прыхаваны?

— Не, кажу, аднаго беларускага паэта пахавалі тут улетку 1920 года.

— Братка,— ледзь не ў адзін голас загукалі,—

наша табе парада: знойдзеш — не прызнавайся, што проста паэт беларускі. Кажы: «сваяк мой». Тады і сам мецьмеш права пахавацца побач.

Зразумець меркантыльныя парады вясёлых наймітаў журботнай прафесіі лёгка: старадаўні Ракавіцкі цвінтар для кракавякаў куды ганаровей, чым Маскоўскія могілкі для мінскіх чыноў.

Урэшце спыняемся ля акуратна падраўнянага жоўтага ўзгорка, абкладзенага па ўскрайку зялёным дзёрнам... Саморобны, з бярозавых чурак-круглякоў крыж, дачасна пакладзены на голай мураванай пляцоўцы, прыцярушанай ігліцаю суседніх соснаў... Цішыня і запусценне... І толькі прычэпленая (таксама самаробная) невялікая шыльдачка на крыжы падказвае, хто тут пахаваны...

Алег разбівае маўчанне сентэнцыяй:

— Мінуў бы яшчэ нейкі год-другі, і я магілы не адшукаў бы... Сваякі «суседзяў» разгрэблі б неўпрыкмет безыменны курганок. І так ледзь давёў ім на падставе даўняй пахавальнай схемы, што паміж Баляславам Словікам (хіба таксама беларус; Słowik — салавей) і палкоўнікам Станіславам Сакалоўскім ляжыць прах Алеся Прушынскага...

Сапраўды, нехта 76-гадовая Станіслава Свіроўская (сваячка Сакалоўскага?) пахавана тут 14 жніўня 1984 года — упрытык ля Гаруновай магілы. На памяць усплываюць строфы з верша-прысвячэння Міхася Чарота, перапісанага і падараванага мне Сакратам Яновічам, і я з палёгкаю думаю: «Хоць аднойчы, дзякуючы земляку, якога лёс у канцы XX стагоддзя часова прывёў у Кракаў, беларусы не спазніліся «на цягнік»...

Пра помнік Адаму Кіркору патурбаваліся сваякі і сябры. З грамадскіх складак зрабілі надмагілле, што пратрывала да сёння. На Ракавіцкім цвінтары яго лёгка адшукаць паводле могільнікавых шляхаводнікаў. На шэрай пліце з тоўстага каменя-пясчаніку расчытваем, апроч прозвішча і датаў, тры словы на польскай мове: «Даследчыку мінулага Літвы».

Нават мужчынскае сэрца закіпіць слязою ад уведамлення высакароднасці, шляхецтва, якім вылучаўся рэдактар «Віленскага кур'ера», і ягоным незаслужана бядачым лёсам. Ахвяраваўшы ўсё навуцы і Бацькаўшчыне, не маючы ўласных дзяцей (хоць быў

жанаты двойчы), Кіркор да самай смерці апекаваўся над іншымі, сам моцна занядужаны і схварэлы. Прыгадваю адзін з аўтографаў, сустрэты мною літаральна ўчора.

*«Мой каханы, здароўе маё вельмі кепскае, таму гэтак замарудзіў з адказам. З Львовам у мяне сувязі чыста літаратурныя і навуковыя. Нікога не ведаю, хто мог бы табе быць карысным. Аднак зайдзі да Улад. Бэлзы (Крашэўскага, 15), калі ён вярнуўся (...) і папрасі яго ад майго імя, паказаўшы гэты ліст, каб табе штось параіў, зрабіў пратэкцыю. Ён вельмі прыязны, а сэрца залатое. Цалую цябе сардэчна. А. Кіркор. 18 жніўня 1886 г.»*

Сэрца ў Кіркора было знясілена: штомесяц Адам Ганоры пераносіў сардэчныя прыступы. Неўзабаве, у снежні 1886 года, невядомы мне адрасат назаўсёды згубіць свайго сардэчнага дарадцу, а Беларусь-Літва адданага ёй да апошніх хвілін патрыёта-грамадзяніна.

Па абедзе на тым самым Ракавіцкім цвінтары Барбара Чарнавеская пакажа мне магілу свайго таты, прафесара матэматыкі Ягелонскага універсітэта Міраслава Крыжаньскага, праўнука Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. На Беларусі постаць прафесара абсалютна невядомая, таму колькі слоў на знаёмства.

Нарадзіўся Гадзімір-Міраслаў 31 кастрычніка 1907 года на Тульшчыне ў сям'і Язэпа Крыжаньскага, жанатага на Вандзе Асіповіч. Ванда — адна з дачок Камілі Марцінкевіч-Асіповіч. Пасля рэвалюцыі ягоныя бацькі вяртаюцца на радзіму, у Вільню. Міраслаў скончыў тамтэйшую гімназію імя Леляведя (1927) і матэматычны факультэт Віленскага універсітэта са званнем магістра. Да вайны працаваў выкладчыкам фізікі і матэматыкі Драгічынскай мужчынскай гімназіі, потым у Семятычах і ў Вільні, дзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па матэматыцы (1934). Ваеннае ліхалецце перачакаў у жончыных сваякоў у слыннай Люцінцы, адкуль дабіраўся на працу ў Валожынскую гандлёвую школу (1943), а пазней у Івянецкую сярэднюю школу (1944). Пасля вайны выехаў у Кракаў, стаў прафесарам матэматыкі. Памёр 1 снежня 1965 года, пакінуўшы ў шлюбе з Ганнай Іжыцкай двух сыноў (Андрэя і Тадэвуша), дзвюх дачок (Ядвігу і Барбару) і шмат вучняў — слынных у сённяшняй

Польшчы дацэнтаў і прафесараў матэматыкі (Пётр Рэсаль, Андрэй Шыбяк). Адну з вуліц у новым мікраранёне Кракава назвалі ў гонар праўнука В. Дуніна-Марцінкевіча.

Малодшая дачка Барбара нарадзілася 15 красавіка 1954 года, вучылася ў Ягелонскім універсітэце на аддзяленні расійскай філалогіі: магістэрскую працу бараніла па творчасці В. Жукоўскага. Потым адбыла паслядыпломную стажыроўку ў педінстытуце імя Горкага ў Маскве, дзе напісала даследаванне зусім іншае тэматыкі і эпохі: «Нравственно-философский смысл повести Виктора Астафьева «Последний поклон». Сама ж Барбара піша вершы. Вось неўзабаве павінен адбыцца яе аўтарскі вечар.

— Як, ты ўжо выпусціла паэтычны зборнік? — пытаю.

— Чаму ты гэтак мяркуеш? — здзівілася Барбара.

— Ну, у нас аўтарская вечарына бывае з нагоды юбілею літаратара або прынаймней пасля выхаду ягонай кнігі.

— Не, у Польшчы літаратурная практыка іншая: усё пачынаецца ад публічнага знаёмства з рукапісам, з аўтарскай вечарыны, куды запрашаюцца крытыкі, калегі. Абавязкова паўстануць пытанні, крытычныя заўвагі. З улікам іх (прыняць усе ці частку — твая воля), выдаеш потым кнігу, якая, як правіла, ніколі горш ад такога абмеркавання не рабілася.

Прашу Барбару пакінуць што-небудзь у мой нататнік — на ўспамін. Схіліўшыся, буйным хуткапісам упісала страфу:

Szamocę się jak mucha
złapana w pajęczynę.
Myslałam,
że jestem motylem...

Барбара ніколі не наведвала Беларусь. Цяпер, пагартаўшы падараваны мною аднатомнік твораў свайго слыннага прашчура, марыць убачыць Люцінку.

**25 красавіка. Альбом Адама Кіркора**

Панядзелкавы дзень распачаўся тужлівай шкадобаю: прыезд мой у Кракаў усяго на 10 дзён — стратэгічная памылка. Варта было менш часу адводзіць на Вроцлаў, а больш пакінуць на Ягелонку. У ёй аднаго аддзела

беларускай бібліяграфіі, куды завёў мяне ранкам Віктар Таранеўскі, хопіць на паўмесяца прагляду. Не кажучы пра асэнсаванне аўтографаў, знойдзеных «тэарэтычна», шляхам завочнага знаёмства па разнаітых інвентарах-каталогах (накшталт вершаў Сулімы-Савіч-Заблоцкага, спісаў «Тараса»). А яшчэ ж хочацца правесці пошукі «на мясцовасці» — у слыннай Ягелонцы.

Стаіўшы дых, патрымаў у руках дакументы XV—XVI стагоддзяў — старадаўнія каралеўскія дыпломы-прывілеі. Трымаў з трапяткою пашанаю: стагоддзі прашумелі над зямлёю, але хтосьці захаваў гэтыя, памерам у 2—3 сучасныя машынапісныя аркушы, шурпатыя пергаменты, да якіх прычэплены пукатыя васковыя пячаткі з выявай багровага конніка.

Калі ранкам два дакументы на пергаменце прывялі маю душу ў трапяткі стан, дык пад вечар я быў проста падкошаны шчодрым россыпам аўтографаў славутых дзеячаў мінулага, сабраных пад агромністай, ледзь не паўметровай (32×47 см) вокладкай. На вока манускрыпт таўсцей за даланю, а вагою — як падняць. На вокладцы, адмыслова ўпрыгожанай залацістымі карункамі, паўмесяцам выціснуты залатыя літары:

A U T O G R A F Y A. K. 1855.

Перада мною — адзін, трэба думаць, з сотні фаліянтаў, сабраных у свой час Адамам Кіркорам. На адвароце вокладкі наклеена, нібы экслібрыс, рымская лічба XXI (парадкавы нумар у бібліятэцы А. Кіркора?). Потым зноўку паўтараюцца карункі. Тытульны ліст пісаны ад рукі:

**А ў т о г р а ф ы.**
**З б о р**
**Адама Ганорага**
**К і р к о р а.**

**Прывілеі, патэнты, лісты: пануючых, вучоных, артыстаў, ваяроў, духоўнага і размаітага стану людзей, Літвінаў і Палякаў, а таксама розныя дакументы з гербамі старажытных местаў, гродскіх замкаў, цэхаў. 1855. Вільня.**

Перагарнуўшы тытульны ліст, знаёмлюся са спісам асобаў, чые аўтографы тут прадстаўлены: Жыгімонт

Стары (1535), каралева Бона, Жыгімонт Аўгуст, Генрых Валуа, Стафан Баторы, Жыгімонт Ваза, Уладзіслаў IV, Ян Сабескі, Станіслаў Ляшчынскі... Пералік каралёў польскіх ды вялікіх князёў літоўскіх доўжыць спіс «драбнейшых» знакамітасцяў: Мікалая Радзівіла Чорнага (1530), Льва Спегі, Яўстафа Валовіча, Мікалая Кішкі, гетмана Міхала Паца, полацкага ваяводы Служкі, менскага ваяводы Яна Жабы, астранома Марціна Пачобут-Адляніцкага, Антона Тызенгаўза, Андрэя Снядэцкага, піянера славяншчыны Адама Чарноцкага (Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага), мітрапаліта ўсіх рыма-каталіцкіх касцёлаў Расійскай імперыі Станіслава Богуш-Сестранцэвіча, князя Адама Чартарыйскага, менскага біскупа Мацея Ліпскага (апякуна маладога Вінцука Дуніна-Марцінкевіча)...

Усяго сабрана 203 аўтографы. Прадстаўнічы спіс дае права назваць volum А. Г. Кіркора унікальнай з'явай беларускай культуры, годным заняць месца побач з іншым славутым альбомам, заведзеным таксама ў сярэдзіне XIX стагоддзя Кіркоравым знаёмцам Арцёмам Вярыгам-Дарэўскім. Ці не Кіркор і падштурхнуў Наддзвінскага Дудара да ідэі збірання аўтографаў літаратараў-сучаснікаў? Пэўныя матэрыялы даюць падставы сцвярджаць пра досыць шырокую вядомасць кіркораўскага альбома ў віленскім асяроддзі. Прыкладам, да № 16, факсіміле подпісу Міхала Карыбут-Вішнявецкага (1673), далучаны наступны аўтограф:

*«Пасылаю для твайго Збору Аўтографаў цікавую рэч: тастамент караля Міхала. Гэта калі не арыгінал, дык копія, аўтарызаваная экзэкутарамі * з іх подпісамі і пячаткамі і выдадзеная дому Вішнявецкіх, што пацвярджае надпіс на папцы аднаго з іх словамі «ad probandum» **, што нас не забыўся. Незаможны кароль не мог даць іншага доказу памяці сваім багатым крэўным, апроч agere gratias pro benevolentia» ***, і засведчыць, што vult exsolvi iisdam insciripta et assecurata ****. Гэты тастамент прыводзіць Кахоўскі ў «Клімактарыі-IV» (гл. нядаўна выдадзены ў Ліпску пераклад). Ludwig».*

---

* Экзэкутар — выканаўца волі згодна тастамента.
** Да ўхвалы (тут і ніжэй пераклад з лацінскай мовы Алеся Жлуткі).
*** Падзякаваць за добразычлівасць.
**** Выплаціць ім падпісанае і зацверджанае.

Лісцянятка напісана чырвоным атрамантам. Пад ім, толькі ўжо чорным чарнілам (ці не рукою Кіркора?), подпіс: Władysław Syrokomla. Сяброўскае пасланне аўтара «Вясковага лірніка» А. Кіркор нідзе не зарэгістраваў: ні ў храналогіі, ні ў алфавітным спісе. Таму пры пазнейшай, ужо ў наш час, апрацоўцы бібліятэчнымі супрацоўнікамі (Кіркораў альбом трапіў у зборы Ягелонскага універсітэта ў 1954 годзе) колькасць падлічаных аўтографаў павялічылася з 203 да 221.

Куды больш старадаўніх прозвішчаў напаткаў я ў адшуканай гутарцы «Паны Ліцвіне». Цэлае суквецце, праўдзівы скарб! Не верыце?

З'ехаліся неяк спадары ліцвіне:
Сапега з Радзівілам, Служка і Крышпіне.
Пацей, Казёл, Заранак, Война, Рудаміна,
Пац, Гедройць, Шэмет, Гелгуд — іншая дружына.
Рахавалі імёны рознага ды звону,
Сакавітыя прозвішчы з кожнага дому.
Першым крыкнуў Сапега, аж ляціць Закліка.
Служка потым кажа: «Паклічце Драньчыка».
Пасыпаліся за ім, бы з казачнага рогу,
Розныя імёны — агідныя нат Богу.
Сляпец, Келпш, Гэць, Пакаш,
Кіркуць, Бідзік, Шарапата,
Барэйка, Дарагініч, Ладзята, Пуцята,
Лойка, Дырда, Кілбаса, Кішка, Верашчака,
За імі Шпырка, Дзядэрка, узяўшы з сабой Рака...

Нават мой шурпаты пераклад з польскай мовы захаваў, спадзяюся, каларыт даўніх прозвішчаў-найменняў. Ну [illegible] за Ракам чарадою замільгалі не менш каларытныя: Зарэмба, Нарвіла, Карп, Дулеба, Шышка, Небарачак, Турлай, Пачабут, Кучук, Лапата, Чаропка, Талочка, Чобат, Смятана, Забела, Кушаль, Сумарока, Пішчала, Пятух, Бурка, Хоцька, Блус, Корбут, Жур, Кісель, Слізень, Кіркор, Шопка, Орда, Рымша, Карась, Струп, Баболя, Воўк, Камар, Гласка, Сялява, Бацян, Костка, Плятар, Пінчук...— і не ведаеш, на якім запыніцца, скончыць пералік.

Разабрала цікаўнасць: а колькі ўсяго згадана іх на 6-ці аркушыках гутаркі? Пачаў лічыць... 685! Амаль сем соцень! Праўдзівая энцыклапедыя для тых празаікаў, хто задумае пісаць творы пра мінулае Беларусі. І выдумляць — галаву ламаць — не варта.

У канцы рыфмаванага «анамастычнага слоўніка XIX стагоддзя» празаічная заўвага-прыпіска: *«Копія*

*гэтых безыменных рыфмаў ва ўласнасці гр(афа) Зыгмунта Пуслоўскага ў Кракаве, арыгінал на руках у вяльможнага Язэпа Орды ў Дзеравянчыцах Слонімскага павета»*.

Арыгінал, трэба думаць, на маёй радзіме не захаваўся. Як не захавалася і пэўная частка «пялёсткаў» — пералічаных тыпова беларускіх прозвішчаў. Паўстанні, войны, ліхалецці, рэвалюцыі, рэжымы, рэпатрыяцыі абтрасалі родавыя дрэвы, дабіраліся да каранёў, сціралі — да папялішчаў — на крывіцкай зямлі старажытныя вёскі, фальваркі, хутары, аселіцы, засценкі, мызы, калоніі, леснічоўкі, не пакідаючы на месцы котлішчаў ці ў пошуме абгарэлых прысадаў найменняў колішніх руплівых гаспадароў...

**26 красавіка. Аўтографы з бібліятэкі ПАН**

Ягелонка — найбагацейшая рукапісная скарбніца сівога Кракава. Але ёсць тут і іншыя зборы. Прыкладам, на вуліцы Слаўкоўскай месціцца аддзел рукапісаў бібліятэкі Польскай акадэміі навук. Менавіта ў яе калекцыі захаваўся адзіны вядомы літаграфаваны асобнік гутаркі «Крыўда і праўда», якая была выдадзена ў часы Каліноўскага. Так, ці не адзіны, бо лёс экземпляра з акадэмічнай бібліятэкі Пецярбурга (БАН СССР у Ленінградзе) пасля сумна вядомага пажару, магчыма, склаўся трагічна-незваротна.

На вокладцы кракаўскага асобніка ацалела адно слова «Kryūda», выразна напісанае залатымі літаркамі на чорнай скуры «корешка». Ці то гэта назва першапачатковая, ці то слова «праўда» зацёрлася — не ведаю. Кніжачку цяжка назваць кнігай, а тым больш зборнікам, хоць на тытульным лісце, як і належыць, красуецца: Пецярбург, 1863. Выданне танюткае — адна вокладка. Затое які змест!

Братцы, дужа нам ні ладна!
За Маскалём жыць нісkладна.
Ня то, што за Польшчы-маткі,
Тагды-то былі парадкі!

У вусім мелі выгоду,
І Пан Бог даваў уроду:
Як лес, бывала, пшаніца,
Колас жыта сірабрыцца.
Ячмень, грэчка і авёс —
І гарох, як сьціна рос.

Агародаў ні прыбраць,
Шуміць травой сінажаць;
Кароў, сьвіней і авец
Повін, бывала, хлявец.
А конікі ж то якія?
Гнедзькі, варанцы, сівыя;
Пчолкі ў вулях гудзелі,
Мёд д'атвалу пілі, елі.
Гнулісь пад фрухтам сады —
То-то бывалі лады!..

Пэўна, з-за моцнай антымаскальскай скіраванасці і не маглі надрукаваць гутарку папярэднія даследчыкі (у «метрычцы карыстання» мой аўтограф трэці пасля Леанілы Малаш, якая вясною 1976 года працавала тут над тэмай «Беларускі фальклор», а ўлетку наступнага гутарку гартаў Уладзімір Казбярук). Пэўна і мне цяпер давядзецца зрабіць рэверанс, прамямліўшы нешта пра «ідэалізацыю адносін Белага Арла і Пагоні». Але ад паклонаў спіна не баліць — абы **такое** надрукавалі.

Выказаць бед нету слоў:
Маскаль зрабіў многа ўдоў,
Нарабіў многа сірот,
Нагаціў многа балот
Нашым братам і дзяцьмі —
Піралом іх паламі!
Ах, Божухна, нам прасьці!
Што так мусім іх клясьці.
Бо ня можна ўцярпець:
Вум і сэрца не знясець
Таго нішчасьця і бед,
Якіх і ліку ўжо нет!..
За праклятым маскалём
Нету шчасьця ні ў чом;
Бог уроды ні даець,
Маскаль пасьледкі грабець.
Ня то, што за Польшчы-маткі,
Сказаць, то былі парадкі! [...]
А цяпер наатварот,
Худ і бедзін наш народ:
Штоб у некруты нас браць,
Штоб падаткі выдзіраць,
Штобы дзіржаць у няволі —
І рабіць па сваей волі,
Маскаль трэбуіць з паноў
Спаўняць цяжкі ўстаноў.

Маскалі як груганы,
Ня то, што нашы паны;
Ядуць нас, п'юць нашу кроў,

То нада ж іх гнаць далоў
Ад нашай зямлі радной;
Прагонім — будзіць пакой.

Яны і веру сьвятую
Звялі ў сызму праклятую;
Задавалі нам і мукі,
Прывадзя нас да разлукі
Ад нашага з прэдкаў Бога.
Што-то была за трывога!
На нас для гэтых разлук
Ні адзін ссеклі лазы пук.
І ў ланцугі кавалі,
І ў турмы засажалі,
Навадзілі і салдат —
А салдат-то ня свой брат!
Курэй, сьвіней і кароў
Елі-пілі нашу кроў.
Пранцы б іх саміх паелі!
Так нам яны надаелі!
Вось жа ад лютага гада!
Братцы! бараніцца нада.

Зрэшты, якая тут ідэалізацыя, калі аўтар гутаркі ўсведамляў і напісаў чорным па белым:

Вот жа! еднасьць мусіць мець,
Хто айчызну дастаець.

У час паўстання 1863—1864 гадоў еднасць на беларускіх абшарах з'яўлялася рэдкаю госцяй. Панавалі ліхалецце ды варажнеча, нянавісць, настоеныя на прыгнёце і векавых крыўдах і ўдала скарыстаныя чарговымі грабежнікамі. У суседнім з гутаркай «Крыўда і праўда» зборы паўстанцкай літаратуры трапіў на карэспандэнцыю «З Магілёва над Дняпром».

*«Урэшце злачынныя, але дарэмныя дасюль намаганні маскоўскага ўрада падбухторвання сялян супраць аб'яўленага пагрозаю дзяржаве паўстанцкага руху і супраць землеўласнікаў у нашым закутку ў выніку нястомнай і спрытнай працы розных паслугачоў і маскоўскіх папоў дасягнулі сваёй жаданай і жахлівай мэты. Некалькімі сказамі акрэслім сучаснае становішча на Беларусі.*

*Беларускі люд пачцівы, лагодны, аднак цёмны, а таму легкаверны. Яму ўбілі перакананне, што палякі хочуць адабраць прывілеі, нададзеныя ім царом, запрэгчы ў новую паншчыну, а веру іх праваслаўную*

*праследаваць, хоць самі ў пераважнай большасці не так даўно змушаныя былі перайсці з вуніі ў праваслаўе.*

*...Няхай цяпер Захад, якога Масква страшыла сацыялізмам і камунізмам палякаў, пераканаецца, хто на справе з'яўляецца вернікам тых ідэй: Польшча, што на полі бою дабіваецца незалежнасці [...], ці Масква, што нацкоўвае цёмны люд — малодшых братоў — супраць старэйшых, заахвочваючы да забойства, рабунку багатых, распальвае рэлігійны фанатызм?..*

*З шматлікіх фактаў зверства, учыненых Масквою ды хлопамі, назаву забойства (zarżnięcie) пана Ламінскага ў Сенненскім, пана Чудоўскага ў Горацкім, здзекі над 70-гадовым старцам панам Антонам Пшасмыцкім у Чэрыкаўскім паветах».*

Што перажыў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, дачуўшыся пра жахліва-пакутную смерць свайго нашмат маладзейшага прыяцеля-апекуна, якому прысвяціў «Быліцы. Расказы Навума»,— Тадэвуша Чудоўскага? Паніча, які змагаўся за лепшую долю сялян і згінуў пад косамі мужыкоў...

**27 красавіка. Кніжны фальсіфікат, або «Бальшавіцкія хітрыкі»**

У той самай бібліятэцы ПАН замовіў сігнатуру 3648. У маіх картках пазіцыя занатавана коратка: «Родзевіч Л. На паняволеных гонях. 1928». Разгарнуў кнігу і хоць не адразу, але знайшоў патрэбны загаловак. Адпавядае. Ёсць нават пасвячэнне: «Барацьбітам за вызваленьне Зах. Беларусі з-пад панскай акупацыі прысьвячаю. Аўтар».

Зборнік напачатку моцна азадачыў мяне. Падумаў: вось дзе рэдкі ўзор польскай талерантнасці...

Цяпер іх сіла,— наша кроў
Чырвоніць мур, цьвіце на гонях.
Яны нам сэрца рвуць з грудзёў,
Прыкладам б'юць — друзгочаць скроні.
  На трэсках выробленых пушч
  Сьляды расстрэленых паўстанцаў.
  Пакору ад працоўных гушч
  З жыцьцём вымучваюць пазнанцы [...]
Што ж, акупант, бушуй пакуль,—
А мы мець будзем перамогу.
На вас усіх нам хопіць куль.
На помсту нашу — вас нямнога.

Першая вокладка гэтага загадкавага выдання дэкларавала: «Адам Хмель. Беларуская народная песьня. Адбітак з т. 7, ч. 1 матэрыялаў і прац моўнай камісіі Акадэміі мастацтваў у Кракаве. Кракаў, накладам Акадэміі мастацтваў. Галоўны склад у кнігарні Польскай выдавецкай суполкі. 1928».

І толькі ў канцы зборніка знайшоў тлумачэнне санацыйнай «талерантнасці» — далучаныя дзве старонкі машынапісу з артыкула «Бальшавіцкія хітрыкі». Вось кароткая вытрымка:

«У Польскую Акадэмію Мастацтваў прыслана брашурка, надрукаваная на марнай паперы пад загалоўкам: «Адам Хмель...» (далей прыводзіцца вядомы ўжо чытачу загаловак). Акадэмія Мастацтваў сапраўды выдала VII том «Прац і матэрыялаў моўнай камісіі», дзе ў сшытку І апублікавана праца п. Адама Хмеля. Але на тым сканчваецца падабенства VII т. названых прац і дасланай адбіткі, паколькі І сшытак гэтага тома выйшаў яшчэ ў 1915 г., а п. Адам Хмель змясціў у ім перадрук тэксту пачатку XVI стагоддзя пад назвай «Кнігі св. Аўгустына /.../ Аб хрысьціянскім жыцці»...

Як жа доўга ў хрысціянскім свеце паміж каталіцкай Польшчай ды праваслаўнай Расіяй не знаходзілася месца Беларусі.

**28 красавіка. Украінскія аўтографы ў паперах Залескага**

Юзафу-Багдану Залескаму беларуская літаратура застанецца ўдзячная за ацалелыя самыя раннія спісы паэмы «Тарас», а вялікая Украіна, дзякуючы Залескаму, займела ўкраінскі аўтограф славутага аўтара «Мёртвых душаў». Так, сярод некалькі соцень вядомых пісем Мікалая Гогаля ўсяго адно-адзінае пісана паўкраінску. Падаючы яго ў XI томе Поўнага гогалеўскага збору твораў (Ленінград, 1952), выдаўцы назвалі крыніцу: «печатается по тексту «Киевской старины». На старонкі апошняй пісьмо трапіла з «Gazety Lwowskiej», дзе было апублікавана ў тым самым 1899 годзе (№ 218). Хоць выданне 1952 г. акадэмічнае, аднак звесткі пра сам аўтограф у каментары адсутнічаюць. Але вось ён перада мною, прыхаваўся сярод дзесятка папак з фонду Ю.-Б. Залескага. Сігнатура 9199 III. Арк. 28.

Я не стану дэталізаваць правапіснае і іншае адроз-

ненне друкаванага (кананічнага) тэксту ліста ад гогалеўскага аўтографа, проста пазнаёмлю беларускага чытача з арыгіналам.

*«Дуже, дуже було жалко, що не застав пана Земляка дома. Чував що на пана щось напало, не то соняшныця, не то завяныця (хай прысныться ій лысый дидько), та тепер спасиби Богу пан буцим кажуть зовсим здоров. Дай же, Боже, щоб на довго, на славу усій козацькій земли и давыв бы чернецького хлиба всякій болизни и злыдням. Тай й нас бы не забував, пысульки в Рим слав. Добре б було як бы и сам туды колы небудь примандрував.*

*Дуже дуже блызкій земляк, а по сердцю ще блыжчій чим по земли.*

*Микола Гогаль».*

У матэрыялах Ягелонскай бібліятэкі аўтограф датаваны недакладна: 1834 год. Больш слушныя развагі на гэты конт у аўтараў каментару XI тома; ліст напісаны непасрэдна перад ад'ездам М. Гогаля ў Рым у другой палове лютага 1837 года.

Пад час згаданай юбілейнай урачыстасці ў 1882 годзе Залескі атрымаў у Парыжы не адзін віншавальны панегірык на мове бацькоўскай зямлі. Украіна-нэнька памятала пра свайго выдатнага сына і благаславіла вуснамі Платона Кастэцкага. Аўтар шырокавядомага ў тыя часы верша «Хто меч архангела з ножнаў дастане» звярнуўся да юбіляра «Нашай малітвай»:

Во імя Отца і Сына
То наша молытва.
Яко Тройца, так едына
Польшча, Русь і Лытва!..
Едной мы жыем надзіів,
Спільная нам слава,
Всім зарівно милый Київ,
Вільно і Варшава...

Напрыканцы XIX стагоддзя кожны з паняволеных славянскіх народаў паступова пазбаўляўся прывідных ілюзій пра магчымасць вызвалення з-пад ярма захопнікаў з дапамогаю Францыі, Германіі ці іншай дзяржавы. Выспявала перакананне: што пасеем — тое пажнём. Уласная будучыня ў нашых уласных руках.

**29 красавіка. Дзень апошні**

Вось і наваліўся развітальны час пошукаў у архівах Польшчы. Развітанне, кажуць, заўсёды крышачку смерць. Развітанне з дарагімі мясцінамі — як ростань з блізкім чалавекам. Я назаўсёды пакідаў тут часцінку душы, пакідаў у краіне, дзе прамільгнула паўтара месяца майго жыцця.

Усе апошнія дні я паміраў ад шалёнага тэмпу, спрабуючы давесці да канца шматлікія пошукі. Вось ужо хацеў расстацца з думкай-надзеяй пагартаць у Ягелонцы асобнік беларускага перакладу «Пана Тадэвуша», нешчасліва выдадзенага Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам у Вільні. Да вайны экземпляр першавыдання захоўваўся ў Кракаве, аднак нават дасведчаныя супрацоўнікі бібліятэкі Ягелонскага універсітэта не маглі напачатку мне дапамагчы, пакуль не ўзгадалі пра асобны «Стары каталог», дзе і знайшлася кніжыца, рэдкая не толькі ў багатых зборах былой імператарскай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу (у бібліятэках Беларусі яе наогул няма), але і ў Ягелонцы, пра што сведчыць нумар сігнатуры 803 I Rara, г. зн. рарытэт, рэдкасць. Кракаўскі асобнік «Пана Тадэвуша» пераплецены разам з польскамоўнай паэмай Дуніна-Марцінкевіча «Люцынка, або Шведы на Літве». У зборы Ягелонкі ён трапіў у 1872 г. ад тагачаснага дырэктара бібліятэкі, вядомага бібліёграфа Караля Эстрайхера.

У тым самым 1859 годзе, калі расійская цэнзура зарэзала Марцінкевічаў пераклад, паэма «Пан Тадэвуш» выйшла яшчэ адным асобным выданнем «з парыжскага арыгінала 1834 года» — у Торуні. Падобныя факты выразней падкрэсліваюць нашыя страты; апаленая канквістадорскім полымем драконавай цэнзуры беларуская літаратура акрыяла толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў, калі вось у Кракаве выпырхнула «Дудка беларуская» Мацея Бурачка. Друкарні Анчыца ўжо няма. На яе месцы — паркінг. Дацэнт Ягелонскага універсітэта Здзіслаў Нядзеля, які ў 1960 годзе пераслаў прафесару Сцяпану Александровічу мікрафільм Багушэвічавай «Тралялёначкі», апавядаў мне, што быў сведкам, як разбіралі друкарню Анчыца.

А хто палічыць беларускія страты тут, у Польшчы, пад час апошняй вайны?

Колькі ж вас, старадрукаў, рукапісаў славы,
Загінула беззваротна ў пажарах Варшавы!
Пажэрла вас полымя знішчальнай пароды,
Попел развеяў вятрыска ў тыя крывавыя годы.
Зборы Красіньскіх, Раперсвільскі, Бацірнольскі,
Бібліятэка Залускіх...

*Мечыслаў Яструнь. Паэма аб польскай мове.*
*(Пераклад мой.— Я. Я.)*

У Раперсвільскім зборы захоўвалася перапіска В. Дуніна-Марцінкевіча з эмігрантамі, удзельнікамі паўстання 1831 года.

А колькі згінула такога, аб чым нават не здагадваемся?

Вось толькі ў Кракаве дабраўся да падказаных мне Сакратам Яновічам мемуараў Лявона Міткевіча, выдадзеных у Лондане ў 1968 годзе. Былы польскі дыпламат у Летуве перад 1939 годам у сваіх вельмі каларытных «Ковенскіх успамінах» на старонцы 278 згадвае: *«Такім чынам, мы ўжо эмігранты* [...] *Цалкам кінулі ў Коўне хатнюю маёмасць, літаральна ўсё: мэблю, карціны, кілімы, бялізну, крышталь, шмат срэбра і г. д. Найбольш мне шкада фартэпіяна і маёй досыць грунтоўнай бібліятэкі пераважна вайсковай тэматыкі; меў таксама старую французскую энцыклапедыю з уласнаручным, аўтэнтычным надпісам Адама Міцкевіча: «Na Bożom sudzie wsiem w żopi budzie»... а таксама каштоўныя палотны мастакоў галандскай школы XVII стагоддзя...»*

Зрэшты, не будзем аплакваць страчанае. Лепш думаць пра тое, што засталося, што яшчэ можна адшукаць. Як... вось гэты надпіс Адама Міцкевіча.

Перавага даследчыка ў тым, што ён жыве прагаю знайсці беззваротна страчанае.

...Па абедзе цягнік вёз ужо мяне ў Варшаву, дзе ўвечары спадар Юрка Туронак паклікаў з сабою ў БГКТ на Старасьцінскую. Маё «развітанне» з архівамі Польшчы адбылося на вясёлай вечарыне: беларуская моладзь святкавала 25-годдзе Юркі Ляшчынскага. За бяседным сталом упершыню пачуў з жывых вуснаў і падцягнуў «гімн маладых ваяроў»: *«У гушчарах, затканых імглою, Шэрым змрокам, на золку, ў зару Ахвяруем табе мы сабою Кожны дзень, кожны час, Беларусь...»*



## «Удачы не было...»

**Замест эпілога**

*І потым паўторыцца тое,*
*Чаго аднаму не здалець:*
*За роднае ўсё і святое*
*Зноў будзе камусьці балець.*

В. Гардзей

Даруйце, даўнія беларускія пісьмёны: летапісы і гутаркі, мемуары і вершы... Даруйце, паэты і навукоўцы, што пакідаю вас многіх, не адшуканых, з пячаткаю на вуснах. Жыву прадчуваннем: прыйдзе новае, няўрымслівае племя даследчыкаў з далёкай беларускай стараны і падыме вас з забыцця, разаб'е камень маўчання.

А пакуль — уцякае з душы радасць ад знойдзеных залацінак. Бо колькі яшчэ застаецца схаванага! Шмат што з народжанага людскімі душамі, выпеставанага нашымі продкамі цягам доўгіх стагоддзяў бязгучна, нема чакае ў архіўнай цішы. Варта толькі штодня пераступаць архіўны парог і шукаць, шукаць, шукаць... Каб, займеўшы на сваім рахунку не адзін дзесятак знаходак, асэнсаваць крылатае, даўняе, звернутае і да архіўных пошукаў: «Удачы не было. Была ўзнагарода за цярплівасць».

*Келасуры (Сухумі) — Ракаў.*
*1988—1990 гг.*

Литературно-художественное издание
В ПРЕДЧУВСТВИИ НАХОДОК
Архивное эссе
ЯНУШКЕВИЧ Иосиф Иосифович
Минск, журнал «Молодость», на белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне
У ПРАДЧУВАННІ ЗНАХОДАК
Архіўнае эсэ
ЯНУШКЕВІЧ Язэп Язэпавіч
Мінск, часопіс «Маладосць», на беларускай мове

---

Галоўны рэдактар Г. Далідовіч
Рэдактар А. Камароўскі
Мастак Г. Хінка-Янушкевіч
Мастацкі рэдактар В. Казлоў
Тэхнічны рэдактар В. Марынчанка
Карэктар Н. Доваль

---

Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. Здадзена ў набор 21.01.94. Падпісана да друку 24.02.94. Фармат 84×108 1/32. Друк афсетны. Гарнітура школьная. Умоўн. фарбаадб. 6,3. Умоўн. друк. арк. 5,04. Ул.-выд. арк. 5,1. Тыраж 1920 экз. Зак. 64. Цана па падпісцы 50 р., у розніцу — 75 р.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.




**Прапраўнучка В. Дуніна-Марцінкевіча Барбара ля магілы свайго таты Міраслава Крыжаньскага, прафесара матэматыкі Ягелонскага універсітэта. Кракаў, Ракавіцкі цвінтар, 1988. Здымак аўтара.**

Індэкс 74821



БІБЛІЯТЭКА
ЧАСОПІСА
маладосць

Эсэ маладога, але вопытнага даследчыка беларускай літаратуры мінулага стагоддзя Язэпа Янушкевіча — нечаканая знаходка не толькі для шырокага кола чытачоў, але і для спецыялістаў-літаратуразнаўцаў. Спецыфіка архіўнай працы патрабуе глыбокіх ведаў і вялікага цярпення, энергіі і назіральнасці, схільнасці да аналізу і веры ў поспех. Нястомныя пошукі і цікавейшыя адкрыцці... Усё гэта ёсць у кнізе, якую аўтар прапануе вашай увазе.